


# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

23 ЛІСТАПАДА 2001 г. № 47/4129 КОШТ 136 РУБ.




## БУДЗЬМА РАЗАМ У 2002 ГОДЗЕ!

*Шаноўныя чытачы! Пачалася падпіска на першае паўгоддзе 2002 года. Падпіску можна аформіць у любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 1100 рублёў, на тры — 3300 рублёў, на шэсць — 6600 рублёў.*

**Індывідуальны індэкс — 63856.**

*Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 2500 рублёў, на тры месяцы — 7500 рублёў, на шэсць месяцаў — 15000 рублёў.*

**Ведамасны індэкс — 63857.**

***Першы снег...***

*Фота А. МАЦЮША*



# КОЛА ДЗЁН

***Вось і зіма. З марозам і снегам. Гледзячы праз акно, страшнавата выходзіць на вуліцу. Ды зіма да нас прыйшла не ўпершыню. Перазімуем. А тым больш, калі чытаем газеты з афіцыйнай інфармацыяй пра стан жыллёва-камунальнай службы і наогул пра стан усёй эканомікі нашай дзяржавы. Мяркуючы па напісаным, то не так усё і дрэнна. Але наперадзе ў нас снежань, студзень, люты... І ўсё ж перазімуем, тым больш, што зіма для многіх з нас любімая пара года...***

## САМІТ ТЫДНЯ

У гэтыя дні ў італьянскім Трыесце праходзіць саміт кіраўнікоў урадаў краін Цэнтральнаеўрапейскай ініцыятывы. На чале ўрадавай дэлегацыі нашай краіны ў саміце ўдзельнічае прэм'ер-міністр Беларусі Генадзь Навіцкі.

## ПАВЕДАМЛЕННЕ ТЫДНЯ

Выступаючы на пленарным пасяджэнні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі Беларусі Аляксандр Мількота паведаміў, што грамадзяне нашай краіны да 2004 года будуць аплачваць 80 працэнтаў ад кошту карыстання жыллём. На сённяшні дзень мы аплачваем толькі 20 працэнтаў ад кошту камунальных паслуг. Міністр нагадаў, што ў 1995 годзе аплата насельніцтвам паслуг дасягала 50 працэнтаў. Цяпер жа штогод працэнт аплаты будзе ўзрастаць: у 2002 годзе — да 40 працэнтаў, у 2003 годзе — да 60 працэнтаў, у 2004 — да 80 ад кошту аказаных паслуг. Праўда, сам міністр прызнаў, што часам узровень аказваемых паслуг жыллёва-камунальнай службы не дацягвае да ўзроўню нават сённяшніх плацяжоў за карыстанне жыллём. І яшчэ — на сённяшні дзень 175 тысяч "кватэрных" рахункаў маюць запазычанасць...

## ДАЎГІ ТЫДНЯ

Даўжнікамі бываюць не толькі простыя грамадзяне, але і дзяржавы. Праўда, зусім мала на свеце краін, якім нікому нічога не вінаваты. Знешні дзяржаўны доўг Беларусі зменшыўся з пачатку года на 3,66 працэнта і склаў на 1 кастрычніка 782,1 мільёна долараў. З пачатку года ў Беларусь было прыцягнута замежных крэдытаў на агульную суму 95,16 млн. долараў, з якіх крэдыты Германіі складаюць 35,09 млн. долараў, Расіі — 30 млн. долараў, Чэхіі — 8,48 млн., Турэцкага банка рэканструкцыі і развіцця — 6,41 млн., Польшчы — 5,64 млн., Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця — 2 млн., Аўстрыі — 0, 68 млн. Усяго з 1992 года, калі пачаўся фарміравацца знешні дзяржаўны доўг Беларусі, на кастрычнік 2001 года ў нашу краіну было прыцягнута 2149, 94 млн. валютных крэдытаў, якія і фарміруюць знешні доўг. За гэты час было выплачана 1772,55 млн., у тым ліку з бюджэту — 1260,99 млн. валюты, за кошт уласных сродкаў пазычальнікаў — 511,56 млн. Словам, не вельмі ганяемся за крэдытамі, таму і даўгі не асаблівa страшныя...

## ЗАСНАВАННЕ ТЫДНЯ

У памяць былога губернатара Гродзеншчыны Аляксандра Дубко заснавана імянная стыпендыя для студэнтаў гродзенскіх ВНУ і вучняў сярэдніх школ. Па 12 "мінімалак" атрымаюць 30 найлепшых навучэнцаў вобласці.

## СТЫХІЯ ТЫДНЯ

Апошнімі гадамі вельмі часта па ўсім свеце адбываюцца трагедыі, звязаныя з прыроднымі катаклізмамі. Яны і раней былі, але пра іх мала пісалася ў сродках масавай інфармацыі. На жаль, у мінулую пятніцу моцны шквалісты вецер нарабіў бяды на тэрыторыі нашай краіны. Ад ветру пацярпеў 461 населены пункт. Было пашкоджана 166 сельскагаспадарчых будынкаў, з іх 81 малочнатаварная ферма, 15 вытворчых памяшканняў, 148,1 кіламетра ліній электраперадач, 29 жылых дамоў. Было абясточана 386 населеных пунктаў і 48 сельскагаспадарчых будынкаў. За гэтымі лічбамі стаяць не толькі эканамічныя страты, але і чалавечыя лёсы. Але як бы там ні было, людзі ў нас моцныя і гэтая бяда будзе перажыта. І ўсё ж хацелася б, каб Бог больш спрыяў беларусам...

## З'ЕЗД ТЫДНЯ

У Беластоку (Польшча) адбыўся 14-ы з'езд Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ), якое спецыялізуецца на правядзенні культурных, а галоўнае беларускіх імпрэзаў і фестываляў. Узначальвае таварыства Ян Сычэўскі. Словам, беларушчына на Беласточчыне яшчэ не загінула...

## ПРАБЛЕМЫ ТЫДНЯ

У нашай краіне, калі меркаваць па тым, што больш як 53 працэнты жыхароў маюць лішнюю вагу, галадаючых няма. Але лішняя вага ў нашых грамадзян — гэта не толькі праблема ў іх асабістым жыцці, але і праблема дзяржаўная: 26 працэнтаў з іх ліку пакутуюць ад хвароб чатырох ступеняў цяжкасці, звязаных з атлусценнем. На думку прафесара кафедры гастраэнтэралогіі і нутрыцыялогіі Беларускай медыцынскай акадэміі паслядыпломнай адукацыі Івана Бранаўца, такая крытычная сітуацыя склалася па прычыне адсутнасці ў Беларусі нацыянальнай канцэпцыі збалансаванага харчавання на аснове айчынных прадуктаў. Праблема лішняй вагі вядзе да цукровага дыябету, сардэчна-сасудзістых захворванняў, інваліднасці, стрэсаў, скарачэння жыцця. Толькі на кампенсацыю выдаткаў і нейтралізацыю цукровага дыябету ў нашай краіне штогод траціцца 10 працэнтаў бюджэту Міністэрства аховы здароўя. Карацей кажучы, калі вы яшчэ не трапілі ў 53 працэнты жыхароў Беларусі, якія маюць лішнюю вагу, то і надалей памятайце, што лепей недаесці, чым пераесці...

## ЦЫРЫМОНІЯ ТЫДНЯ

У Віцебскім кафедральным касцёле святой Барбары адбылася цырымонія-інсталяцыя кафедральнага капітула. Першы ў нашай краіне кафедральны капітул створаны ў Віцебскай рымска-каталіцкай епархіі па дэкрэце Папы Рымскага Яна ІІ. У склад капітула ўвайшло 12 ксяндзоў. Як адзначана на афіцыйнай цырымоніі-інсталяцыі, такім чынам атрымаў прызнанне вялікі ўклад святароў у захаванне каталіцтва і пашырэнне яго ўплыву на Віцебшчыне. За два апошнія гады колькасць прыходаў у рэгіёне падвоілася. Цяпер іх больш як два дзесяткі, а пастарскую дзейнасць там вядуць 70 ксяндзоў. Трэба спадзявацца, што яны нясуць беларусам разам з верай у Бога беларушчыну...

## НАПАМІН ТЫДНЯ

Ужо не за гарамі новы год, калі жыхары нашай краіны павінны будуць падаць у падатковы орган дэкларацыю аб сукупным гадавым даходзе. Пра запаўненне патрэбных папер пара ўжо думаць сягоння, каб пасля не бегаць з аднаго месца працы на другое і высвятляць, колькі і дзе зароблена. У выпадку, калі да канца года не павялічыцца памер "мінімалкі", дэкларацыю трэба будзе падаваць усім грамадзянам, якія, працуючы ў некалькіх месцах, атрымалі гадавы даход больш за 1 мільён 500 тысяч рублёў. А калі меней, то можна спакойна працаваць і далей...

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Падпісаннем дамовы аб супрацоўніцтве паміж Саюзамі пісьменнікаў Балгарыі і Беларусі завяршыўся візіт у Балгарыю старшыні СБП Вольгі Іпатавай. З балгарскага боку дакумент падпісаў старшыня Саюза балгарскіх пісьменнікаў Мікола Радзеў.

Дамова прадугледжвае далейшае творчае супрацоўніцтва паміж перыядычнымі выданнямі абедзвюх краін, абмен пісьменніцкімі дэлегацыямі. Бакі абавязаліся садзейнічаць у навукова-даследчай дзейнасці навукоўцаў пры даследаванні беларускай і балгарскай літаратуры.

Візіт Вольгі Іпатавай, якая знаходзілася ў паўднёвай славянскай краіне па запрашэнні і пры садзейнічанні Пасольства Беларусі ў Балгарыі, быў багаты на цікавыя сустрэчы і мерапрыемствы. В. Іпатава выступіла ў школе горада Велінграда, прачытала лекцыю аб беларускай літаратуры ў Сафійскім універсітэце, прыняла ўдзел у прэзентацыі кнігі Найдана Вылчава "Мой беларускі сшытак", дзе па-балгарску ўвасоблены вершы Ніла Гілевіча, Яўгеніі Янішчыц, Анатоля Вярцінскага, Генадзя Бураўкіна і іншых беларускіх аўтараў, брала ўдзел у іншых мерапрыемствах.

●

Свята падвядзення вынікаў рэспубліканскага конкурсу драматычных твораў для дзяцей адбылося ў актавай зале Дома літаратара. Як вядома, конкурс гэты праводзіўся па ініцыятыве Саюза пісьменнікаў сумесна з Міністэрствамі адукацыі і культуры пад дэвізам "На цябе, наша моладзь, надзея". Каардынатарам праекта выступіла Г. Каржанеўская.

У творчым спаборніцтве ўдзельнічалі больш за 90 аўтараў — як прафесіяналы, так і аматары-пісьменнікі, студэнты, выкладчыкі, выхавацелі садкоў, работнікі культуры.

На пачатку свята да лаўрэатаў са словамі прывітання звярнулася старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава, начальнік галоўнага ўпраўлення сацыяльнай і выхаваўчай работы Міністэрства адукацыі Георгій Бутрым, начальнік аддзела ўстаноў культуры Міністэрства культуры Тадэвуш Стружэцкі.

Сярод тых, хто атрымаў вышэйшыя ўзнагароды конкурсу, Георгій Марчук, Ігар Сідарук і Зінаіда Дудзюк, Андрэй Герашчанка, Генадзь Аўласенка, Мікола Захаранка, Андрэй Федарэнка, Людміла Рублеўская, настаўніцы Лілія Мялешка, Ала Саскавец, Людміла Кліменя, школьнікі Дзяніс Бушкоў, Людміла Васько, Філатаўскі школьны тэатральны гуртok з Круглянскага раёна і іншыя.

Больш падрабязная інфармацыя пра творчы конкурс п'ес для дзяцей будзе надрукавана.

**Н. К.**

●

Адбылося сумеснае пасяджэнне секцый крытыкі і мастацкага перакладу, на якім падрабязна разглядаліся пытанні асвятлення стану перакладной літаратуры. У абмеркаванні бралі ўдзел Міхась Мушынскі, Іван Чарота, Янка Саламевіч, Валянціна Куляшова, Анатоль Бутэвіч, Іван Чыгрын, Уладзімір Мархель, Уладзімір Казбярук, Яўген Міклашэўскі, Яўген Каршукоў, Уладзімір Аніськовіч. Як падкрэслівалася, на сённяшні дзень праца перакладчыка застаецца нібыта па-за ўвагай крытыкі, страцілася ўсведамленне значнасці і неабходнасці гэтай дзейнасці, хоць у свой час увага да перакладчыкаў была вельмі патрабавальнай.

Падрабязны разгляд перакладаў на рускую мову "Новай зямлі" і "Сымона-музыкі" Якуба Коласа зрабіў М. Мушынскі, які падкрэсліў недапушчальнасць беспадстаўных купюр і скарачэнняў, пры якіх губляюцца шмат якія своеасаблівыя нюансы, што можа прывесці да скажэння сэнсу і зместу арыгінала. А перакладаць на рускую мову трэба, бо ў краінах блізкага замежжа беларускіх аўтараў чытаюць толькі па-руску. Таму і ўзнікла прапанова пра неабходнасць звярнуцца да кіраўніцтва органаў Саюза "Беларусь—Расія" з мэтай падтрымкі, у тым ліку і фінансавай, конкурсу на лепшы пераклад "Новай зямлі" ў сувязі са святкаваннем 120-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа.

**М. Р.**

УРАЖАННЕ

# Прага стабільнасці

XVII з'езд Беларускага саюза мастакоў прайшоў надзвычай спакойна. Без скандалаў, дэмаршаў, без выразнага супрацьстаяння розных мастакоўскіх груповак. З'езд зацвердзіў змены і дапаўненні непрынцыповага характару ў статуце саюза, прыняў рэзалюцыю, абраў новага старшыню. Замест Генадзя Буралкіна, які займаў гэтую пасаду так доўга, што мала хто памятае, колькі насамрэч тэрмінаў запар (тры, чатыры, пяць?..) ён кіраваў БСМ, новы старшыня — Уладзімір Басалыга. У дадзеным выпадку ён фігура кампрамісная. Ён у пэўнай ступені задавальняе і прагматычных канфармістаў, якія б хацелі праз структуры БСМ вырашыць свае матэрыяльныя праблемы, і мастакоў, якія ставяцца да творчасці сур'ёзна. Уладзімір Басалыга вядомы мастак і ўвогуле аўтарытэтная асоба. Мастакі спадзяюцца, што ён здолее годна прадстаўляць саюз на перамовах з уладаю. Сітуацыя ў БСМ і вакол творчага саюза такая, што на кантакты з уладаю пайсці давядзецца. Найперш трэба пераканаць чыноўнікаў, што душыць фінансава творчыя асяродкі неразумна — зрэшты, не па-гаспадарску. Невядома, ці будуць калі канвертуемымі беларускія грошы, а мастацтва "канвертуемае" заўжды. Каб даць падняцца прадпрыемствам саюза і найперш Барысаўскаму камбінату, трэба на пэўны час вызваліць іх ад падаткаў, стварыць пад эгідаю БСМ штосьці накшталт "свабоднай эканамічнай зоны", але ці пойдзе на гэта ўлада? Пакуль складваецца ўражанне, што мастакі і чыноўнікі гавораць на розных мовах.

Не ад добрага жыцця на з'ездзе гучала прапанова абраць ганаровым старшынёю БСМ Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнку. Маўляў, можа, тады ўлада павернецца да саюза тварам...

Мастакі дэкларуюць намер адНавіць у поўным аб'ёме Мастацкі фонд, дзейнасць экспертных і закупачных камісій, дзяржаўны заказ, просяць урад зноў зрабіць у Міністэрстве культуры аддзел, які мусіць кіраваць выяўленчым мастацтвам. Інакш кажучы, вярнуць усё, ад чаго шчасліва пазбавіліся за часы кволай дэмакратыі. Нельга вінаваціць людзей у тым, што яны прагнуць стабільнасці, але ад такой стабільнасці недалёка і да "цвёрдай рукі" ды яшчэ ў "вожыкавай рукавіцы". Рэзалюцыя, акрамя таго, заклікае ўладу паспрыяць тым ці іншым мастацкім акцыям, не даць загінуць тым ці іншым культурніцкім аб'ектам.

З'езд прайшоў спакойна, і на тое ёсць прычыны. Большасць дэлегатаў, як мне падаецца, добра ўсведамлялі, што не так ужо важна, хто будзе на чале БСМ, якія рэзалюцыі-адозвы прыме з'езд, як будзе адрэдагаваны статут. Галоўным пытаннем была і застаецца маёмасць. Калі хтосьці з залы запытаў Басалыгу на трыбуне, калі будуць прыватызаваны майстэрні? — Уладзімір Самойлавіч адказаў, што калі гэта адбудзецца, дык разваліцца саюз. Дарэчы, так яно і будзе... Не здзіўлюся, калі прадстаўнікі абласных арганізацый саюза, вярнуўшыся са з'езда, зоймуцца менавіта перадзелам маёмасці. Скажам, напачатку абвесцяць прадпрыемствы саюза ў абласцях не рэспубліканскай БСМаўскай уласнасцю, а мясцовaю — гродзенскаю, віцебскаю, магілёўскаю і гэтак далей, каб карыстацца ёю, не азіраючыся на Мінск. Да гэтага іх элементарна могуць прымусіць рэаліі эканамічнай палітыкі дзяржавы.

Магчыма, у перспектыве ў БСМ застанецца толькі функцыя прафсаюза. Гэта значыць, бараніць сваіх ад "наездаў" улады, трымаць пад кантролем пэўны сегмент рынку мастацтваў, сачыць, каб "браканьеры" не збівалі цэны на творчую прадукцыю сяброў саюза і гэтак далей. Прынамсі, такая тэндэнцыя выявілася на гэтым з'ездзе.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

МЕРКАВАННЕ

# Тутэйшыя — паладзім...

14 лістапада ў Купалаўскім тэатры, апошнім часам даволі добраўпарадкаваным (9—10 лістапада на першай сцэне краіны прайшла ўжо другая ў гэтым сезоне прэм'ера), адбылося сенсацыйнае здарэнне: за некалькі гадзін да пачатку знакамітых "Тутэйшых" Янкі Купалы акцёрам паведамілі аб замене пастаноўкі на іншы спектакль.

Па афіцыйных звестках гэта адбылося з прычыны як быццам састарэлых дэкарацый (і сапраўды, "састарэлых": бел-чырвона-белая палітра павінна была знікнуць са свядомасці беларусаў яшчэ пасля вядомага рэферэндуму), якія маглі незнарок траўміраваць акцёраў (а ў пастаноўцы занятыя М. Захарэвіч, Г. Аўсяннікаў, А. Лабуш, З. Белахвосцік, А. Сідарава і іншыя). Між іншым, спектакль "Тутэйшыя" ў рэжысуры М. Пінігіна ўжо адзінаццаць гадоў у рэпертуары тэатра. Дзевяць месяцаў таму гэта пастаноўка, якая ў 1992 годзе атрымала Дзяржаўную прэмію Беларусі, з поспехам прайшла на Купалаўскай сцэне. З поспехам мусіла б адыграцца і цяпер, калі б...

Наогул, ёсць нешта сімвалічнае ў тым, што "Тутэйшыя" Янкі Купалы замянілі на спектакль "Свае людзі — паладзім" А. Астроўскага. Як вядома, у сваім сцэнічным творы М. Пінігін уздымае надзённую тэму канфармізму, а спектакль з такой назвай якраз яе падхопліває.

На гэтым тыдні ў газеце "Народная воля" з'явілася публікацыя пад загалоўкам "За "Тутэйшых" ніхто не змагаецца", у якой журналіст пытаецца ў вядомых літаратараў Беларусі, ці збіраюцца яны неяк рэагаваць, калі даведаюцца, што "Тутэйшых" знялі па палітычных прычынах.

На маю ж думку, забіць дракона, які ўвасабляе, паводле Я.Шварца, страх, сёння трэба купалаўцам у самім сабе. Ці прадаваліся б тады ў Нацыянальным тэатры рускамоўныя буклеты-афішы з "Тутэйшымі"? Ці не засмучала б іх усур'ёз, што на сцэне ідзе толькі адзін спектакль па п'есе Янкі Купалы — "Паўлінка", у той час калі ў рэпертуар тэатра трапляюць часам слабыя, нават самадзейныя пастаноўкі?..

**В. Б.**

ЮБІЛЕІ

# Коласаўскаму тэатру - 75!

Праз кожныя пяць гадоў на некалькі лістападаўскіх дзён Віцебск спраўджвае сваю даўнюю мару і ператвараецца ў сталіцу — сталіцу тэатральнага жыцця краіны. Менавіта сюды з'язджаюцца тэатралы з усёй рэспублікі, каб павіншаваць з юбілеем Акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа, які ў гэтым сезоне дадаў да сваёй назвы яшчэ і ганаровае званне Нацыянальнага. Сёлета аднаму са старэйшых і прафесійных тэатральных калектываў Беларусі спаўняецца семдзесят пяць.

Афіцыйнае адкрыццё тэатра адбылося 21 лістапада 1926 года. А перад гэтым былі яшчэ пяць год працы Беларускай драматычнай студыі, якая існавала пры Маскоўскім мастацкім тэатры. Будучым студыйцам прыйшлося вытрымаць вялікі конкурс — з чатырохсот жадаючых на вучобу ў Маскву трапіла толькі тры дзесяткі самых таленавітых. Сярод іх былі будучыя зоркі беларускай сцэны: А. Ільінскі, П. Малчанаў, Ц. Сяргейчык, А. Радзялоўская, Я. Глебаўская, М. Звездачотаў, Р. Кашэльнікава, С. Станюта... Нельга не ўзгадаць і першых беларускіх рэжысёраў савецкага часу: К. Саннікава, Л. Мазалеўскую, М. Міцкевіча. Пасля заканчэння вучобы ў Маскве Беларускую драматычную студыю ў поўным складзе накіравалі ў Віцебск і ганаравалі Другім беларускім дзяржаўным тэатрам (БДТ-2, бо Першы беларускі, утвораны з трупы І. Буйніцкага і «Таварыства драмы і камедыі» Ф. Ждановіча, ужо існаваў у Мінску). І гэтая назва прадвызначыла адносіны гэтых тэатраў на доўгія гады: мінчане першымі атрымалі і «імя», і ордэн Працоўнага Сцяга, і званні — спачатку «Акадэмічны», а потым і «Нацыянальны». Імя Якуба Коласа было нададзена віцебскаму тэатру невыпадкова — творы славутага пісьменніка неаднойчы з'яўляліся на гэтай сцэне. Тут атрымалі сваё тэатральнае ўвасабленне ягоныя «Вайна вайне» і «У пушчах Палесся», за імі — «На ростанях», «Сымон-музыка»,»На дарозе жыцця». І, нарэшце, адна з апошніх работ тэатра — спектакль «Зямля» паводле паэмы Якуба Коласа «Новая зямля», спектакль, даволі няпросты для ўспрымання, звернуты не столькі ў мінулае, колькі ў будучыню.



За семдзесят пяць гадоў у коласаўскім тэатры змянілася не адно пакаленне акцёраў і рэжысёраў. За былымі «студыйцамі» на сцэну выйшлі новыя зоркі не толькі віцебскага, але і рэспубліканскага маштабу: Ф. Шмакаў, С Акружная, З. Канапелька, Г. Дубаў, Т. Шашкіна (дарэчы, заслужаная артыстка рэспублікі святкуе ў гэтыя ж дні свой асабісты юбілей), Р. Шацько, Л. Трушко, Т. Кокштыс, Г. Маркіна, У. Куляшоў, Г. Сяўко, Я. Шыпіла, М. Цішачкін, П. Ламан. Коласаўскі тэатр даў «пуцёўку» на сталічную сцэну многім вядомым акцёрам. С. Станюта, К. Саннікаў, Р. Кашэльнікава, М. Яроменка, Г. Арлова, А. Мілаванаў, Г. Гарбук, Т. Мархель, Г. Кухальская, Г. Дзягілева — усе яны былыя коласаўцы.

Віцебскі тэатр, які ў свой час быў «першапраходцам» у беларускай драматургіі, і зараз ідзе ў авангардзе. Галоўны рэжысёр Віталь Баркоўскі вядзе свой тэатральны карабель насустрач не даследаваным яшчэ берагам новай драматургіі і эксперыменту. Апошнім часам коласаўская сцэна перастала ўспрымацца, як «другі экран» пасля сталічнага купалаўскага тэатра. Менавіта тут, у Віцебску, упершыню была пастаўлена «Чорная панна Нясвіжа» А. Дударава, а спектакль «Пісьменныя» М. Чоке ўвогуле стаў адметнай падзеяй тэатральна-фестывальнага жыцця краіны.

Тэатр пачынаецца не толькі з вешалкі. Ён пачынаецца з людзей — акцёраў і рэжысёраў, якія нясуць у сабе моцную ідэю і не менш моцнае жаданне тварыць. У коласаўцаў ёсць і першае, і другое. Значыць, наперадзе ў тэатра яшчэ не адзін юбілей. Віншуем!

**Юля ПАЛАЧАНІНА**

*На здымку: сцэна са спектакля "Чорная панна Нясвіжа". Фота А. ХІТРОВА*

ФЕСТЫВАЛІ

# Вочы Цяльца

Сёння ў Мінску адкрываецца VIII Міжнародны кінафестываль краін СНД і Балтыі "Лістапад-2001". Праграму сёлетняга фэсту склалі даволі цікавыя фільмы, з якіх "Цялец" А. Сакурава раю паглядзець абавязкова.

Яшчэ вясной, прадстаўляючы ў Мінску новую карціну А. Сакурава, адзін з піцерскіх кінематаграфістаў заўважыў, што яе трэба прымушаць глядзець усіх начальнікаў. Бо прыйдзе час, калі і яны застануцца без улады, сам-насам з небам. Як па задумцы А. Сакурава (і яго нязменнага сцэнарыста Ю. Арабава) застаўся славуты савецкі правадыр У. Ленін. На кінастужцы былы натхніцель крывавжэрнага натоўпу ператвараецца ў бездапаможнага мармытуна ў інвалідным крэсле. Пад купалам бясконцага, насцярожанага Неба гасне свядомасць злога генія, рассыпаецца на мноства марных асколкаў некалі магутны інтэлект... Спачатку гэта можа шакіраваць: голы, бездапаможны Ленін (імёны ці празвішчы ў фільме не згадваюцца, але гледачу не цяжка пазнаць у нікчэмнай фігуры — бальшавіцкага правадыра) мусіць захінацца фіранкай. Нібыта ляльку з анучы, яго з усмешкаю штурхаюць наглядчыкі, не звяртаючы ніякай увагі на ягонае "Я — сам!" Распачынаецца — адзін дзень з жыцця Леніна ў Горках. Марныя спробы правадыра памножыць семнаццаць на дваццаць два (урач паабяцаў, што тады ён будзе здаровым); прагулка па лясной дарозе, дзіцячая гульня ў паляванне, пікнік з жонкай; зневажальная працэдура пры шматлікіх сведках у лазні (гледзячы гэтыя кадры, успамінаецца ашаламляльны тэлерэпартаж НТБ, супрацоўнікам якога ўдалося зняць тонкі працэс "адмакання" астаткаў Леніна ў спецыяльных растворах); сустрэча з маладым яшчэ Сталіным, які паведамляе, што партыя не дазваляе Леніну атруціцца ("Крыніца насілля не можа сама быць бяссільнаю", — аргументуе правадыр); абед з шыкоўнага, украдзенага савецкай уладай посуду, пасля якога з Леніным здараецца прыступ ("ад куль гэта ў нас, гэта дорага, нельга, народ галадае")... Паволіна праходзіць гэты дзень. Ён сведчыць пра тое, што новы механізм жыцця, запушчаны некалі правадыром, зрабіўся яму непадуладным. Да бездапаможнага Леніна цяпер ніхто не прыслухоўваецца. І толькі жудасныя цені, народжаныя ўжо пакалечанай свядомасцю, цярпліва чакаюць моманту, калі можна будзе кінуць сваёго гаспадара, каб атруціць страхам цэлае грамадства. Роспач, неспакой, злосць, якія вірруюць у душы галоўнага персанажа фільма, перадаюцца праз экран гледачу, вымушаюць пільна ўзірацца праз блакітныя, расплывістыя экранныя абрысы ў непрыемны маршчакаваты твар (паказваючы правадыра, Сакураў выкарыстоўвае толькі буйныя планы). Напружанне робіцца невыносным. Вось Ленін застаецца адзін у парку. Шуміць вецер, набліжаецца навальніца. Вока камеры сочыць за вачыма чалавека, якому страшна ў адзіноцтве, страшна... Разам з цёмнымі аблокамі прыходзіць час адказу за ўчыненае.





...Але ў фільме прысутнічае іронія. Асаблівую атмасферу ў кадры ствараюць мітуслівыя, камічныя фігуры статыстаў. За другім планам назіраеш з цікавасцю: выпадковыя людзі ў Горках не хаваюць здзіўлення, расчаравання ў вачах — звар'яцелы Ленін!? Але, як быццам заўважаючы камеру, якая сочыць за імі, яны спяшаюцца схавацца ў пакоі, за вугал дома, за дрэва. Цікава, што Сакураў уводзіць у ігравую карціну элементы дакументальнага кіно. Рэжысёр нібыта насамрэч пранікае ў 20-ыя гады мінулага стагоддзя, фіксуе на камеру жыццё ў Горках, паказвае падзеі, сітуацыі, у якіх не было сведкаў. Асабліва нязграбнай выглядае таўстая Крупская (М. Кузняцова) у дзіравых панчохах. Сваю спадарожніцу Ленін называе на Вы і адначасова ... каровай. Ленін жа ў выкананні выбітнага акцёра Л. Мазгавога, выклікае і спачуванне, і агіду. Абодва старыя — вартыя жалю марыянеткі.

..."Цялец", які сёлета выйшаў на экраны свету, атрымаў розныя ацэнкі. Напрыклад, на Канскім кінафестывалі новую работу Сакурава назвалі сумнай, марудлівай кінакарцінай. А вось на фэсце расійскага кіно "Акно ў Еўропу" гэты фільм атрымаў прыз за лепшую рэжысуру. І невыпадкова: "Цялец" зацікавіць менавіта "нашага" гледача, для якога прозвішча Ленін — не пусты гук. Толькі былы жыхар савецкай дзяржавы (вядома, удумлівы) зможа атрымаць асалоду ад смелага рэжысёрскага эксперыменту над тым, што доўгі час здавалася нам святым. Толькі такі чалавек зможа эмацыянальна вытрываць кінематаграфічны прысуд ідалу, помнік якому і цяпер упрыгожвае плошчу нашага горада.

Па словах А. Сакурава, "Цялец" — гэта толькі старонка вялікага кінарамана. Пасля "Малоха", у якім рэжысёр распавёў пра адзін дзень жыцця Гітлера, "Цяльца", прысвечанага Леніну, гледачоў чакаюць сустрэчы з яшчэ дзвюма вядомымі гістарычнымі асобамі. А пакуль у новай рабоце Сакураў свядома пераймае кампазіцыю мізансцэн "Малоха": "Цялец" таксама пачынаецца з панарамы адзінокага, кінутага ў прасторы і часе дома, у якім чуцён бязладны гоман жыцця. Не затрымліваючыся на краявідах, камера прарываецца ўглыб будынка, пакоя, вачэй чалавека-цяльца. І ідала, і ахвяры...

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

**P.S.** *Паказ фільма "Цялец" адбудзецца 28-29 лістапада ў кінатэатрах "Кастрычнік" і "Перамога" а 18-ай гадзіне.*

АБСЯГІ

ВІЦЕБШЧЫНА...

## Міхасю Зарэцкаму прысвечана

Як вядома, 20 лістапада 1901 года ў вёсцы Высокі Гарадзец Талачынскага раёна нарадзіўся таленавіты беларускі пісьменнік Міхась Зарэцкі. Да стагоддзя з дня яго народзін ва ўсіх бібліятэках раёна арганізаваны кніжныя выставы, праводзяцца літаратурныя мерапрыемствы, прысвечаныя жыццю і творчасці пісьменніка-земляка. Да прыкладу, грунтоўная выстава пад назвам "Міхасю Зарэцкаму — 100 год" ужо не першы месяц дзейнічае ў цэнтральнай раённай бібліятэцы. Тут прадстаўлены асноўныя выданні твораў слыннага літаратара, а таксама шматлікія літаратуразнаўчыя матэрыялы пра яго.

**Алесь МАЗУР**

ГОМЕЛЬШЧЫНА...

## Гучала музыка ў каледжы

Гомельскаму каледжу мастацтваў імя Н. Сакалоўскага споўнілася 80 гадоў. Юбілейная дата супала з правядзеннем міжнароднага фестывалю "Беларуская музычная восень". З гэтай нагоды ў каледжы выступілі Дзяржаўны акадэмічны народны хор Беларусі імя Г. Цітовіча, сімфанічны аркестр Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі, канцэртна-эстрадны аркестр мясцовай філармоніі, ансамбль народнай музыкі "Бяседа"...

## Мастакі са Светлагорска

Днямі ў карціннай галерэі абласной арганізацыі Саюза мастакоў адкрыліся экспазіцыі работ Віктара Баранава і Мікалая Кухарэнкі — мастакоў са Светлагорска. Баранаў — аўтар пейзажаў і нацюрмортаў, а Кухарэнка працуе ў партрэтным жанры.

## Кніжны кірмаш

У абласным цэнтры прайшоў рэспубліканскі кніжны аптовы кірмаш. Яго арганізавалі Міністэрства інфармацыі Беларусі, дзяржаўныя і камерцыйныя выдавецтвы, паліграфічныя і кнігагандлёвыя прадпрыемствы... Натуральна, што на кірмашы была прадстаўлена мастацкая, навукова-папулярная, грамадска-палітычная і дзіцячая літаратура, якая выдаецца ў Беларусі.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

МАГІЛЁЎШЧЫНА...

## У адноўленым тэатры



113-ы тэатральны сезон у Магілёве адкрыўся прэм'ерным спектаклем "Успамін пра Вавілон" (рэжысёр Уладзімір Савіцкі, сцэнарыст Віктар Цімафееў) па п'есе Алены Паповай. Магілёўскіх тэатралаў чакаюць яшчэ дзве прэм'еры — спектаклі "У адкрытым моры" дэбютная пастаноўка акцёра абласнога драмтэатра Уладзіміра Пятровіча па вядомай п'есе Славаміра Мрожака) і "Моцнае пачуццё" па матывах сатырычных твораў Ільфа і Пятрова, Чэхава, Зошчанкі, Маякоўскага ў пастаноўцы віцебскага рэжысёра Юрыя Лізянгевіча.

Дарэчы, усе прэм'еры пройдуць на сцэне аднаўленага і адрэканструяванага абласнога драматычнага тэатра, які вы бачыце на здымку.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*Фота аўтара*

ГРОДЗЕНШЧЫНА...

## Дзятлаўскаму касцёлу — 355 гадоў

У цэнтры Дзятлава размешчаны помнік архітэктуры віленскага барока і ракако — касцёл Ушэсця Найсвяцейшай Дзевы Марыі. Гэта самы старажытны будынак у райцэнтры. Пабудаваны ён у 1624— 1646 гадах дзякуючы фундацыі ўладальніка мястэчка падканцлера Вялікага Княства Літоўскага Казіміра Льва Сапегі. Амаль праз стагоддзе пасля пажару касцёл быў перабудаваны ў барочна-ракакальным стылі. Пры падтрымцы М. Радзівіла зрабіў гэта дойлід А. Асікевіч. У касцёла — горкі лёс — у 1882 годзе зноў згарэў дах. У пачатку мінулага стагоддзя ён быў аднаўлены на сродкі парафіян. Гэтыя сцэны бачылі Паўночную вайну, нашэсце Напалеона, дзве сусветныя вайны. Знешні выгляд будынка пастаянна мяняўся. Зараз — гэта двухвежавая аднанефавая базіліка з магутнай паўкруглай апсідай.

## Спяваюць тры душы

"Сола трох галасоў" — так называецца кніжка, якую напісалі Самойлы — маці Фаіна Ігнатаўна, яе дачка Галіна і сын Валянцін. Па прафесіі яны настаўнікі, жывуць у вёсцы Бандары Гродзенскага раёна. У кнізе шчыра і пранікнёна дзеляцца сваімі думкамі і пачуццямі аб перажытым і ўбачаным, прызнаюцца ў любові да радзімы, ухваляюць дарагіх ім людзей, перш за ўсё землякоў. Падрыхтаваць кнігу да друку і выпусціць яе ў свет дапамагло аўтарам Гродзенскае абласное аддзяленне Беларускага фонду культуры.

**Іосіф ЗАЯЦ**

МІНШЧЫНА...

## "Палітра на крыльцах"

Так называецца выстава экзатычных матылькоў, якая адкрылася ў Дзяржынскім гісторыка-краязнаўчым музеі. Прадставіў экспазіцыю Рэспубліканскі музей прыроды і экалогіі.

## Сталі народнымі

За поспехі ў развіцці самадзейнай мастацкай творчасці і актыўную прапаганду народных традыцый рашэннем калегіі Міністэрства культуры Беларусі званне "народны" прысвоена вакальнаму гурту "Суседзі" і харэаграфічнаму ансамблю "Альянс" Дзяржынскага гарадскога Дома культуры, калектыву старажытнай беларускай музыкі "Пастараль", у які ўвайшлі выкладчыкі Дзяржынскай дзіцячай школы мастацтваў, і харэаграфічнаму ансамблю "Крутагорачка" з гэтай жа школы.

**Тамара ШАЎЧЭНКА**

# Рубяжэвіцкі праваслаўны крыж,

## або Некаторыя тлумачэнні да артыкула Янкі Купалы "Вера і нацыянальнасць", змешчанага ў "Нашай Ніве" ад 10 ліпеня 1914 года

ПРАБЛЕМА суадносін двух асноўных хрысціянскіх веравызнанняў, праваслаўя і каталіцызму, і нацыянальнага размежавання беларускага насельніцтва ў залежнасці ад яго прыналежнасці да царкоўных альбо касцельных канонаў у гісторыі нашай дзяржавы, неаднойчы выходзіла на пярэдні план. І кожнае пакаленне імкнулася вырашаць яе па-свойму. Тэма міжканфесійных рознагалоссяў займела пэўны рэзананс і на пачатку другога дзесяцігоддзя мінулага стагоддзя, у пару так званай першай хвалі беларускага нацыянальнага адраджэння. Засяродзіўшы на ёй увагу тагачаснага грамадства, перадавыя прадстаўнікі нацыянальна свядомай інтэлігенцыі распачалі такім чынам справу па пераадоленні ў свядомасці пераважнай большасці насельнікаў колішняга Паўночна-Заходняга краю Расійскай імперыі векавых стэрэатыпаў, паводле якіх беларусы-каталікі быццам належаць да польскай нацыі, а беларусы-праваслаўныя — да рускай. Найбольш шырока гэта праблема абмяркоўвалася на старонках тагачасных беларускамоўных перыядычных выданняў, сярод якіх асаблівай актыўнасцю вылучалася газета "Наша Ніва".

Будучы народны паэт Беларусі Янка Купала ўжо толькі таму, што на той час з'яўляўся рэдактарам гэтага выдання, не мог застацца ўбаку ад міжканфесійнай праблемы. Ён не толькі садзейнічаў з'яўленню на старонках газеты дыскусійных матэрыялаў на гэту тэму, але і сам прымаў актыўны ўдзел у яе абмеркаванні. Прыкладам таму служыць ягоны артыкул "Вера і нацыянальнасць", апублікаваны ў "Нашай Ніве" на пачатку ліпеня 1914 года.

У ім Янка Купала катэгарычна выказаўся супраць нацыянальнага размежавання беларусаў паводле іх рэлігійнай прыналежнасці. Таму што такі падзел не толькі не садзейнічаў адраджэнню беларускай нацыянальнай самасвядомасці як селяніна, так і месціча, але часамі нават прыводзіць да супрацьстаяння і сутычак паміж насельнікамі аднаго і таго ж паселішча, прадстаўнікамі розных канфесій. "Гэтыя дзве царквы — заходняя і ўсходняя, ведучы вечную спрэчку паміж сабою, раздзяляюць наш ядыны народ на дзве часці, — пісаў пісьменнік, — адных і тых жа дзяцей сваёй маткі-зямлі водзяць паміж сабой, даводзячы нават часта да бойкі за святы свае хрысціянства — крыж. Прыкладаў далёка шукаць не трэба: узяць бы хоць *справу з Рубяжэвіцкім крыжам* (выдзелена мною. — **С. Г.**) і іншыя. Гэта змаганне дзвюх вер не толькі дзеліць беларусаў на дзве часці па рэлігіі, але, самае важнае, забівае ў іх свядомасць і пачуццё нацыянальнай еднасці. Беларусу-каталіку ўгаварваюць, што раз ён католік, то ён — паляк, і не павінны братацца з тым, хто іншай веры; беларусу-праваслаўнаму кажуць, што раз ён праваслаўны, то ён — расіец, і католіка-беларуса павінен сцерагчыся, бо ён — паляк. І што з гэтага выходзіць? Расце нязгода, расце нянавісць — рэчы, нікому не патрэбныя, апрача хіба ворагам нашага народа".

Прывёўшы ў прыклад канфесійнага размежавання беларусаў "справу з Рубяжэвіцкім крыжам", Я. Купала не канкрэтызаваў разгортвання вакол яе падзей. Хутчэй за ўсё, гэта звязана з тым, што паэт асабіста ведаў пра ўсе перыпетыі гэтай падзеі, бо мястэчка Рубяжэвічы і яго наваколле — тыя мясціны, з якімі вельмі цесна звязаны Купалавы родавыя карані. У XVII-XVIII стагоддзях продкі паэта па бацькавай лініі валодалі недалёкім ад Рубяжэвічаў маёнткам Кукялёўшчына з прылеглымі да яго вёскамі Цярпілаўка (сучасная Драздоўшчына) і Слабодка, а ў зусім блізкай да мястэчка вёсачцы Няшота (цяпер яна завецца Ручына) у 1857 годзе нарадзілася маці Я. Купалы Бянігна Валасевіч, тут жылі бабуля паэта Кацярына і яе сыны, Купалавы дзядзькі — Антон, Міхал і Франц Валасевічы. У жніўні 1913 года Я. Купала разам з сястрой Леакадзіяй наведаў Няшоту, колькі дзён гасцяваў там у сваякоў. Менавіта ў гэты час ён мог і даведацца пра здарэнне, якое адбылося ў сярэдзіне мая гэтага ж года ў Рубяжэвічах.

Сёння ў самім паселішчы вам пра яго мала хто згадае. Аднавіла тагачасныя падзеі Рамуальда Сабалеўская — настаўніца мясцовай школы і галоўны захавальнік гістарычнай спадчыны рубяжэвіцкага наваколля.

У верасні 1911 года ў Рубяжэвічах у гонар 50-годдзя адмены прыгоннага права на сродкі праваслаўных месцічаў і тамтэйшай царквы ля валаснога праўлення, на Стаўпецкай вуліцы, быў устаноўлены дубовы крыж-абярог. 14-га верасня, у дзень фэсту, яго ўрачыста асвяцілі. Тады ж на ім была ўстаноўлена і ікона Святога Аляксандра Неўскага. Без малога праз два гады, 15-га мая 1913 года, рубяжэвіцкія каталікі непадалёк ад праваслаўнага ўстанавілі свой крыж-абярог. Праз два дні пасля гэтага, 17-га мая, праваслаўны крыж і стрэшка ў выглядзе каплічкі, якая прыкрывала яго ад непагадзі, зніклі. Гэта навіна імгненна абляцела мястэчка і ў праваслаўных вернікаў выклікала надзвычай моцнае абурэнне. Каб хоць неяк зменшыць міжканфесійны напал пачуццяў, паліцыя ў тэрміновым парадку вымушана была завесці па гэтым факце крымінальную справу.

У час следства высветлілася, што вандалізм у адносінах да рубяжэвіцкага праваслаўнага крыжа ўчыніў мясцовы селянін Міхал Рагоза. Менавіта ў яго хляве у гнаі былі знойдзены рэшткі пасечанага на кавалкі крыжа. Вінаватага, які, дарэчы, толькі ў 1905 годзе прыняў каталіцкае веравызнанне, а да гэтага быў праваслаўным, тут жа арыштавалі. З яго прызнанняў следчаму ўдалося высветліць, што да справы знішчэння праваслаўнага крыжа мелі дачыненне рубяжэвіцкі ксёндз Мілашэўскі, уладальнік недалёкага ад Рубяжэвіч маёнтка Сула Міхал Ленскі і некаторыя іншыя местачкоўцы. Усіх іх, у тым ліку і ксяндза з Ленскім, як арганізатараў і кіраўнікоў гэтай акцыі, таксама пасадзілі ў турму.

Праз пэўны час гэта справа была закрыта, і ўсіх арыштантаў пад заклад, які ў рэшце рэшт аказаўся толькі штрафам, выпусцілі на волю. За вызваленне з-за кратаў ксяндза Мілашэўскага было заплачана 10 тысяч, памешчыка Ленскага — 1 тысяча рублёў, а за астатніх — значна меншыя сумы.

Аднак на гэтым "крыжовая" гісторыя ў Рубяжэвічах не закончылася. Па факце самавольнай устаноўкі каталікамі свайго крыжа паліцыяй было праведзена разбіральніцтва. Справа нават дайшла да суда, які вынес афіцыйны вердыкт аб яго зносе.

На падзеі ў Рубяжэвічах мусіла адрэагаваць і кіраўніцтва каталіцкай дыяцэзіі. Ксяндза Мілашэўскага тэрмінова перавялі ў іншую парафію, а на яго месца быў прызначаны другі пробашч, больш сталага веку ксёндз-дэкан па прозвішчы Грыб.

У сувязі са сказаным патрэбна адзначыць, што ў Рубяжэвічах як на пачатку XX стагоддзя, так і значна раней існавала негалоснае супрацьстаянне дзвюх хрысціянскіх канфесій — праваслаўнай і каталіцкай. Карані яго хаваюцца ў гісторыі мястэчка.

Гістарычныя крыніцы сведчаць, што здаўна ў Рубяжэвічах разам з іншымі існавалі і трывалыя праваслаўныя традыцыі. Магчыма, яшчэ больш яны падмацаваліся напрыканцы XV стагоддзя, калі Вялікі князь Літоўскі Аляксандр надзяліў у ліку іншых паселішчаў і рубяжэвіцкім дваром збеглага з Масковіі князя Міхала Вярэмскага, шчырага прыхільніка праваслаўя. У 1550 годзе ўжо прывілеем караля Польшчы і Вялікага князя літоўскага Жыгімонта II Аўгуста Рубяжэвічы былі перададзены ў пажыццёвае валоданне Радзівілам. Новыя гаспадары адразу прыязна паставіліся да патрэб мясцовай праваслаўнай царквы і нават надзялілі яе 60 дзесяцінамі зямлі і недалёкім маёнткам Марозавічы.

Пасля таго як нясвіжскі князь Мікалай Радзівіл Сіротка стаў усталёўваць на сваіх землях каталіцызм, рубяжэвіцкім праваслаўным вернікам неаднойчы даводзілася адстойваць сваё права на магчымасць спраўляць рэлігійныя абрады згодна з спрадвечнай верай сваіх бацькоў і дзядоў. Не занялалі яны духам і пасля таго, як у 1740 годзе іх святыня згарэла. Неафіцыйна лічыцца, што прычынай пажару стаў падпал, учынены мясцовымі праціўнікамі праваслаўя.

За кароткі тэрмін пры пэўнай фінансавай падтрымцы яўрэяў, якіх на той час жыло ў мястэчку даволі шмат, царква ў Рубяжэвічах была адбудавана. І гэта акалічнасць яшчэ больш узмацніла антыправаслаўныя настроі ў гэтым паселішчы, якія неўзабаве выліліся ў трагічнае здарэнне.

Аб ім значна пазней расказаў рубяжэвіцкі святар Лука Шумаковіч у апублікаваным у 2-ім нумары "Минских епархиальных ведомостей" за 1873 год артыкуле, прысвечаным некаторым старонкам з гісторыі Рубяжэвічаў. Прынамсі, ён згадвае, што пасля адбудовы царквы ў ёй стаў спраўляць службу святар Іван Клімовіч. Праз некаторы час "праціўнікі праваслаўнай веры" выгналі яго з царквы, прывязалі да каня, які, "будучы пагнаным з гары ў галоп, зваліў з ног бедалагу і ўдушыў яго". Цела мёртвага святара было кінута ў раку і праляжала там даволі працяглы час.

Пасля гэтага здарэння, якое, як паведамляе Л. Шумаковіч, адбылося ў сярэдзіне XVIII стагоддзя, на месца праваслаўнага святара ў Рубяжэвічы быў прысланы уніяцкі пробашч. Тады ж ва уніяцкую была пераасвечана і сама царква, якая пасля гэтага стала насіць сваю ранейшую назву святога Мікалая.

Далей перыпетыі рэлігійных узаемаадносін жыхароў Рубяжэвічаў разгортваліся яшчэ больш напружана. Мясцовыя каталікі пасля пераасвячэння царквы пачалі актыўна праводзіць работу па схіленні ў сваю веру рубяжэвіцкіх праваслаўных, большасць з якіх, застаўшыся без святыні, усё ж паддаваліся спакусе і прымалі каноны новага для сябе веравызнання. Як зазначае усё той жа Л. Шумаковіч, "намаганні прыхільнікаў Ватыкана" паступова займелі свой плён — да 1793 года, калі мястэчка разам з іншымі паселішчамі Цэнтральнай Беларусі пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай адышло да Расійскай імперыі, у Рубяжэвічах і іх наваколлі засталося вельмі мала людзей, якія б прытрымліваліся праваслаўя.

Па ўсім відаць, не так і шмат было на той час у мястэчку і уніятаў, якія, будучы прыхільнікамі гэтай веры зусім малы тэрмін, магчыма, пад пагрозай расправы ці пасля абяцання пэўных выгод, схілялі свае погляды ў бок рымска-каталіцкай канфесіі. Тыя ж, хто не пажадаў прымаць каталіцкае веравызнанне, а такіх, па сведчанні Л. Шумаковіча, было зусім няшмат, "разам са сваім святаром Паўлам Вернякоўскім у 1793 годзе добраахвотна вярнуліся ў лона праваслаўнай царквы".

Але і пасля ўваходжання Рубяжэвічаў у састаў Расійскай імперыі тут не спыніліся захады каталіцкіх вернікаў па прыцягненні ў свае рады прыхільнікаў з ліку тамтэйшых жыхароў, што прытрымліваліся праваслаўнай веры. І пэўны поспех у гэтай справе ўсё ж, відаць, у іх быў. Пацверджанне гэтаму мы зноў жа знаходзім ва ўжо неаднойчы цытаваным артыкуле Л. Шумаковіча. Як ён згадвае, у хуткім часе "рубяжэвіцкая царква засталася амаль без прыхаджан, будынак яе спарахнеў і пагражаў сваім разбурэннем..." Таму мясцовыя "чыноўнікі, якія дзейнічалі па ўказанні польскай прапаганды, паспяшаліся разабраць царкву, каб хутчэй выкараніць са свядомасці жыхароў мястэчка і саму памяць пра іх праваслаўны храм". Бярвенне ж з царкоўнага будынка "затым было выкарыстана на ацяпленне мясцовага маёнтка".

Апошні год XVIII стагоддзя быў пазначаны ў Рубяжэвічах урачыстым асвячэннем касцёла святой Дзевы Марыі, узведзенага на сродкі нясвіжскага князя Дамініка Радзівіла. Аднак і гэта каталіцкая святыня ў рэшце рэшт зазнала такую ж незайздросную долю, як і яе праваслаўная і уніяцкая папярэдніцы. Праіснавала яна ў Рубяжэвічах да 1866 года, да часу, калі ў Расійскай імперыі ў сувязі з актыўнай падтрымкай прадстаўнікамі рымска-каталіцкай царквы паўстання 1863—64 гадоў і з мэтай вынішчэння бунтарскага духу ў насельнікаў заходніх губерняў на каталіцызм усчаліся ганенні. 22 мая 1866 года касцёл у Рубяжэвічах быў урачыста пераасвечаны ў праваслаўную царкву, якой было нададзена імя прападобнага Антонія Рымляніна. У той жа дзень было ўшанавана і месца, дзе раней размяшчалася Мікалаеўская царква, — там вырашылі пабудаваць капліцу.

З гэтым фактам таксама звязана адна неардынарная падзея. Падчас пераасвячэння касцёла ў царкву мясцовы ксёндз Антоній Свебада, а разам з ім і частка каталікоў-прыхаджан перайшлі ў праваслаўную веру. Пра значнасць аднаўлення дзейнасці ў Рубяжэвічах праваслаўнай царквы сведчыць і той факт, што праз год расійскі імператар Аляксандр II падараваў ёй ікону Казанскай Божай Маці ў срэбранай рызе з вызалачаным ззяннем.

Безумоўна ж, справа з пераасвячэннем касцёла ў праваслаўную царкву спадабалася далёка не ўсім насельнікам мястэчка і міжканфесійнае напружанне там па-ранейшаму працягвала існаваць. На пачатку XX стагоддзя рубяжэвіцкія каталікі дамагліся дазволу на будаўніцтва касцёла. Ён быў узведзены з абчасаных валуноў у стылі неаготыкі за параўнальна кароткі час. Асвячэнне новай рубяжэвіцкай каталіцкай святыні адбылося ў 1911 годзе. Касцёл атрымаў назву святога Іосіфа. Існуе ён і па сённяшні дзень. Дарэчы, у адрозненне ад праваслаўнай царквы, якая была знішчана ў 60-я гады XX стагоддзя, касцёл больш-менш спакойна (нават не зачыняўся) перажыў і ліхалецці 2-й сусветнай вайны, і перыяд так званага ваяўнічага камуністычнага атэізму. Праваслаўная Мікалаеўская царква была наноў адбудавана ў Рубяжэвічах толькі ў 2000 годзе.

Справа з праваслаўным крыжам, пра якую згадвае Янка Купала ў сваім артыкуле ў "Нашай Ніве" — гэта ўсяго толькі адзін факт, як бачна, з зусім няпростых міжканфесійных адносін, якія на працягу многіх гадоў складваліся ў старадаўнім беларускім мястэчку Рубяжэвічы.

**Сяргей ГАЛОЎКА,**
**краязнаўца**

*г. Стоўбцы*





ЧАСАПІС

## “Незвычайнае падарожжа ў краіну Ведзьмаў”




**Алесь Бадак — не навічок у дзіцячай літаратуры. Але раней выступаў як паэт. Нядаўна ж выдавецтва “Юнацтва” выпусціла яго кнігу прозы “Незвычайнае падарожжа ў Краіну Ведзьмаў”, назву якой дала аднайменная аповесць-казка. Агульнавядома, што казка ў дзяцей карыстаецца вялікай папулярнасцю, але з асаблівай ахвотай яны знаёмяцца з творамі, якія маюць разгорнутае дзеянне. Менавіта ў гэтым прычына такой цікаўнасці не аднаго пакалення хлопчыкаў і дзяўчынак да “прыгодаў Бураціна” ці “Прыгодаў Чыпаліна”, хоць далёка не ўсе могуць назваць прозвішчы іх аўтараў. А. Бадак таксама, прадаўжаючы традыцыі казкі-аповесць, напісаў твор, у якім дзейнічаюць арыгінальныя героі, але поруч з імі прысутнічаюць і аднагодкі юных чытачоў — кніга адрасавана ў першую чаргу малодшаму школьнаму ўзросту. Адзін з іх хлапчук Данік, які адмовіўся ўступіць месца ў аўтобусе старэнькай бабульцы, пры гэтым яшчэ схлусіў: “Я не магу, мне нага баліць!” З гэтага моманту і пачаўся адлік тым незвычайным падзеям і прыгодам, што неўзабаве адбудуцца на старонках аповесці-казкі. Праз некаторы час нага ў Даніка і сапраўды забалела, ды так, што ўрачы не маглі даць ніякай рады. Давялося маці шукаць паратунку ў знахаркі. Пайшла да яе Данікава сястра Карына. І даведалася, што яго пракляла за непаслушэнства ведзьма. Знахарка дадала: “...калі твой брат хоча, як раней, бегаць і скакаць на абедзвюх нагах, яму трэба ісці туды, да самой Ганесты. Толькі яна можа зняць з яго чары”. А Ганеста з’яўлялася ўладаркай Краіны Ведзьмаў. Нічога не заставалася Карыне, як кіравацца да Ганесты. Па дарозе сустрэлася з аднакласнікам Даніка Гранем, у якога забалела нечакана рука, калі адмовіўся старой паднесці торбу.**

**Падарожжа ў Краіну Ведзьмаў — гэта падарожжа ў той дзівосны, непаўторны свет, які можа быць толькі ў казках. Юныя героі знаёмяцца з Белай Варонай. Яна таксама ўладарка, толькі загадкавай Краіны Сонечных Зайцоў. Сустракаюцца і з пластмасавымі чалавечкамі. Дапамагаюць маленькаму скарбніку вярнуць украдзены ў яго чароўны посах. Дзякуючы багатай фантазіі, А. Бадак будуе дзеянне захапляльна. Аповесць напісана так, што яе цікава чытаць і даросламу. Што, у такім разе, казаць пра хлопчыкаў і дзяўчынак, для якіх, будзем справядлівымі, сёння не стае высокамастацкіх кніг, якія б адпавядалі іх запатрабаванням. Чамусьці ўсё больш трапляе сумніцельная рускамоўная літаратура, вельмі далёкая ад мастацкасці. Старонкі яе запоўнены, праўда, таксама прыгодамі, але гэта прыгоды дзеля прыгод. У аповесці ж “Незвычайнае падарожжа ў Краіну Ведзьмаў” усё, што адбываецца з Карынай і Гранем, нясе ў сабе важкую выхаваўчую нагрузку. Дзеці паступова пераконваюцца, што той, хто не слухаецца іншых, шкодзіць і самому сабе, а калі зробіш якое-небудзь зло, нават самае маленькае, яно з цягам часу бумерангам вернецца да цябе самога. І, наадварот, дабро дае гэткія ж самыя шчодрыя ўсходы.**

**Займальная і аповесць-казка “Пра малпачку Чыту і яе сяброў”. Малпачка трапіла на Беларусь не адкуль-небудзь, а са Злучаных Штатаў Амерыкі. Гаспадар Чыты праз некалькі дзесяткаў гадоў вырашыў завітаць на сваю колішнюю Радзіму, а малпачку вёз у прычэпе ў якасці падарунка свайму траюраднаму брату. Аднак у Белавежскай пушчы прычэп адчапіўся і малпачка засталася адна. Балазе, прычэп быў абсталяваны так, што нагадваў сабой домік. Але адной сядзець сумна, і Чыта пачала знаёміцца зляснымі насельнікамі. Да чаго гэта прывяло і можна даведацца з твора. Увайшла ў кнігу і аповесць-казка “У цёмным лесе за сіняй рэчкай”. Не менш займальная за папярэднія і таксама з прыгодамі, што толькі магчымы ў казках.**

**Міхась ГЕНЬКА**

КРЫТЫКА

# Школа вальнадумства

Ніводзін з літаратуразнаўчых альбо культуралагічных твораў Таццяны Шамякінай не мае жанравай адзнакі *маніфесту, дэкларацыі* ці *праграмных тэзісаў* — ні фармальна, ні ў сэнсе ўнутранага пафасу. Тым не менш, гэта ніяк не паўплывала на складванне “шамякінскай школы” як адметнай з’явы ў сучасным беларускім дыскурсе. “Маркіраваць” навуковую спецыялізацыю гэтага даследчыка, вызначыць прыналежнасць да *пэўнага* адгалінавання гуманітарных ведаў цяжка. Вольнае пачуванне ў метадалагічным і фактычным матэрыяле тэорыі і гісторыі літаратуры, міфалогіі, філасофіі, тэорыі і гісторыі культуры, этналогіі, лінгвістыкі, рэлігіязнаўства, сацыялогіі, псіхалогіі... І гэта не ўсё, паколькі ў сферу зацікаўленняў Т. Шамякінай трапляюць і генетыка, астраномія, біялогія, фізіка... Зрэшты, аналіз той ці іншай з’явы ў інтэрдысцыплінарным ключы стаў у апошнія дзесяцігоддзі, бадай, вызначальнаю тэндэнцыяй гуманітарнага пазнання. Аднак у дачыненні да творчасці Т. Шамякінай паняцце “стыку навук” аказваецца недакладным: мы маем справу не столькі з канструктыўным аб’яднаннем разнастайнага вопыту, колькі з узорам *сінтэтычнага* мыслення, першасна зарыентаванага на поліфанічнасць любога фрагмента быцця. Мне гэта чымсьці нагадвае вядомую “сінкрэтычнасць архаічнага мастацтва” (дзе нельга выразна размежаваць рытуальную дзею, музыку, танец, слова як спосабы эстэтычнага асваення рэчаіснасці): нягледзячы на велізарную часавую адлегласць, імкненне да “аб’ектыўных” ведаў таксама муруецца вераю ва ўзаемасувязь быційных праяў. Колішні “міфалагічны чалавек” *сутнасна* не адрозніваецца ад сучаснага нам “шукальніка ісціны”: па вялікім рахунку, абодва застаюцца “містыкамі” — “тымі, хто бачыць скрозь туман”.

У каментарыях да сваёй кнігі “Міфалогія Беларусі (Нарысы)” (Мн.: “Мастацкая літаратура”, 2000) Т. Шамякіна заўважае: “Дзеля выжывання чалавецтву неабходна перастаць “рабіць гісторыю”. Гэтага яшчэ не зразумелі розныя прэзідэнты і прэм’еры (якім якраз здаецца, што яны рухаюць прагрэс), але народ адчуў даўно. Магчыма, адсюль і апатыя да палітыкі. А сярод інтэлігенцыі — яўнае, хаця не заўсёды асэнсаванае, імкненне “забараніць” гісторыю, зноў заключыўшы грамадства ў магічнае ахоўнае кола спрадвечных архетыпаў: мы настальгічна марым пра “залаты век” Вялікага княства Літоўскага, у крайнім выпадку — пра брэжнеўскі сацыялізм. Наша сціплае імкненне рэканструяваць нацыянальную міфалогію — з гэтага ж рада”.

Сапраўды, найноўшая гісторыя беларускага нацыянальнага аптымізму асмужаная шчымлівасцю. Матыў незваротнасці колішняга Шляху пагражае набыць абрысы “цвёрдай” (кананізаванай) літаратурнай формы (умоўна пазначым яе *nostalgy)*, чый жанравы патэнцыял уяўляецца надзвычай разгалінаваным — ад рамана да манаграфіі. Аднак ацэнка Т. Шамякінай сваёй працы (плён якой — не толькі згаданая кніга, але і шматлікія артыкулы ў перыядычных выданнях і навуковых зборніках, выступленні на канферэнцыях, чытанне лекцый і г.д.) выглядае зноў такі недакладнай, ці, хутчэй, абагульнена-ўмоўнай.

На мой погляд, сама назва “Міфалогія Беларусі” ў пэўным сэнсе ўводзіць у зман: нягледзячы на тое, што вытокі беларускай нацыянальнай самасвядомасці асэнсоўваюцца тут і як аўтэнтычная культуратворчасць, і як частка сусветнага культурнага кантэксту, але ж не меншая ўвага надаецца і ўласна “Кантэксту”, ягонай шматполюснасці, шматгалоссю нацыянальна-культурных традыцый. На гэта ўказваюць нават загалоўкі асобных раздзелаў: “Мадэль свету ў міфалагічных сістэмах”, “Астральныя міфы і разуменне космасу ў народаў свету”, “Ад Эўрыномы да Дзевы Марыі”, “Культура класічнай Грэцыі і Рыма” ды інш. Да таго ж, варта адзначыць і своеасаблівасць аўтарскага разумення міфалогіі: гэта не толькі сістэма сюжэтаў, матываў, персанажаў і да т.п. — у прыватна-навуковым сэнсе, але і сама магчымасць *быць, спраўдзіцца* для любой нацыі. Адсюль, верагодна, і перакананасць у неабходнасці ўласных росшукаў (“Веданне нацыянальнай міфалогіі непазбежна абвастрае нацыянальную свядомасць людзей, што для беларусаў сёння вельмі важна”), і логіка даследавання тых ці іншых аспектаў міфалогіі (раздзелы “Культурны герой. Народ і герой”, “Міфалогія і сям’я”: “Нацыя, па сутнасці, — вялікі разрослы род, і покліч крыві непазбежны, бо ў роду ёсць патаемны, няпісаны абавязак: мацаваць повязь пакаленняў”).

У Т. Шамякінай асэнсаванне міфалогіі нязмушана перацякае ў *рэстаўрацыю нацыянальнай годнасці*, а этнічная гісторыя беларусаў у інтэрпрэтацыі даследчыка паўстае нечакана архаічнай і часам “экзатычнай” — з пункту гледжання акадэмічнай гісторыка-культурнай навукі. Скажам, аўтар на падставе цікавага фактычнага матэрыялу (не толькі назапашанага папярэднімі пакаленнямі вучоных, але і абсалютна новага нават для сучаснай навукі) аналізуе падабенства міфалагічных схем і персанажаў Старажытнага Егіпта — і традыцыйных вераванняў беларусаў. Альбо, напрыклад, разглядае генезіс чарадзейнай казкі (юнак адпраўляецца ў падзем’е (іншасвет), каб здабыць чароўныя рэчы) у святле гіпотэзы пра існаванне ўжо ў эпоху Архаікі звышцывілізацыі (якая пасля тэрмаядзернага выбуху гіне, частка людзей хаваецца ў падземных пячорах, беручы з сабою найбольш каштоўныя рэчы; тыя, хто застаўся на паверхні, з цягам часу забываюцца на колішнюю магутнасць, але некаторыя асмельваюцца спускацца пад зямлю і выносіць незвычайныя рэчы)...

Ідэя выдаць “Міфалогію Беларусі”, куды ўвайшла частка артыкулаў, цыкл якіх ужо каля дзесяці год друкуецца ў часопісе “Роднае слова”, відавочна, выспявала доўга, але, пэўна, і доўга ж чакала свайго часу ў выдавецтве, бо інакшага тлумачэння некаторым заўвагам аўтара знайсці немагчыма: “Трыкалор (белы, чырвоны, чорны) — самая распаўсюджаная гама ў свеце, яго можна лічыць нейкім універсальным кодам чалавечай культуры. І ўсё ж найбольш відавочна ўся гама прадстаўлена ў індаеўрапейцаў, што ярка праяўляецца... на дзяржаўных сцягах і гербах, а таксама народнай вышыўцы. Заўважым, дарэчы, што бела-чырвоныя дзяржаўныя сцягі ў розных мадыфікацыях *сустракаюцца* (вылучэнні ў цытатах тут і далей зроблены мною. — ***І. Ш.***) у Еўропе: *Беларусь*, Польшча, Аўстрыя, Латвія, Манака і інш.”.

Мяркую, што ўжо дзесяць гадоў таму была відавочная неабходнасць канцэптуальнага абагульнення беларускай міфалогіі, якая амаль да сямідзесятых гадоў XX стагоддзя ўяўляла сабою сукупнасць этнаграфічных зводаў — апісанняў персанажаў дэманалогіі (духаў прыроды і локусаў) і асобных вобразаў вярхоўнага язычніцкага пантэону. Нягледзячы на тое, што кніга нарысаў Т. Шамякінай адрасаваная (паводле анатацыі) “студэнтам ВНУ, настаўнікам сярэдніх школ і вучням старэйшых класаў”, — а гэта мае на ўвазе своеасаблівую “белетрызацыю” матэрыялу дзеля даступнасці яго шырокай чытацкай аўдыторыі, — тут акрэсліваецца шэраг прынцыповых момантаў, якія вызначаюць арыгінальнасць асэнсавання важнейшых чыннікаў культуры наогул:

“Паганьства, нацыянальная міфалогія — гэта шчырасць, шчасце, сіла, буянне жыцця, сонца і святло. Усё ў ім канкрэтнае, адчувальнае. Хрысціянства — пакуты і трагізм (але і адмаўленне смерці смерцю), высокая ступень абстрагаванасці, абагульнення. Язычніцтва — гэта чалавек і Прырода. Хрысціянства — Чалавек і грамадства. Паганьства — цела, хрысціянства — душа. Паганьства — сваё, роднае, а хрысціянства далучае нас да агульнага — сусветных каштоўнасцей, перш за ўсё — маральна-этычных. Але і паганьства — этыка... этыка Космасу”.

Мая апеляцыя да цытат абумоўленая не толькі законамі крытычнага жанру (варта падмацоўваць уласныя “метафізічныя” заключэнні зваротам да крыніцы, што іх спарадзіла). Кніга, якая выйшла накладам у 1024 асобнікі, даступная адрасату хіба што ў цытатах ды згадках тых, хто яе бачыў, чытаў ці хоць бы трымаў у руках. Дапушчаная Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь у якасці вучэбнага дапаможніка, “Міфалогія Беларусі” са сцен выдавецтва “Мастацкая літаратура” рушыла ў такую пакручастую “адысею”, маршрут якой абрынуў бы ў скруху і цара Ітакі. Прынамсі, ні ў кнігарнях, ні нават у буйных бібліятэках сціплы прадстаўнік шырокай чытацкай аўдыторыі на яе патрапіць пакуль не здолее. Зрэшты, можна меркаваць, што і ў дадзеным выпадку *“імя”* выбірае *“лёс”*.

Хаця ў дачыненні да “Міфалогіі Беларусі” справа, хутчэй, у *рызыкоўнасці* зместу. Так, звяртаючыся да культуры і літаратуры Ірана (адной з магчымых прарадзім індаеўрапейскіх народаў, да ліку якіх належаць і беларусы), аўтар згадвае пра аднаго з найбольш яркіх персанажаў ранняй іранскай міфалогіі — шаха Джамшыда. Ягоная

КНІГАРНЯ

# Самотны шукальнік святла...

Беларуская літаратура ў Польшчы, пра якую пішуць і палякі, даўно вартая таго, каб да яе пільна прыгледзеліся ў Беларусі. І гэта вымагаецца не толькі саліднасцю літаратурна-мастацкага багажу “белавежцаў”, які налічвае дзесяткі кніг. Заслугоўваюць сур’ёзнай увагі самі пісьменніцкія асобы, узгадаваныя беларускім асяродкам Беласточчыны. Найперш гэта Сакрат Яновіч, Алесь Барскі, Надзея Артымовіч, Ян Чыквін, Віктар Швед, Міра Лукша. Пра Яна Чыквіна ў нас ужо нямала пісалі, а не так даўно з’явілася манаграфія маладога літаратуразнаўца з Гродзенскага універсітэта Анатоля Раманчука “Гарыць мая свяча. Творчая індывідуальнасць Яна Чыквіна” (Беласток, 2000). У кнізе грунтоўна разгледжана творчасць вядомага паэта, паказана яго мастацкая адметнасць, прасочана станаўленне і развіццё гэтага неардынарнага таленту.

Чытаеш кніжку і думаеш пра своечасовасць яе выхаду ў свет: ёсць што сказаць пра такога паэта, як Я. Чыквін. Але, на вялікі жаль, у нас рэдка апошнім часам рыхтуюцца манаграфіі пра асобных майстроў слова. І не толькі пра пісьменнікаў з пакалення Я. Чыквіна, а і пра тых, хто нашмат старэйшы, хто даўно ўжо пайшоў у лепшы свет. Відаць, справа тут не ў жанры кнігі, яго дэфіцыце, а ў тым, што час наш вельмі не спрыяльны і для літаратурнай творчасці, і для яе навуковага даследавання.

Ян Чыквін разглядаецца ў манаграфіі як паэт аналітычна-філасофскага бачання свету і разам з тым чулы да жыцця, лірычна паўнакроўны. А. Раманчук даказвае гэтыя дамінанты, слушна акцэнтуючы ўвагу на складанай метафарычнасці, умоўнай асацыятыўнасці твораў паэта. Ужо ў першым яго зборніку “Іду” (1969) даследчык заўважае як вельмі характэрнае — схільнасць аўтара да самааналізу, рэфлексіі, да пошуку адказаў на вялікія пытанні быцця і трактуе творы як узор “інтэлектуальнай лірыкі”. Увогуле то аўтар кнігі не так і далёкі ад ісціны, нават калі гаворыць, што “творчасць беларускага паэта ад пачатку замацоўвалася сталёвым каркасам аналітычнай думкі”. Хаця наконт “сталёвага каркасу” сказана занадта смела. Але справа ўся ў тым, што першая кніга Я. Чыквіна ацэнена ў цэлым празмерна высока, без дастатковых на тое падстаў. І сталася гэта таму, што мы даўно прызвычаіліся падыходзіць да беларускіх паэтаў у Польшчы з тымі эстэтычнымі меркамі, якія прыкладаем да творчасці паэтаў Беларусі, да стылёвых плыняў, што сфарміраваліся ў іх мастацкай практыцы. Таму дарэмна аўтар манаграфіі канстатуе ў ранняга Я. Чыквіна “дакладны памер”, “выразнасць рытмічнага малюнка, рыфмоўкі”, “унутраную сабранасць і выверанасць”, “майстэрства мастака-пейзажыста, тонкага жывапісца”. Гэтага, па вялікім рухунку, проста няма ў першым зборніку, хоць крытыку вельмі хочацца згаданыя здабыткі знайсці. На справе ж малады паэт ішоў не столькі ад купалаўска-коласаўскай традыцыі, колькі ад мадэрнісцкай школы ў тагачаснай польскай паэзіі (зрэшты, гэта датычыць і іншых беларускіх паэтаў у Польшчы). Таму зусім не дбаў пра мелодыку верша, упарадкаванасць націскаў у радках, таксама і пра прыродаапісальную выяўленчасць у паэтычных адбітках. Ён быў інтанацыйна раскаваным і надта канструктыўным у вобразатворчасці. Менавіта канструкцыйнасць, адцягненая асацыятыўнасць, хоць і спалучаліся яны часткова з непасрэднасцю адлюстравання, не заўсёды дазвалялі перадаць жывы пульс пачуцця, адчуванне дысгармоніі жыцця на вяскова-гарадскім сумежжы, у якім дзейнічаў лірычны герой. Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што аўтар даследавання прыкмячае рацыянальнасць метафар паэта, яўную ўмоўнасць вобразнага раду ў ранняй творчасці і ў вывадах зазначае, што гэтыя рысы паэтыкі не заўсёды высвятляюць у першым зборніку рэальную глыбіню жыцця.

Другая кніга Я. Чыквіна “Святая студня” па часе напісання супадае з першаю, і ўсё ж сюды ўвайшлі творы, якія выгадна адрозніваюць яе ад першай, асабліва раздзелам “Паверыўшы ў паэзіі крыло...” А. Раманчук апраўдана бачыць тут “споведзь-роздум над адвечнай праблемай узаемаадносін мастака і сусвету”, заўважае адзіноцтва лірычнага героя, натуры творчай, духоўна мэтаімкнёнай, якая заўсёды канфліктуе з рэчаіснасцю. Свет героя тут больш глыбокі, бо метафары Я. Чыквіна, па-ранейшаму рызыкоўныя, часам эпатажныя, нясуць больш выразную эстэтычную энергію. І аўтар манаграфіі ўжо не можа не заўважыць у паэта “форматворчых пошукаў з прыкметамі авангардысцкай паэтыкі”. Сказана, праўда, пра авангардызм вельмі асцярожна. У іншым месцы, гаворачы пра другі зборнік, зазначае: “Ірэальнасць і незвычайнасць, характэрныя для мадэрністаў, прымаюць у паэзіі Я. Чыквіна розныя формы”. Толькі ж, аналізуючы асобныя вершы, дарэчы, літаратуразнаўча грунтоўна і цікава, А. Раманчук далёка не заўсёды ўлічвае іх мадэрнісцкую прыроду і разглядае іх мастацкую канкрэтыку як рэалістычную. Гэта зноў жа ўласцівасць нашага літаратуразнаўства ў цэлым, якое надта дыстанцыруецца ад ма-

чаша, якая адлюстроўвала ўсё, што адбывалася на Зямлі і на Небе, стала ўлюбёнаю тэмаю іранскага мастацтва: "На нашу думку, — піша Т.І. Шамякіна, — важнейшы сімвал сярэднявечнай Еўропы — чаша Граля — сфарміраваўся пад несумненным уплывам чашы Джамшыда. Але гэта далёка не адзіны прыклад *уплыву **арыйскага** Усходу на Заходнюю Еўропу*".

Вывучэнне культуры арыяў (такую назву атрымалі індаеўрапейцы, якія прыкладна з III тыс. да н.э. на працягу стагоддзяў перасяляліся на поўдзень, у Індыю ды Іран) займае немалое месца ў творчасці Т. Шамякінай. Даследчык прапаноўвае не толькі ўласную версію паходжання арыяў і тлумачэння самога слова (традыцыйна лічылася, што яно абазначае "земляроба" — аратага; Т. Шамякіна трымаецца думкі, што ў аснове назвы — значэнне "леў", "высакародны", бо як народ арыі аформіліся ў X тыс. да н.э., калі пункт веснавога раўнадзенства знаходзіўся ў сузор'і Льва), але і акрэслівае іх ролю ў гісторыі сусветнай культуры ("Арыі прынеслі з сабою ў Індыю і Іран вялікія літаратурныя, рэлігійныя помнікі — Веды і "Авесту"; акрамя таго, утварылі сістэму кастаў"). Зразумела, што прадмет аналізу непазбежна вымагае звароту да сучаснай гісторыі, асэнсавання таго, якім чынам архаічная міфалогія ператвараецца ў падставу для этнацыду. Гола-публіцыстычныя сентэнцыі не вырашылі б сутнасці праблемы. Аўтар "Міфалогіі Беларусі" прасочвае механізмы вяртання Архаікі ў Сучаснасць, указваючы на *міфалагічнасць* абедзвюх эпох і на безабароннасць чалавецтва перад "творцамі Гісторыі". Прычым гэта тычыцца не толькі фашыстаў, якія "лічылі сябе чыстымі індаеўрапейцамі", у адрозненне ад славян, чыя "высакародная арыйская кроў, прынесеная з Гіпербарэі, сапсавана (паводле ўжо фашысцкай "новай" міфалогіі — **І.Ш.**) гунамі ды манголамі". Даследчык штораз звяртае ўвагу на цыклічнасць гісторыі. У артыкуле "Культурныя героі — першыя цары" распавядаецца пра Ромула — заснавальніка Рыма: "Ён зрабіў многа добрага і заклаў асновы будучай магутнасці Рымскай імперыі. Аднак у канцы свайго праўлення, як піша Плутарх, ён, упэўнены ў сваёй славе, робіцца надзвычай ганарлівым, далёка адыходзіць ад народа, савет патрыцыяў ператварае ў фікцыю... Урэшце Ромул... знікае. Паводле адной версіі, яго забілі сенатары, паводле другой — пакараў Юпітэр". "Тыповы" міфалагічны сюжэт становіцца *непераадольным* для большасці дыктатур найноўшай сусветнай гісторыі.

Нават паводле прыведзеных узораў з "Міфалогіі Беларусі" можна ўявіць дакладнасць сітуацыі, калі х т о с ь ц і (гіпатэтычны), змушаны руплівіцца пра духоўнае здароўе нацыі, не надта ўпэўнены ў тым, што "шырокі чытач" здолее адэкватна ўспрыняць матэрыял, паколькі масавая свядомасць спажывае сёння без "разумовага гастрыту" пераважна стэрэатыпы. Спецыялістам у галіне гісторыі літаратуры і культуры, дый проста адукаваным людзям, фактычны матэрыял, аналізуемы Т. Шамякінай, мяркую, больш ці менш знаёмы. Палемічным можа падацца вектар даследавання, пошукі тыпалогіі сярод з'яў ці феноменаў, якія традыцыйна (дагэтуль!) не супастаўляліся, самі высновы, версіі-пераасэнсаванні кананічных вобразаў міфалогіі, літаратуры, гісторыі. Што ж тычыцца "масавай аўдыторыі", дык і ў яе жыцці (а не толькі ў студэнцкім) павінна быць месца подзвігу — у сэнсе інтэлектуальных намаганняў. У здольнасці на гераізм падобнага кшталту памянёны х т о с ь ц і звычайна сумняваецца — на мой погляд, абсалютна дарэмна.

Я свядома карыстаюся ў дачыненні да плёну росшукаў Т. Шамякінай паняццем *"творчасць"*, хаця звычайна ў падобных выпадках абыходзяцца "даследчыцкай дзейнасцю" альбо "навуковаю працаю".

"Толькі народ здольны міфалагізаваць героя. Іншая справа, што задача інтэлектуалаў — прапанаваць такога героя, які быў бы прыняты ўсім народам. У беларускай гісторыі (у тым ліку сучаснай), у фальклоры і літаратуры такі герой, безумоўна, ёсць. На нашу думку, гэта... жанчына з мінулага" (артыкул "Трансфармацыі культурнага героя").

"Еднасць роду з прыродай, нам здаецца, па вялікім рахунку, больш важная за дзяржаўнасць. Для нацыі, праўда, неабходна адміністрацыйна-дзяржаўнае ўпарадкаванне. <...> Этнічнае ж адзінства спрадвек заснавана не на штучна сканструяваных рацыянальных юрыдычных нормах, а на самабытных, стыхійна ўтвораных звычаях да ўласцівых дадзенай грамадзе неўсвядомленых уяўленнях — архетыпах" (артыкул "Род — нацыя").

Здаецца, вядомыя рэчы, выкладзеныя звыкла (без падкрэсленай парадаксальнасці), але ў выніку — уражанне новага сэнсу, які дагэтуль, можа, і прадчуваўся, але быў прыхаваны. У гэтым і заключаецца *мастацтва мыслення*, стварэнне знаёмага свету наноў, праз адкрыццё ў вобразе.

"Сінтэтычнасць" творчага пошуку Т. Шамякінай выяўляецца ў светапоглядней плюралістычнасці, адначасовай верагоднасці самага рознага вопыту пазнання рэчаіснасці: "Пра гіпотэзу, быццам сама Поўня — касмічны карабель або "Ноеў каўчэг розуму", мы пісалі ўжо. Так што надзеі на сустрэчу з селянітамі (жыхарамі Месяца. — **І.Ш.**) жывуць у свядомасці многіх і сёння. А з другога боку, з'явілася версія, што сам палёт амерыканцаў на Месяц — міф, грандыёзны падман".

Паняцце *"шамякінская школа"* (у літаратуразнаўча-культуралагічным айчынным досведзе), на мой погляд, не мае на ўвазе абсалютнай пераемнасці метадалогіі ці тоеснасці высноў. Вучні Т. Шамякінай — Алесь Бельскі, Любоў Уладыкоўская-Канаплянік, Ігар Запрудскі, Ірына Казакова, Валеры Максімовіч, Алесь Века і інш. (пералічваю толькі вядомых мне колішніх наведвальнікаў яе навуковага семінара) — літаратары і навукоўцы, чыя цікавасць скіраваная сёння да розных сфер даследавання, дый выяўляецца ў рознай "стылістычнай" форме. Тым не менш, гнуткасць мыслення, вольная арыентацыя ў парадоксах культуры, перастварэнне ўстойлівых мадэляў у святле новага вопыту — як правіла, уласцівыя ўсім, хто трапіў у поле прыцягнення творчасці Т. Шамякінай. Вучнёўства тут не азначае другаснасці набыткаў альбо апалагетычнасці ў адносінах да Настаўніка. Гэта, хутчэй, *школа вальнадумства*, дзе свабода мыслення і пошуку вымагае адказнасці і не даруе катэгарычнасці ды беспадстаўнасці высноў.

Я маю гонар вучыцца ў гэтай школе.

**Ірына ШАЎЛЯКОВА**

---

дэрнізму. Шкада таксама, што аўтар даследавання абыходзіць увагаю версіфікацыйныя асаблівасці твораў. Што ж, усяго не ахопіш. Але гэта дапамагло б улічыць сляды польскай літаратурнай традыцыі ў паэзіі Я. Чыквіна і крытычна паставіцца, напрыклад, да вянка санетаў у тым жа зборніку. Санеты ацэньвае крытык як з'яву не толькі ў творчасці гэтага аўтара, а і ў тагачаснай беларускай літаратуры. З такім меркаваннем можна пагадзіцца пры ўмове, калі не заўважаць інтанацыйна-рытмічны лад санетных твораў. А ён жа мае ў гэтай кананічнай паэтычнай форме, разлічанай і на музычны эфект, вялікае значэнне. Між тым моцныя і частыя рытмічныя збоі, якія ў польскамоўных санетах не заўважаліся б, у Я. Чыквіна шкодзяць санетнаму гучанню і, вядома, не спрыяюць мастацкаму ўзроўню твораў у цэлым.

Увогуле ж ранняя творчасць паэта-"белавежца" засведчыла яго вялікія мастацкія магчымасці, і гэта пераканаўча давёў А. Раманчук, падсумоўваючы свае назіранні ў першым раздзеле манаграфіі.

"Даспелае сонца паэзіі" — так красамоўна акрэслівае даследчык сталы перыяд творчасці Я. Чыквіна — 70—80-ыя гады. Паэт цяпер фармуецца як цэласная, па-мастацку арганічная постаць. Яго творчая палітра, як паказвае А. Раманчук, па-ранейшаму разнастайная, інтарэсы лірычнага героя шырокія. Але паэт зараз вельмі добра сумяшчае аналітычна-філасофскі і эмацыянальна-непасрэдны пачаткі светаўспрымання. Па-іншаму кажучы, умее адкрываць паэтычнае ва ўсім. Ды нязменна практыкуе нечаканыя, нават парадаксальныя збліжэнні эстэтычна разнародных з'яў, што трымае ў полі зроку аўтар даследавання. Ён паказвае, што некаторыя такія збліжэнні яўна шакіруюць чытача сваёй вобразатворчай несумяшчальнасцю. Аднак тут ужо маем справу з досыць устойлівай мадэрнісцкай пазіцыяй паэта, якая дапамагае выпрацоўваць адмысловы і зусім не другарадны ў Я. Чыквіна арсенал мастацкасці. Дарэчы, даследчык, хаця і не адносіць паэта да мадэрністаў, добра бачыць мала кантралюемую літаратуразнаўчай канкрэтыкай паэтычную стыхію Я. Чыквіна і змястоўна вытлумачвае яе. Хаця зноў жа не акцэнтуе ўвагі на бязладнасці рытмічнай арганізацыі твораў. А Я. Чыквін увесь час балансуе паміж традыцыйным лірычным маналогам і верлібрам, не аддаючы перавагі ні таму, ні другому, шукаючы свой тып паэтычнага маўлення. У канцы кнігі ёсць спроба разабрацца з структураю яго верша. Толькі ж інтанацыйны малюнак твораў, які многае гаворыць пра адметнасць гэтага паэта, што вырас у Польшчы, не стаў прадметам вывучэння.

Найбольш паспяхова, у сапраўды ўнутраных мастацкіх якасцях прачытваецца ў манаграфіі творчасць Я. Чыквіна 90-х гадоў. Літаратуразнаўца вытлумачвае яго кнігі гэтага часу як сінтэз раней зробленага і разам з тым як новы ўзровень мастацкага мыслення, новы стылёвы комплекс, які выяўляе арыгінальную, яркую творчую індывідуальнасць. Паэзія Я. Чыквіна гэтага часу асабліва складаная і сваім "падводным" шматзначным зместам, і паліфаніяй вобразнай сістэмы, якая ўмяшчае зараз у сабе, на мой погляд, і водгалас фальклорнай традыцыі, і, як паказвае даследчык, згустак сучаснай еўрапейскай мастацкай культуры. А. Раманчуку ўдалося раскрыць моцны лірычны драматызм твораў паэта, перадаць своеасаблівасць асобы героя Я. Чыквіна, самотнага шукальніка ісціны і святла, і даказаць насуперак апанентам, што ў цяжкіх стратах і расчараваннях герой паэта зберагае ў сабе жыццядзейныя сілы, што цывілізацыйныя працэсы 2-й паловы XX стагоддзя не разбурылі гэты характар, які мае надзейны народна-маральны грунт. Я. Чыквін паўстае ў манаграфіі як магутная мастацкая постаць, чый мнагагранны вопыт павучальны для развіцця сучаснай беларускай літаратуры.

**Аляксей ПЯТКЕВІЧ**

---

ЧАСОПІСЫ

# Не згубіўся дзіды след...

Радуюся і па-добраму зайздрошчу той нястомнасці і паслядоўнасці, з якой Вольга Іпатава даследуе розныя гістарычныя падзеі і ў першую чаргу звязаныя з нацыянальнай даўнінай. Здаецца, не так і даўно яшчэ, у 10—11 нумарах часопіса "Маладосць" за мінулы год была мажлівасць пазнаёміцца з яе аповесцю "Вяшчун Гедзіміна", у якой праўдзіва расказваецца пра такога выдатнага дзеяча, як Гедымін, а сёлета ў 9—10 нумарах "Полымя" з'явіўся новы раман пісьменніцы, па назве якога няцяжка здагадацца, што гаворка ідзе пра аднаго з сыноў Гедыміна (гэтым разам В. Іпатава прытрымліваецца такога напісання. — **А. М.**) — "Альгердава дзіда". Аднак гэта — не працяг аповесці.

Увогуле, як чытач паспеў заўважыць, В. Іпатава не імкнецца даць разгорнутыя партрэты-характарыстыкі гістарычных асоб, што становяцца героямі яе твораў. Канечне, у сваім узнаўленні падзей яна прытрымліваецца пэўных біяграфічных фактаў (як, у аднолькавай ступені, карыстаецца інтуіцыяй у тых выпадках, калі дакументальна пацвярджаючыя звесткі адсутнічаюць), але гэта не мастацкія жыццяпісы таго кшталту, якія, для прыкладу, з'яўляюцца ў папулярнай серыі "Жизнь замечательных людей".

Для В. Іпатавай важна знайсці нейкі імпульс-штуршок, ад якога і разгортваецца дзеянне. Пры гэтым прысутнічае пэўны арэол рамантызацыі, як у дадзеным выпадку з дзідай, выкананай для юнага княжыча ў шаснаццацігадовым узросце. Няцяжка заўважыць, што В. Іпатава ідзе шляхам, якога прытрымліваўся ў сваіх гістарычна-мастацкіх творах Уладзімір Караткевіч, а калі выходзіць на сусветную арэну — Вальтар Скот. А такія раманы, аповесці, як і апавяданні шмат робяць для абуджэння ў масавага чытача зацікаўленасці даўнінай, а гэта, несумненна, асабліва важна для нас, беларусаў, калі далёка яшчэ не ўсе прачнуліся ад сну нацыянальнага бяспамяцтва. Па-майстэрску напісаныя творы, не пазбаўленыя займальнасці, успрымаюцца лёгка і пакідаюць глыбокі след у душы.

"Альгердава дзіда" — менавіта з такіх. Дакладнае ўзнаўленне канкрэтных рэалій у В. Іпатавай суседнічае з уменнем заінтрыгаваць чытача, стварыўшы не толькі належны гістарычны каларыт, а і змадэліраваць такія сітуацыі, калізіі, калі героі, а ў дачыненні да "Альгердавай дзіды" — Альгерд, пастаянна выпрабоўваюцца на чалавечнасць, сумленнасць. Пры гэтым надараецца, што сам выпадак у многім уплывае на іх далейшы лёс, а паколькі той жа Альгерд з цягам часу атрымлівае вялікую ўладу, і на лёсы іншых людзей.

Такім зыходным момантам для Альгерда стала сустрэча з кавалём Вольжычам. Спаткаліся яны выпадкова, калі княжыч, знаходзячыся з адданымі яму людзьмі на паляванні, быў заспеты ў пушчы навальніцай.

З самага пачатку, з першых жа сказаў твора прысутнічае той дынамізм, які трымае ў напрузе: "Маланка разадрала цёмна-шэрае, набрынялае вадой палатно нябёсаў, гахнула ў недасяжную сасну, і тая імгненна запалала белавата-сінім, страшным полымем.

— Княжыч, хутчэй! — закрычаў лоўчы Драмак, спрабуючы спыніць каня, які ляцеў наперад, прадчуваючы схованку ад дажджу і шалёнага ветру, што тут, на ўскрайку лесу, ажно збіваў з капытоў нават цяжкіх, звыклых да ўсяго панскіх коней. Але Альгерд ужо даганяў яго — тонкі, наструнены небяспекай і насцярожана-захоплены буйным разгулам навальніцы, ён гнаў свайго каня, не зважаючы на тое, што торба з падстрэленай лісіцай мякка калаціла па скураным поршні левай нагі, а калчан з лукам — па правай. Лівень ужо прамачыў наскрозь яго каптан, дабраўся да белай палатнянай кашулі, пад якой па худых ключыцах целяпаўся драўляны, абабіты серабром крыж, што перад смерцю надзела на любага сына княгіня Вольга, цурком ліўся па сцёгнах. — У селішча! — спрабаваў крыкнуць лоўчы, але вецер ударыў яго ў грудзі так шалёна, што ён захлынуўся і, закашляўшыся, сагнуўшыся, толькі тузануў свайго каня за лейцы ўправа, каб ён павярнуў да нізенькіх хатак, што збіліся паміж двух вялікіх узгоркаў непадалёку ад лесу".

Здагадваешся, што абавязкова адбудзецца штосьці важнае. Не можа не адбыцца, бо і гэтая навальніца, і вецер, што нічога добрага не абяцае, невыпадковыя. Сама прырода настройвае на нешта нечаканае.

Падобных момантаў у "Альгердавай дзідзе" шмат, калі старонку за старонкай чытаеш не адрываючыся. Я ж нават пазнаёміўшыся з той часткай твора, што змешчана ў дзевятым нумары, не дачакаўся дзесятага, паспяшаўся да "палымянцаў", каб узяць яго карэктуру — так хацелася хутчэй даведацца, чым закончыцца гэты расказ пра Альгерда і час, у якім ён жыў, пра людзей, якія акружалі князя. І як бы супаставіць усё з гэтай навальніцай, што з цягам часу стане для яго часткай таго даўняга, што не забываецца.

А не забылася яна Альгердам нездарма. Калі трапілі да каваля Вольжыча (як высветлілася назвалі яго ў гонар Альгердавай маці княгіні Вольгі), убачыў княжыч юную Лозку, амаль сваю равесніцу: Альгерду споўнілася шаснаццаць гадоў, ёй — чатырнаццаць. Дастаткова было абмяняцца позіркамі, каб княжыч закахаўся ў дачку Вольжыча. Лозка адказала ўзаемнасцю. Толькі няма гісторыі больш сумнай на свеце чым аповесць... аб Альгерду і Лозцы.

Скажу шчыра, у гістарычных творах, калі аўтарам перадаецца тое, што магло быць і, асабліва, калі яно тычыцца такіх далікатных момантаў, як каханне, мяне часта не задавальняе імкненне некаторых аўтараў празмерна асучасніць паводзіны, учынкі персанажаў. А ў выніку атрымліваецца, што кахаюць, пакутуюць не тыя, хто жыў шмат стагоддзяў да нас, а тыя, хто як бы з намі поруч.

В. Іпатава паспяхова пераадолела гэтую, калі можна так сказаць, часавую нестыкоўку. Юны Альгерд, як і Лозка, дзеці свайго часу. Аўтар "Альгердавай дзіды" не спрабуе іх падаць іншымі, чым яны былі. Прынамсі, маглі быць. Разам з тым ёй дастаткова аднаго штрыха, каб пераканаць, што і Альгерд знаходзіцца ў тым узросце, у якім увесь навакольны свет нечакана прыгажэе. Княжыч — звычайны юнак, якому хочацца як мага хутчэй стаць дарослым. Калі Вольжыч пытаецца пра яго ўзрост, княжыч адказвае: "Ужо хутка семнаццаць" і чырванее, бо, як вядома, яму толькі шаснаццаць.

Выпадковая сустрэча з Вольжычам і яго дачкой падарыла Альгерду не толькі першае каханне: княжыч атрымаў у дарунак дзіду: "Наверша, выкананае Лозкай, было насаджана на ясеневае дрэўка, і гэтую дзіду везлі ў асабістай фурманцы княжыча разам з баявой сякерай і мячом, а таксама ягонымі рэчамі... "На кожным прывале Альгерд цягнуўся да павозкі: "...мог час ад часу браць у рукі запаведную дзіду і, дакранаючыся да жалезнага бліскучага наверша, падобнага да вострага ліста арэшыны, нібыта адчуваць Лозку — яе гнуткую постаць, імклівыя рухі, светлыя вочы з загадкавымі цёмнымі крапінкамі, як у сапраўднай фіялкі-браткі. Наверша чамусьці было цёплым — нават у халодныя вечары. А можа, тое толькі здавалася княжычу?"

Раздзел, у якім расказваецца пра першае каханне Альгерда, пра дзіду, якую ён атрымаў у дарунак, называецца "Год 1313. Лозка". Наступны пераносіць у падзеі куды бліжэйшыя да нас: "Год 1341. Як таць у ночы..." Альгерд ужо не такі і маладзён, з'яўляецца віцьбескім князем — "атрымаў княства праз жонку Марыю". Лозка ж засталася толькі ў яго памяці, бо, перафразіруючы словы вядомай сучаснай песні, можна сказаць, што не могуць па каханні жаніцца князі. Дый яна, як упэўнены Альгерд, загінула падчас чарговага нападу крыжакоў, яшчэ тады, калі княжыч атрымаў сваё першае сапраўднае баявое хрышчэнне і, дзякуючы дзідзе, выратаваў свайго бацьку, вялікага князя Гедыміна. А каханне да Лозкі жыве ў сэрцы, вярэдзіць памяць, абуджае пачуцці. І, як высвятляецца, не пакіне Альгерда на працягу яго ўсяго, не такога і кароткага, жыцця.

"Год 1345. Вільня. Выгнанне Яўнута", "Год 1350. Клятва на дзідзе", "Год 1363. Паход у "Палі дзікія", "Год 1370", "Да Масквы прысланю сваю дзіду..." — па назвах раздзелаў няцяжка здагадацца, што В. Іпатава выбірае з багатага жыцця Альгерда моманты лёсавызначальныя і для яго самога, і для Вялікага Княства Літоўскага. Але, пра што б яна ні расказвала, абавязкова прысутнічае дзіда. І гэтая прысутнасць не толькі таму, што Альгерд князь-воін.

Дзіда паступова становіцца ўвасабленнем той сілы, якая здатна ўратаваць і Альгерда, і яго акружэнне ды і ўсю Бацькаўшчыну. Дзіда — свайго роду талісман, а ў дачыненне да самога твора можна гаварыць пра яе як пра, умоўна кажучы, дзейную асобу. Але, што важна, яна не карае невіноўных. Дзіда, як меч правасуддзя, насцігае толькі ворагаў, а таксама тых, хто пасягае на жыццё Альгерда ці блізкіх яму людзей. У гэтым — гуманістычная канцэпцыя разумення В. Іпатавай прымянення сілы. Аднак у гэтым і правільнае разуменне самой справядлівасці. Важны яшчэ і такі аспект. Дзіда выкавана Лозкай, дзіда быццам выпраменьвае з сябе цяпло той, каго Альгерд па-сапраўднаму кахаў. Зло і каханне — не сумяшчальны, калі яно па-сапраўднаму светлае, чыстае.

Завяршаецца твор на элегічнай ноце: "Альгерд жа, узняўшы яшчэ раз дзіду над галавой, гучна сказаў усім, каго павёў у доўгі гэты паход, спадзеючыся на перамогу, але і гатовы скласці ў ім свае косці:

— Дзіда мая павінна ляжаць у Вільні. Толькі там, пры вялікім князі.

І ўсе схілілі галовы перад запаветам.

На тым і разышліся ў той дзень вялікія князі. Альгердаву дзіду паклаў у скураны футарал Кужаль (унук Лозкі, якая ўсё ж засталася ў жывых. — **А. М.**)".

Пастскрыптумам гучаць заключныя радкі: "...Яму ж (Кужалю. — **А. М.**) давядзецца праз шмат гадоў везці яе ў Кракаў — туды ўзяў яе з сабой Ягайла, спадзеючыся, што ў небяспецы абароніць яна яго гэтак жа, як абараняла ягонага бацьку.

І там згубіцца ейны след — як і многае з таго, што страчана яшчэ нашымі продкамі і чаго не зберагалі ўжо і мы..."

След дзіды згубіўся, а з ёю не стала і часткі нашай гістарычнай памяці. Балазе, паступова яна вяртаецца. У тым ліку і дзякуючы раману "Альгердава дзіда" В. Іпатавай, якая, у свой час стаўшы адным з першапраходцаў гістарычнай тэматыкі ў нашай літаратуры, працягвае плённа працаваць.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

## “Дочь за отца”

**Раман Якава Якаўцава і Міхаіла Кавалёва “Дочь за отца”, выпушчаны Магілёўскай абласной друкарняй, першы з серыі крымінальных твораў “Кровь и слёзы” і прысвячаецца супрацоўнікам крымінальнай міліцыі. Адзін з аўтараў яго Я. Якаўцаў доўгі час працаваў следчым па асабліва важных справах, займаўся расследаваннем многіх выпадкаў арганізаванай злачыннасці і карупцыі, цяпер пенсіянер Міністэрства ўнутраных спраў, працуе выкладчыкам. М. Кавалёва чытачы больш ведаюць як Міхася Сліву. Пад гэтым псеўданімам ён**




**выдаў кнігі прозы “Усмешка Джаконды” і “Прыгожыя караблі”, часта выступае на старонках газет і часопісаў з гумарэскамі і апавяданнямі. Творчае ж супрацоўніцтва гэтых аўтараў і знайшло ўвасабленне ў рамане “Дочь за отца”. Такі мастакоўскі “тандэм” пайшоў на карысць. Я. Якаўцаў за гады працы следчым назапасіў багаты фактычны матэрыял, які пад пяром М. Кавалёва набыў кампазіцыйную завершанасць, а з шматлікіх падзей і фактаў удала адабраны тыя, што даюць мажлівасць паразважаць, у якіх нялёгкіх умовах даводзіцца працаваць супрацоўнікам праваахоўных і следчых органаў, як яны, дзякуючы таленту, мужнасці, раскрываюць так званыя “гучныя справы”. І хоць у самым пачатку аўтары зазначаюць: “Сюжэт кнігі прыдуманы, усе персанажы выдуманыя”, няма сумнення, што Я. Якаўцаў і М. Кавалёў маглі б назваць прататыпаў. Але сутнасць, вядома, не ў гэтым. Атрымаўся твор востры, дынамічны. А цікаўнасць да ўсяго ўзмацняецца яшчэ тым, што адна з гераінь рамана жанчына, якая выбрала для сябе няпростую прафесію супрацоўніка крымінальнай разведкі. З Кацярынай Мяжэвіч мы сустракаемся ў той момант, калі яна па накіраванні Галоўнага ўпраўлення крымінальнага вышуку МУС Беларусі прайшла вучобу ў Вышэйшай школе міліцыі Міністэрства ўнутраных спраў Расіі і здае выпускныя экзамены на маскоўскім вучэбна-трэніровачным палігоне Вышэйшай школы ФСБ Расіі. Іспыты не для слабанервовых, бо Мяжэвіч павінна нават выканаць прыгавор у дачыненні да асуджанага на смяротнае пакаранне. Не кожнаму і з мужчын удалося ў гэтым ды і іншых выпадках праявіць неабходную вытрымку, але Мяжэвіч не разгубілася: “Из двадцати экзаменуемых четыре... впали в истерику у ложной таблички..., два стреляли не в того, кого надлежало убрать. Один стрелял в кого следовало, но, расстреляв две обоймы, ни разу не попал”. Праўда, як высветліцца, Мяжэвіч расстрэльвала не злачынцу, а толькі ў люстранае адлюстраванне аднаго з аператыўнікаў. Пра гэта ёй паведаміў перад уручэннем дыплома начальнік факультэта крымінальнай разведкі падпалкоўнік Сімакоў. Размова, якая адбылася ў Сімакова з Кацярынай, вельмі важная для разумення сутнасці той работы, якой збіраецца яна сябе прысвяціць. Сімакоў не супраць адгаварыць Мяжэвіч: “Ты с красным дипломом закончила университет. У тебя светлая голова, и сын растет. Неужели свет сошелся на разведке? Ты хоть понимаешь, что тебя вопрут в какую-нибудь преступную группировку, и на этом вся твоя нормальная жизнь закончится? Назад дороги не будет. Больше Межевич Катериной ты не станешь, возможно, на все время...” Аднак Кацярына цвёрда настойвае на сваім. І ў гэтым праяўляецца не толькі яе адданасць прафесіі, якую любіць і якой хоча прысвяціць сваё далейшае жыццё. Ёсць і іншая, таксама вельмі важная прычына. Мяжэвіч перакanана, што бацька яе, муж і свёкар, загінулі ў час дарожна-транспартнай катастрофы невыпадкова. Сваім абавязкам яна бачыць змаганне са злачыннасцю ў самых розных яе праяўленнях. Аднак і пасля гэтага Сімакоў спрабуе адгаворваць Кацярыну. У рамане ёсць і іншыя, псіхалагічна праўдзівыя моманты. Асабліва тады, калі Мяжэвіч пад прозвішчам Мятлікавай з адпаведнымі дакументамі апынулася ў самым “логаве” тых, хто даўно ступіў на злачынны шлях. Воляй абставін, яна трапляе на Каўказ. А далейшы шлях, відаць, будзе яшчэ больш складаным і цяжкім. Ва ўсякім разе апошняя кропка ў лёсе галоўнай гераіні ў рамане пакуль не пастаўлена.**

**Міхась ГЕНЬКА**

## ПАЭЗІЯ

Павал
ЗМІТРУК



### Народзіны Божага сына

*Абуджаны матчыным стогнам,*
*Пазваны матчыным крыкам,*
*Ён нараджаўся ў лузе пад стогам,*
*Спавіты Небам Вялікім.*

*І крык Яго, покуль змоўкнуў,*
*Дугою выпінаў рэбры,*
*І ўсё нараджалася зноўку,*
*Акром Вялікага Неба.*

*І крочыў Ён першай дарогай,*
*Зямлі адзіным Паэтам.*
*І Ён ужо ведаў, што будзе Богам —*
*І ўжо шкадаваў аб гэтым.*

●

*...І сяду... І гарэлкі набяруся,*
*І слёзы — як змагу, то ўвабяру,*
*І заспяваю зноў аб Беларусі,*
*Хоць не люблю т а к у ю Беларусь.*

*Хай не люблю, але не ўхрасне Слова...*
*За выбар п'ю, бо кожны выбраць вольны:*
*Ці ён Паэт — сляза жалоб Хрыстовых,*
*Ці ён — струмень сліны перадзастольнай.*

*І трэцяе — ты можаш замаўчаць, —*
*Знямецца сэрцам і душу стрыножыць,*
*Умшэць як камень, у пераддарожжа:*
*Направа — смерць, налева —*
*...тваю маць...*

*І лепш — сканаць, сканаць і ўсё пакінуць,*
*Але — ...бацькі, але — дачка і сын...*
*І самая гаротная з Краінаў,*
*І самая прыемная з жанчын...*

### Забранне краю

*Цьмянела войска, безадпорным шляхам,*
*Як дзірваном, кайданячы зямлю,*
*І чорныя, як крык апошні, птахі*
*Па ўмерлых адгруганьвалі салют.*

*А хто не ўмер, — не мусілі ўцячы,*
*Як жамярыцы, шыючыся ў хлудзе,*
*Дарэшты не знясіленыя людзі*
*Укленчвалі, да Божых далячынь*

*Прасіліся, а ўмерцы не маглі,*
*Бо ім было наканавана ўбачыць*
*Дзяцей малых, што зойдуцца ад плачу,*
*Бацькоў старых, пазлеглых без магіл.*

*А Бог, не ўзяўшы ні адпраў, ні месы,*
*Сышоў адсюль, —*
*Ён больш не мог любіць*
*Народ, які спыніўся на раскрэсах,*
*І Край, які не сталі бараніць.*

### Лавец

*Лавец быў дужы і моглы,*
*Як дых на поўныя грудзі,*
*Асочваў воўчыя логвы,*
*І звера і біў, і пудзіў.*

*Ніводзін не быў дзень ялым —*
*Каб то: без крыві, ці следу,*
*Бо зорка ўдачы лунала*
*Лаўцу і зімой, і летам.*

*Лавец не лічыў ніколі*
*Рагоў, ды іклаў, ды шкураў,*
*І колькім зубрам і турам*
*На смерць памяняў ён волю —*
*Лавец не зважаў ніколі.*

*Суседзям — было чаканне:*
*Калі ж ён здабудзе мяса?..*
*І тыдзень пасля не ўстане*
*Ад цэбра з брузловым квасам.*

*Не ўстане, хмурны і горкі,*
*Нібы галосячы моўчкі...*
*Пад небам, дзе бліснe зорка,*
*Як вокам далёкім воўчым.*

### Пра дурнога

Юродивый, зродку прыдуркаваты;
бажавольны...
**В. Ластоўскі,**
**“Расійска-Крыўскі слоўнік”, стр. 758.**

*...І жыў не так, і ўсё не так рабіў,*
*І быў людской насуперак прыродзе:*
*Зіма была, а ён свой пляц скародзіў,*
*Вясна — ён у няўдобіцу садзіў.*

*І ў дом яго раскрэсны між дарог*
*Хадзілі ўсе — свае і чужаверцы,*
*І нават той, каму ўсе зычаць смерці,*
*Спачыць у ім і спахавацца мог.*

*Не так ён жыў, ды не судзілі людзі,*
*Што ён такі, без пана ў галаве,*
*Казалі: “Ат, дурны — такіх не судзяць.*
*Няхай жыве. Як хоча хай жыве”.*

*І жыў. Як на крыжы, паміж шляхоў*
*Расняты, але вольны й беспакутны,*
*А ўсе вакол сабе вязалі путы*
*З законаў, звычак, ісцін і грахоў...*

*Пасля была вайна, і той вайною*
*Згарэла ўсё ўдакон, ушчэнт, дашчэнту.*
*Застаўся пляц, скароджаны зімою,*
*Для каліваў астатніх апранаха.*

### На могілках

*Груган, як чорны ліхтар на крыжы,*
*Ашклянела на дол глядзеў,*
*Ён адзін, хто ў гэтым горадзе жыў,*
*І тутэйшых ведаў людзей.*

*Ён адзін, хто ведаў — калі хто з іх*
*Хоць на хвілю вярнуцца мог,*
*Ён адзін, хто бачыць Дзядоў маіх,*
*Калі іх адпускацьме Бог.*

*Ён, мажліва, — адзін, хто знае, чаму*
*Мы не іншы абралі шлях,*
*І чаму, як крыж, мы цяжкі хамут*
*На сваіх крывавім плячах,*

*І чаму ўжо каторы дзень і год*
*У пакоры мы спіны гнем,*
*І чаму мы яшчэ завемся — Народ,*
*І чаму мы яшчэ жывем...*

●

*Было мне раз — не стрэліў па ваўку.*
*Ён выйшаў —*
*ад мяне шаснаццаць крокаў,*
*Як шчэ не ў твар агніста-шэрым бокам,*
*І хакнуў быццам: “Бі, я не ўцяку”.*

*Было — па Караткевічу амаль:*
*Ён, не змігнуўшы, пазіраў у рулю,*
*І стрэльба вочы першай адвярнула,*
*Як з сораму, заінеўшы сама.*

*Казалі потым: шосты раз на мне*
*Ён абышоў запуды ды аблогі...*
*І недзе лось, не данасіўшы рогі,*
*Мяне смяротным хрыпам пракляне.*

*І недзе ляжа на мяне праклён*
*Бабульчын над загрызенай авечкай...*
*Шаснаццаць крокаў у адвечнай спрэчцы,*
*Ў якой забітым мог быць т о л ь к і ё н.*

*Казалі потым, што на ўвесь свой род*
*Я пачапіў нязмыўную абразу.*
*А я... Я пабаяўся не прамазаць —*
*І ён пайшоў.*
*Той год — быў воўчы год.*

●

*Каб шчасце мець — ад кесарава дня*
*Цыганскім быць ускормленым*
*раздоллем —*
*Я нават тут упіцца змог бы воляй,*
*Ускочыўшы на скранага каня.*

*Каб шчасце мець — габрэем нарадзіцца,*
*То нават тут, нагбом адпіўшы гора,*
*Я б ведаў, што мая зямля — за морам,*
*І не маім нашчадкам тут душыцца.*

*Каб шчасце мець — ды нарадзіцца ляхам,*
*Я пазіраў бы недзека з-за Буга,*
*Як плешча лыбень дуркаватай пугай*
*Па спінах, мокрых ад бяды і страху.*

*Не шэнціць мне — я не цыган, не лях,*
*І не габрэй па сёмае калена...*
*І сёння я свой пот глытаў і страх —*
*Касу кляпаў.*
*Хоць не пара для сена.*

●

А я, сцяжынаю вужой,
Пайду на голас мудрых соў...
**А. Сыс**

*А ноч ажывала зноў*
*Ваўкамі, што вылі поўню,*
*І келіх лясун напоўньваў*
*Трывогай густых бароў.*

*А я, як святар грахоўны,*
*Што ўчора пакінуў паству,*
*Зубамі на холад ляскаў,*
*І вокам была мне поўня.*

*І совы былі вушамі,*
*Вужакай была дарога.*
*І я, адшукаўшы Бога,*
*Убачыў, што Ён не з намі...*

### Уладар навальніц

*Прыйшоў.*
*Як з прадапошняга агню,*
*Як ведаў — так*
*Шчэ хоць аднойчы будзе.*

*І ўпаў, як небам зрынуты, канюк.*
*Як яблык,*
*Аб зямлю разбіўшы грудзі*
*На пырскі.*

*Мокла ноч,*
*Каўталі людзі*
*Праклён дарозе, што кудысь вяла,*
*Крывая, як пракос на першым лузе.*

*І хмары,*
*Быццам коні на іструзе —*
*Саскубшы неба, выйшлі да сяла.*

●

*Касцельныя гмахі дубоў*
*начаваліся ў хмарах,*
*Накінуўшы цені, як вейкі, на вочы азёр,*
*Чарот калыхнулі салоўкавы*
*пошчакі-мары,*
*І пах верасовы туманам праліўся ад зор.*

*Нябачная птушка крылом*
*цішыню закранула,*
*Ці дзеўчына недзе з мастка*
*зачарпнула вады —*
*І сціхлася ўсё, ў верасовы*
*туман патанула,*
*І месячык зоркі сачыў, як лавец малады.*

*Зліліся і рукі, і вусны, і душы, і крылы,*
*Ты найшчаслівейшай была каля*
*ціхай вады,*
*І я для цябе — і адзіны, і любы, і мілы.*
*І нават каханне ў той вечар*
*было назаўжды.*

●

*Халоднымі іголкамі дажджы*
*Праткнуць зямлю, шукаючы прадоння.*
*І промень, збіты кропляй наўздагоне,*
*Апошні, загадае доўга жыць.*

*Засвішча мокры вецер і завые,*
*Шпурне ўладарна лісце ў клін дарожны,*
*І сціхнуць, як апальныя вяльможы,*
*У панскім скверы ліпы векавыя.*

*Жалобныя, заблытаюцца ў вецер,*
*Загойдаюцца, літасці папросяць.*
*І безнадзейна заўладарыць восень*
*Маёй Дукорай, як на цэлым свеце.*



ПРОЗА

*Што толькі ні ўспомніш, калі не прыходзіць сон і пакутуеш ад бяссонніцы. Калі працаваў над раманам, аповесцю, п'есай, бяссонне было не пакутай, а бадай дабром. У начной цішыні так хораша "абсмоктваеш" дэталі сюжэта, які даўно ўжо склаўся, але ў які за час працы — за два-тры гады — уносіш усё новыя, часам зусім нечаканыя хады, размаўляеш з героямі, дадаеш у іх характары новыя рысы; яны, героі, лепшыя начныя субяседнікі. Задаволены новым сюжэтным "адкрыццём", цікавай дасціпнай гутаркай з Ярашам, Антанюком, Батраком, Вольгай, Міхалінай, нават з Леніным, Троцкім, Бухарыным, засынаеш нечакана, нярэдка ў сне прадаўжаеш размовы з тымі ж героямі, а часам з новымі, якія пасля, у новым сюжэце, з ценяў стануць рэальнымі людзьмі. Жыццё герояў (на жаль, не ўсіх) бессмяротнае. Па логіцы, яны павінны жыць, пакуль жыве кніга. Класічныя героі так і жывуць. Але не толькі ў чытача — у гледача: іх увасабляюць акцёры ў тэатральных пастаноўках, у кіно. Могуць з'явіцца іншыя формы іх жыцця.*

*Так, былі часы, калі бяссонніца была творчай радасцю. Былі. З гадамі яе рабілася ўсё менш — творчай бяссонніцы, а самога бяссоння — больш. І радасці яно не прыносіць — пакуты, бо сюжэта няма, а думкі змрочныя — ад старасці, зруйнаванага жыцця. Адзін пробліск — успаміны маленства. Нават бацькава навука, голад, сустрэча з ваўком, скачок з поезда, у выніку якога ледзь не паламаў косці, — не здаюцца такімі змрочнымі, як некаторыя ўспаміны сталасці, калі жыццё наладзілася і асабіста для мяне было шчаслівым, і ўспаміны старасці. Хоць ці ёсць яны, успаміны старасці? Ёсць! Але пісаць пра іх не хочацца, калі гэта здарылася не са мной асабіста, а некім расказаныя. Асабістыя ўспаміны часцей за ўсё кладуцца ў аснову сюжэта. Аднак рэалізацыя сюжэта — аповесць. А на яе не хапае сілы.*

*Успаміны сталасці — гэта ў асноўным партрэты людзей, з якімі жыў, працаваў, сутыкаўся пазітыўна ці негатыўна. Я, бадай, больш, чым хто з маіх калег, напісаў успамінаў пра блізкіх, пра сяброў, паплечнікаў па творчасці. Аповесць "Карэнні і галіны" — пра бацькоў, "Слаўся, Марыя" — пра незабыўную жонку маю, "Аповесць пра сябра" ("Тайна драмы") — пра лепшага сябра майго Андрэя Макаёнка, разгорнутыя ўспаміны пра Пятра Глебку, Міхася Лынькова, Івана Мележа, Петруся Броўку, Максіма Танка, Піліпа Пестрака. Кагосьці забыў... Коласа! Пра Коласа я напісаў мала і слаба, гэта хутчэй артыкулы, чым успаміны. Але розніца ў сорак гадоў не давала мне спазнаць яго чалавечыя рысы так, як спазнаў я Андрэя ці Глебку. Мне хацелася напісаць пра Кандрата Крапіву. Не напішу: лепшы гумарыст, сатырык у літаратуры, у жыцці быў замкнутым, скрытным; не помню ніводнага яго расповеда хоць бы пра маленства, пра вайну, пра літаратурную барацьбу ў 20—30-х гадах. А з'явілася ж у канцы 30-х "Хто смяецца апошнім". Можа, я не прачытаў камедыю — ведаю тэатральны варыянт, глядзеў многа разоў. Хацеў бы напісаць пра Пімена Панчанку, але хоць часта разам пілі, і яго "не злавіў". Няўлоўны. Яшчэ больш няўлоўны і нават загадкавы быў для мяне Аркадзь Куляшоў. З сваёй паэтычнай вышыні, а паэт ён быў — дай бог, ён глядзеў на нас, празаікаў, зняважліва і мала каго чытаў; атрымоўваў характарыстыкі ад "вялікага крытыка" Алеся Кучара.*

*Аднак гэта ўжо агульныя ўспаміны. Згаджуся, што яны не ўяўляюць цікавасці. Будуць сілы — пра некаторых са сваіх калег напішу. Пра людзей, якія не хапалі зорак, але былі шчырымі паэтамі і празаікамі, як, напрыклад, Мікола Аўрамчык.*

*Цікавыя асобныя эпізоды начных успамінаў — тыя, якія здараліся толькі са мной.*

**Аўтар**

Іван ШАМЯКІН



# НАЧНЫЯ ЎСПАМІНЫ

## Літэрны паёк

У чэрвені 1947 года мяне выклікалі ў Мінск для прыёму ў Саюз пісьменнікаў. Апублікаваны былі аповесць "Помста", апавяданне "У снежнай пустыні", два ці тры апавяданні, якія ўжо забыў, у "Гомельскай праўдзе".

Гэта была другая паездка ў сталіцу, першая ў снежні сорак пятага – на першы пасляваенны пленум. Так ён называўся. Але па-сапраўднаму гэта быў з'езд, бо на ім прысутнічала 42 члены саюза з 43 (Пімен Панчанка не прыехаў з Ірана, дзе працягваў службу ў арміі).

Перад той, першай, паездкай я не хваляваўся. Ехаў у шынялі і ботах – салдат. А салдат нідзе не павінен хвалявацца. Назад ляцеў на крылах: на пленуме ў дакладзе пра творчасць маладых Васіль Вітка ацаніў маю "Помсту", хоць часопіс яшчэ не выйшаў.

Выклік на прыём мяне расхваляваў. Вунь як узляцеў за два гады – да якой вяршыні дабраўся! Вярнуся членам Саюза пісьменнікаў! У той час гэта быў лёсатворчы крок. Пісьменнік-прафесіянал – постаць, роўная... Ды з кім можна было параўнаць? Толькі з калегамі па іншых відах мастацтва – мастакамі, кампазітарамі...

Больш за мяне хвалявалася Маша. Папершае: а раптам не прымуць – ганьба!

— Нікому не кажы, чаму едзеш.

Але яшчэ больш яе спалохала мая мара:

— Стану членам саюза – пераедзем у Мінск.

Баялася сельская фельчарка Мінска. Зраднілася з людзьмі свайго вялікага ўчастка – на сем вёсак: Пракопаўка, Макаў'е, Будзішча, Чарацяка, Займішча, Залессе, Данец. Галеча несусветная, асабліва ў Макаў'і. Але Маша радавалася, што хоць чым можа дапамагчы гэтым людзям, хоць і сама жыла не намнога лепш: вясна таго года была галодная; суседняя Украіна зусім галадала, людзі адтуль ішлі на поўнач. Куды? У Мінск? У Літву? У Ленінград? Рабочыя ўсюды трэба былі – дзяржава аднаўлялася пасля вайны. Але не ўсюды атаварвалі нават рабочыя картачкі. А хто мог памагчы калгаснікам?!

А Мінск, казалі тыя, хто быў там, жыў ужо поўным жыццём. Заходняя побач, рынак забіты прадуктамі, ды і ў камерцыйных крамах – усё, што хочаш, май толькі грошы. А ў мяне друкавалася ў "Полымі" першая частка "Глыбокай плыні". Будзе ганарар!

І ўсё роўна Маша баялася. Можа, за мяне баялася: што, калі стану сапраўдным пісьменнікам, "задзяру хвост" і накінуся на мінскіх прыгажунь. Да настаўніц, з якімі рабіў у школе, раўнавала, асабліва да адной – Марусі Антоненкі, з якой вучыўся ў сёмым класе і тады назначыў ёй спатканне, якое скончылася для мяне трагікамічна: дурное дзяўчо расказала макаўскім хлопцам, і яны на масце праз раку "накрылі цёмную" мне. Бакі не намялі, але ў класе рагаталі: "Ну як, жаніх?" Ды дзіўна – сораму асаблівага я не адчуваў. Наадварот, лічыў сябе рыцарам: прайшоў са школы сем кіламетраў, а пад вечар прабег зноў гэтыя ж сем кіламетраў, а ўсяго 7 х 4. Хіба не подзвіг?

Ехаў уначы ў агульным вагоне, тады ад Гомеля да Мінска поезд ішоў гадзін дзесяць; разабралі другую "нітку", каб наладзіць парваны бомбамі, нямецкімі і партызанскімі, адзін пуць.

Спаў седзячы, паклаўшы галаву на плячо мужчыны, які ўлетку вельмі пах аўчынай – аўчар ці шавец?

Саюз пісьменнікаў размяшчаўся ў Доме ўрада ў дваравым крыле. Раніцой міліцыянер не пусціў мяне туды.

Яны працуюць з дзвюх гадзін.

Мяне гэта здзівіла: во жыццё!

Гадзін пяць бязмэтнага блукання па Мінску. Што глядзець? Руіны? Нагледзеўся я на іх – Мурманск, Варшава, Берлін... І Мінск – у сорак пятым. Пашанцавала, што на пляцы Волі ў Доме прафсаюзаў я нечакана для сябе адкрыў Музей Янкі Купалы. Доўга хадзіў там. Надзвычайная цікавасць – для мяне, чалавека, якому вайна не дала прачытаць нават Купалу. А трэба ведаць! Трэба ведаць усю беларускую літаратуру. Я чытаў прагна. Але дзе было ўзяць кнігі ў маёй Пракопаўцы?

Членаў прэзідыума было нямнога – чалавек сем. Столькі ж і нас, навабранцаў. Але прысутнічалі калегі, якія рэкамендавалі. Кіраваў старшыня саюза надзіва сівы Міхась Лынькоў, белы-белы, як шапка Арарата, якую я ўбачыў значна пазней. Пасля мне расказалі трагедыю Лынькова – фашысты спалілі ў Трасцянцы яго жонку і сына.

Працэдура прыёму была простая і зусім нефармальная. Сакратар саюза Павел Кавалёў, незвычайна апрануты ў спякоту ў фрэнч з англійскага сукна, з трубкай, тытунь у якой не гарэў, але ён раз-пораз смактаў яе, дакладваў пра кожнага з кандыдатаў, як кажуць, на высокай ноце: кожны геній. Прысутныя – прызнаныя геніі — задавалі пачаткоўцам пытанні. Больш іх дасталося Алене Васілевіч. Аляксей Русецкі і Мікола Аўрамчык чыталі вершы. А на мяне як забыліся, ажно страху нагналі – ні пытанняў, ні жадання паслухаць хоць старонку з другой часткі рамана. Я адчуваў сябе апошнім у чарзе і ў нейкі момант як бы голым. Ледзь не самлеў ад думкі: не прымуць, недарэмна Маша баялася. Не! Падняўся Уладзімір Карпаў, мой палымянскі рэдактар, і зрабіў ледзь не даклад пра "Глыбокую плынь".

Лынькоў мусіў яго спыніць.

Галасаванне было адкрытым, яно доўга заставалася такім і тады, калі я рабіў у Саюзе пісьменнікаў намеснікам старшыні.

Усіх прынялі аднагалосна.

Безумоўна, прыём "абмывалі". За паўстагоддзе не помню выпадку, каб яго не "абмывалі". Толькі ў апошнія гады абмыванне гэтае робіцца ўсё бяднейшым і бяднейшым.

Не помню, чаму: ці таму, што "навабранцы" былі бедныя, ці таму, што ў рэстаране "Фабрыкі-кухні" не было гарэлкі, але пілі адно піва. Пляшак па восем-дзесяць на нос выжлукцілі, ледзь паспявалі збягаць уніз – у туалет.

Не помню, чаму я застаўся ў Мінску яшчэ на дзень ці два, здаецца, трэба было зняць у карэктуры нейкія пытанні.

Павел Кавалёў – дабрэйшы чалавек, ён сапраўды клапаціўся пра пісьменнікаў – уладзіў мяне ў гасцініцу. У асобны нумар. І тут я адчуў сябе пісьменнікам. Нават фігу скруціў сваім калегам-настаўнікам: наце, укусіце цяпер мяне! А былі такія, якія зайздросцілі, што ганарары мне прыходзяць, што мы з Машай два пайкі атрымоўвалі – па дзесяць кілаграмаў чорнай амерыканскай фасолі, зрэдку – цукеркі-падушачкі.

Перад ад'ездам я не мог не зайсці ў саюз. Каб падмацаваць сваё адчуванне паўнапраўнага сябра шаноўнай арганізацыі. У кабінеце старшыні і сакратара сядзеў адзін Павел Нічыпаравіч. Смактаў трубку. (Не магу не прыгадаць. Калі я жыў ужо ў Мінску, Павел у адзін дзень скінуў фрэнч і адмовіўся ад трубкі – перайшоў на цыгарэты. Усіх гэта здзівіла. Але быў паэт, які ўсё пра ўсіх ведаў, — Анатоль Вялюгін. Ён расказаў, што ў Доме афіцэраў, калі Павел у фрэнчы, з трубкай, з пальцамі пад фрэнчам паміж гузікамі, хадзіў па фае, да яго кінуўся малады лейтэнант, схапіў загрудкі, закрычаў: "Ты каму, слізняк, "падражаеш"?!" Праўда гэта ці няпраўда – не ведаю. Але калі "падражаў", то хутчэй Панамарэнку, у якога Кавалёў пэўны час рабіў памочнікам).

Павел Нічыпаравіч па-бацькоўску пагутарыў з маладым сябрам саюза. Сакратар сельскай партарганізацыі, я ніяк і нікому не скардзіўся на сваё жыццё. А тут старэйшы таварыш выклікаў мяне на поўную даверлівасць, і я прызнаўся: дрэнна жыву, не заўсёды малака малой магу купіць. І Кавалёў тут жа паклікаў з суседняга пакоя дырэктара Літфонду Мірона Левіна, асобу легендарную, старэйшыя пісьменнікі доўга яго помнілі. (Але колькі іх засталося, старэйшых?)

— Быў учора на прэзідыуме?

— Павел! Каго ты пытаеш? Ты не ўбачыў такой фігуры, як Левін? Я важу сто дзесяць кіло. Як я мог не быць на прэзідыуме?!

— Чуў, што гаварылі пра Шамякіна?

— Як не чуць! Гордасць нашай літаратуры.

— Ну, гонарам будзе пасля. А цяпер наш абавязак памагчы пісьменніку. Выпішы тысячу рублёў і зрабі яму літэрны паёк. Знаеш, да каго трэба схадзіць.

— Каго ты вучыш? Каб Левін не знаў! Дарагі мой сакратар! Левін усё і ўсіх знае. І Левіна знаюць. Але пісьмяцо сачыні сам. Мы сёння і сходзім з маладым нашым паэтам да дарагога міністра.

Грошы Левін мне выдаў тут жа, як толькі мы перайшлі ў яго пакой. Да рэформы 1947 года – мізэр. І ўсё ж больш за маю месячную зарплату. Пісьма прыйшлося пачакаць – Павел не адразу прадыктаваў яго машыністцы.

Залаты чалавек! Рабіў усё грунтоўна, чыноўнікам не быў. Пісьменнікаў любіў, паважаў, расціць іх лічыў абавязкам сваёй працы — ЦК ж паслаў яго на пост адказнага сакратара.

Тоўсты Левін ахвотна павёў мяне ў галоўны корпус Савета Міністраў. Прайшлі пост, дзе ў мяне спыталі пропуск. Але Левін сказаў:

— Са мной. Да таварыша Шаўрова.

Сіла, аўтарытэт!

На лесвічнай пляцоўцы спыніўся і сказаў:

— Каб падняцца наверх, трэба спачатку спусціцца ўніз.

Я не разумеў яго мудрасці і сэнсу рытуалу.

Спусціліся ў цокаль. І хутка апынуліся ў шыкоўным буфеце. Такога я яшчэ не бачыў. Меліся напоі – віны, каньякі, за паўкруглым шклом – закускі.

Слюнькі пацяклі, бо як рана з'еў у гатэлі па камерцыйнай цане лыжку макаронаў і выпіў шклянку кавы, якая і не пахла малаком, з таго часу нічога не еў, а выхадзіў паўгорада, па музеі гадзіны дзве шлындаў зноў.

— Сонечка! Па дзвесце каньяку і па бутэрбродзе, — ласкава папрасіў Мірон буфетчыцу.

Ён выліў свой каньяк у рот, як у халяву. Я адпіў малы глыток: да міністра ж ідзём!

— Больш не магу.

Левін дапіў і мой каньяк.

Сума, якую назвала буфетчыца, ашаламіла мяне. Ілюзіі, што частуе Левін, не было. Вылажыў больш за палавіну літфондаўскай дапамогі. А марыў купіць прысмакі шасцігадовай дачцэ сваёй Ліне і жонцы. Купіў!

Міністра не было. І я амаль узрадаваўся, што яго няма. Левін пасля выпіўкі мне не падабаўся, нейкі агрэсіўна-змрочны стаў; у калідоры мацюкнуў чалавека, які з ім павітаўся. Той, праўда, не пакрыўдзіўся, сказаў:

— Вясёлы ты, Мірон, сёння. Глядзі, штаны згубіш.

— Не бойся. Яны трымаюцца на маладым аўтары.

А штаны яго сапраўды спаўзалі з тоўстага пуза, і я, між іншым, яшчэ ў Саюзе пісьменнікаў з гумарам падумаў, што гэты чалавек можа згубіць свае шырачэзныя штаны.

— А Рыгор ёсць? – спытаў Мірон у сакратаркі, маладой дзяўчыны, падцягваючы перад ёю штаны.

— Рыгор Майсеевіч у сябе.

Шыльдачка на дзвярах насупраць: "Намеснік міністра..."

Не запомніў я прозвішча яго. Столькі гадоў прайшло!

Левіна ён сустрэў ласкава. Мне рукі не падаў. Мабыць, у сваіх штанах, падарунку амерыканскага рабочага, з рознымі "клямкамі" на іх, у шарсцяной (у спякоту!), хоць і новай яшчэ гімнасцёрцы, я не выклікаў у высокага чыноўніка ніякай цікавасці — сотні такіх да яго звярталіся.

Не помню, пра што яны гутарылі ў пачатку – намміністра і Левін. Але добра помню тую частку размовы, якая датычылася мяне.

Рыгору Майсеевічу хацелася як хутчэй пазбавіцца ад п'янага дырэктара і маладога пісьменніка.

— Мірон, дык якія ў цябе праблемы?

— Грыша, ты Пушкіна знаеш?

— Хто не знае Пушкіна! – без усмешкі сказаў той.

— Дык во гэты, — тыкнуў пальцам у мяне, — другі... пасля Пушкіна.

Мне стала б лягчэй, каб намеснік міністра зарагатаў. Не, ледзь прыкметна пасміхнуўся.

— Ты пачуў бы, якія вершы ён сачыняе. Учора ўвесь прэзідыум гадзіну слухаў зачаравана. Слухай... як цябе?.. Прачытай! Няхай паслухае.

"Ды не пішу я вершы!" – ужо бадай абурана хацеў я крыкнуць. Не крыкнуў, не прашаптаў – анямеў ад нечаканасці. Выручыў намеснік міністра.

— Добра, добра, Мірон. Я веру, што таварыш вялікі паэт. Вайну прайшоў. Наш Твардоўскі. Але што трэба ад мяне?

— Столькі чалавек працуе, піша, дзяцей вучыць, а жыве... Ты знаеш, як жывуць настаўнікі? Трэба літэрны паёк. Заслужыў!

— Няма праблемы, — сказаў гаспадар кабінета. – Калі заслужыў – будзе мець. Ваша прозвішча?

Я назваў прозвішча, імя, вобласць, раён, вёску.

Левін успомніў пра пісьмо СП. Падаў.

— Тут усё ёсць.

— Мы напішам у райвыканком і вам там, на месцы, выдадуць літэрны паёк. Можа, у раёне ён не такі багаты, але галадаць не будзеце. Пішыце больш. Поспехаў вам. Праз тыдзень загляніце ў свой райвыканком.

— Дзякуй вам. Шчыры дзякуй.

— Няма за што. Мой абавязак – памагчы маладому дараванню.

Выйшаў я – што на крыллях вылецеў. І паколькі Левін затрымаўся, збег па лесвіцы без яго; баяўся, каб ён зноў не павёў мяне ў буфет – адзначыць поспех. Без капейкі застаўся б.

Вытрымаўшы дзён дзесяць, я пабег у Церахоўку. Але ў райвыканкоме ніякага пісьма не было, і работнікі, многіх з якіх я ведаў, – прыязджалі ўпаўнаважанымі ў сельсавет, у калгасы, толькі хіба не смяяліся мне ў твар, глядзелі з іроніяй: "Яшчэ адзін дурань знайшоўся. Чаго захацеў – літэрны паёк!".

Маша спачатку паверыла маёй "мінскай эпапеі": калі прынялі ў Саюз пісьменнікаў, то чаму не маглі выдаць літэрныя картачкі, якія атрымоўвае гарадское начальства? А пасля смяялася. З мяне. І з сябе – што паверыла.

Праз паўгода картачкі адмянілі, але адначасова правялі грашовую рэформу. За 12 тысяч ганарару, выпісанага за першую частку "Глыбокай плыні", я атрымаў адну тысячу дзвесце. Але маючы грошы, я купіў у Гомелі столькі прадуктаў, што ледзь дацягнуў з Церахоўкі да Пракопаўкі.

А Левін?.. Дзівачыў. Калі я ўжо вучыўся ў партыйнай школе, яго знялі з працы, адразу, у адзін дзень, і тады, калі яго не было ў Мінску, – знаходзіўся ў Маскве ў камандзіроўцы. Спатрэбілася месца для дырэктара тэатра імя Янкі Купалы Фані Алер. Знялі яе не за дрэнную працу – за нейкія амурныя грахі. Мірон вярнуўся з Масквы, скандаліць ні з кім не стаў, ён ведаў, хто прыслаў новага дырэктара. Але ўсё ж "выкінуў коніка": сеў і з памылкамі сачыніў загад прыкладна такога зместу: "Назначэнне Алер Ф.Я. дырэктарам Літфонду БССР лічыць незаконным. Дырэктар Літфонду Левін М.М.". І вывесіў загад на ўваходных дзвярах. Абурыў сур'ёзнага служку Паўла. Насмяшыў пісьменнікаў.

Працуючы ў іншай установе і яшчэ больш таўсцеючы, у Саюз пісьменнікаў не заходзіў – меў гонар.

Сустрэўшы аднойчы мяне на вуліцы, сказаў:

— Ну як там у вас жыдоўка развальвае Літфонд?

Інтэрнацыяналіст, я стаяў ашаломлены: упершыню ўбачыў яўрэя-антысеміта. Пасля — сустракаў.

*(Працяг на стар. 12 —13)*



## ЧАСАПІС

### *Выстава ў Рызе*

**У Рызе ў Доме Рэйтэрна адчынілася выстава Аб'яднання мастакоў-беларусаў "Маю гонар". У аб'яднанне ўваходзяць 24 мастакі з Прыбалтыйскіх краін, а таксама з Санкт-Пецярбурга і Швецыі. Старшынёй з'яўляецца вядомы мастак і грамадскі дзеяч Вячка Целеш. Выстава прысвечана 10-годдзю Аб'яднання і 800-годдзю Рыгі.Сярод найбольш таленавітых прац — карціны Вячкі Целеша, Васіля Малышчыца, Мацея Чырыча, Андрэя Вайцяховіча (Латвія), Маргарыты Астраўмавай, Вадзіма Баўтовіча (Эстонія), Крысціны Балаховіч (Літва), Юрыя Казака (Расія), Яна Кузміцкага (Швецыя), габелены Віктара Сівухі (Расія)...**

**Нямала добрых слоў віноўнікам урачыстасці сказалі сакратар Пасольства Беларусі ў Латвіі Дзмітрый Шкурдзь, беларусы-прадпрымальнікі Асацыяцыі "Беларускі шлях" Валянціна Піскунова, Янка Кабановіч, Васіль Зайцаў, Васіль Трафімчык, народная лекарка Любоў Міронава (яны былі і фундатарамі выставы), прадстаўнікі многіх грамадскіх арганізацый. Ад беларусаў Даўгаўпілса мастакоў павіншаваў і прачытаў прысвечаны ім верш аўтар гэтых радкоў.**

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА**

### *Сонечны дар Дзінары*



**Спрытныя дзявочыя пальцы бегаюць па чорна-белых клавішах. Усе навокал сталі дыханне: грае Дзінара Мазітава. І, нягледзячы на змрок асенняй непагадзі за вокнамі, здаецца, што залу Гродзенскай абласной філармоніі залівае цёплае сонечнае святло, здольнае сагрэць кожнае сэрца.**

**Павольна плыву па хвалях мелодый. І адкрываю для сябе ў музыцы Дзінары цэлы свет, рамантычны і казачны, поўны супярэчнасцей, дзе грознае суседнічае з забаўным, лірычны смутак змяняецца нястрымнай весялосцю, а дабро вядзе адвечную барацьбу са злом, каб урэшце перамагчы.**

**А якая ж яна сама, юная піяністка і кампазітар? За знешнім спакоем і стрыманасцю крохкай семнаццацігадовай дзяўчыны хаваецца бура эмоцый, і той, хто чуйна ўспрымае мастацтва, здатны распазнаць іх у адценнях гукавой палітры. Музыцы Дзінара аддаецца цалкам, выяўляе самыя патаемныя глыбіні душы. Магчыма, таму лепш за ўсё атрымліваюцца ў яе жаночыя партрэты: кранальная Дзюймовачка (з аднайменнага балета), летуценная Паміна (опера "Чарадзейная флейта"), вытанчаная сеньёра Чычылія і гарэзлівая Рыта (балет "Торт у небе"), добрая, шчырая Люсі і мужная прыгажуня Сьюзен (з сюіты для фартэпіяна "Хронікі Нарніі"). Усе разам яны ўвасабляюць гісторыю сталення юнай істоты,ператварэння з сямігадовай дзяўчынкі ў чароўную, непасрэдную, упэўненую ў сабе дзяўчыну. Багатая натура Дзінары — нібыта прырода нашай планеты: заўжды зменлівая, непрадказальная, няўрымслівая, і таму — цудоўная.**

**Як хочацца, каб цярністы шлях самаўдасканалення, нецікавая і занадта ж будзённая рэчаіснасць не змагліператварыць казачныя мары ў шэры попел, не затушылі іскрынку Сонечнага Дару ў яе маладым сэрцы! І каб дапамагалі ўсім юным талентам такія людзі, як настаўнік Дзінары — вядомы педагог-энтузіяст Віталь Радзіёнаў.**

**Васіліса ПАЗНУХОВА**

ВЫСТАВЫ

# Вокны аднаго горада



У Музеі сучаснага мастацтва адкрылася новая выстава "Вокны аднаго горада"— сумесны праект музея, Інстытута Гётэ і Польскага інстытута ў Мінску. Выстава займае ўсе залы музея, прадстаўляе графічныя лісты шасці беларускіх мастакоў, а таксама нямецкіх і польскіх плакатыстаў. Гэта беларускія графікі Андрэй Басалыга, Вольга Нікішына, Павел Татарнікаў, Юрый Якавенка, якія ўжо не адзін год паспяхова ўдзельнічаюць у рэспубліканскіх і міжнародных выставах і конкурсах, а таксама Валерыя Маляўкіна і Раман Сустаў, якія толькі скончылі БелАМ. Дарэчы, польская мастачка Малгажата Дзмітрук таксама некаторы час вучылася у нашай Акадэміі мастацтваў. Анэтэ Крогер і Гервін Шміт прадстаўляюць мастацтва нямецкага плаката.

Для Інстытута Гётэ выстава "Вокны аднаго горада"— гэта не першы міжнародны тэматычны выставачны праект. Кацярына Шэўніна, каардынатар культурных праграм Інстытута Гётэ, не проста адгукаецца на прапановы беларускіх мастакоў і мастацтвазнаўцаў, але і актыўна дапамагае ў арганізацыйнай і падрыхтоўчай рабоце. Першай спробай міжнародных праектаў былі знакамітыя "Тэксты", выстава адбылася ў 1997-

# Споведзь мастачкі Тамары Мацвіенкі-Батаковай

Творчая асоба Тамары Мацвіенкі-Батаковай неардынарная. Сярод яе творчага скарбу — малюнкі, пастэлі, жывапісныя работы. У іх адлюстраваліся ўражанні ад убачанага, прапушчаныя праз свядомасць і сэрца мастачкі, яе эмоцыі.

Даўно за плячыма засталіся Мінскае мастацкае вучылішча і Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Пэўны час яна зараблялa грошы на "прэжыццё", але менавіта як мастак-монументаліст. У 1978—1981 гадах у Брэсце аформіла фасад Медыцынскага вучылішча (з графіту ў 5 слаёў — 45 м²), дом адпачынку "Буг" (колатая смальта, кераміка, шамот), у Століне — Дом культуры (маэіка — 18 м² (роспіс па шамоцe — 24 м²).

У 1981 г. разам з сям'ёй Тамара Мацвіенка пакінула Брэст і пераехала ў Мінск, працавала ў манументальным цэху мастацка-вытворчага камбіната. За гэты час ў Крычаве распісала энкаўстыкай шматфігурныя кампазіцыі для залы Дома культуры (77 м²). Праца была складаная, не жаночая, цяжкая, пра гэта распавядала і сама мастачка.

Але пры гэтым Тамару цягне да жывапісу. Хочацца не манументальных, а інтымных рэчаў, цягне да пошуку, эксперыменту. Асабліва адчувальна стала гэта падчас падарожжа ў Грузію, затым у Абхазію, Аджарыю. Непаўторная прыгажосць Каўказа, тое, як гарманічна аб'яднаны ў прыродзе горы і лес, чалавек і прастора, уразілі мастачку, і яна з раніцы да цемры піша на паветры эцюды. Колькі іх было створана! Як музыка Баха, гучаць яе палотны, на якіх увасоблены непаўторныя веліч і прыгажосць цудоўных мясцін Гудауты, Вулакурхва, Генцвішы, Чыны, Савені...

Своеасаблівая справаздача "грузінскага перыяду" адбылася ў 1986 годзе на персанальнай выставе Т. Мацвіенкі-Батаковай. Сімвалічна абагульняючыя, адмысловыя па тонкай серабрыстай каларыстычнай гаме карціны нібы перанеслі гледача ў свет казкі і фантастыкі. Усіх зачараваў свет яе бачанняў і мроі, непаўторнае спасціжэнне таямніц быцця, узнёслая паэтычнасць.

Другую персанальную выставу сваіх твораў мастачка паказвае гледачам у 1991 годзе. І ўжо ў 1994-м яе прымаюць у Саюз мастакоў Беларусі.

Сямейныя абставіны не дазвалялі Тамары без аглядкі адацца творчасці. Нараджэнне другога дзіцяці — сына, аднапакаё-

*ГУКАПІС*

# Вяртанне "Нефармальнага беларуса"

Кажуць, што для выдаўца самае цяжкае — выпусціць у свет не першы, а другі нумар свайго выдання — газеты, часопіса, дыска... Вось такі рубікон і пераадолелі выдаўцы Беларускай музычнай альтэрнатывы сваім другім дыскам з серыі "Беларускі музычны архіў" — альбомам барда Сержука Сокалава-Воюша "Нефармальны беларус". Першы ж нумар серыі БМAgroup, нагадаем, — унікальны дыск сусветна вядомага тэнара беларускага паходжання Міхася Забэйды-Суміцкага "Ластаўкі ў стрысе". Кажуць, пасля гэтага ўжо іншых перашкод не павінна прадбачыцца!

Як хочацца верыць у гэта, калі ставіш на прайгравальнік першы беларускі бардаўскі альбом, якім можа па праве лічыцца новы дыск. Сапраўды, асоба Сержука Сокалава-Воюша не выклікае аніякіх пярэчанняў адносна лідэрства і ўплываў на шляхі развіцця беларускай бардаўскай традыцыі. Яго песні сталі своеасаблівым лейтматывам нацыянальнага Адраджэння мінулага XX стагоддзя. І гэта таму, што простыя, але неверагодна прыгожыя мелодыі, што засталіся, працягваюць жыць у душах і памяці людской...

У гэтым мы змаглі ўпэўніцца, калі трапілі на прэзентацыю новага дыска барда, што адбывалася ў адным з канцэртных залаў сталіцы. Сказаць, што зала, дзе павінна была адбыцца імпрэза Сержука Сокалава-Воюша, была поўная, гэта не сказаць нічога! Думаю, што наступным разам, калі на Беларусь завітае бард такой вядомасці, трэба думаць пра больш умяшчальныя канцэртныя пляцоўкі, каб не ствараць перашкод ні слухачам, ні арганізатарам. І тым не менш, канцэртны выступ Сержука распачаўся адным з магістральных твораў песняра — сёння вельмі актуальнай песняй "Курапаты". Адразу ўзнікла ўражанне, што бард быццам бы і не выязджаў з Беларусі — выканаўчая манера Сержука амаль не змянілася, ён, як і раней, імкнецца ўсталяваць шчыльны кантакт са слухацкай аўдыторыяй.

Толькі адчуваецца, што голас барда стаў больш лірычным, чуллівым, а новыя песні барда (напрыклад, "Свечка") нясуць адценні суму па Радзіме, настальгіі па яе някідкіх краявідах, яны пранікнуты ідэяй аб'яднання ўсіх беларусаў, дзе б яны не жылі ў згаданы час. Момант настальгіі становіцца яшчэ больш відавочным, калі на пытанне: "Дзе б




вы хацелі пажыць яшчэ, акрамя Беларусі?" Сяржук з неўласцівай яму іроніяй адказаў: "У Расіі — на Смаленшчыне, ва Украіне — на Чарнігаўшчыне, у Польшчы — на Беласточчыне..."

Але, па прызнанні самога Сержука Сокалава-Воюша, гэтыя сумныя думкі выдаюць занадта дробнымі, калі ён бачыць тое, што яго песні памятаюць на Радзіме, спяваюць,

ГОСЦІ

# Спявала "Маладая Вена"

Не так даўно ў Мінск завіталі госці з сусветна вядомай музычнай сталіцы — Вены. Харавы калектыў "Jung Wien" ("Маладая Вена") ужо другі раз прыязджае з канцэртамі на Беларусь. Першы прыезд адбыўся два гады таму і быў ён зусім не выпадковы...

Зімой 1997 года калектыў з Мінска — дзявочая харавая капэла "Раніца" (мастацкі кіраўнік і дырыжор Віктар Масленікаў) — знаходзіўся ў канцэртным турнэ па Аўстрыі. Адно з выступленняў тады адбылося ў "Залатой зале" Венскай філармоніі. Той вечар адкрывалі "гаспадары" — хор "Маладая Вена" (галоўны дырыжор Манфрэд Шыбель). Завязалася творчае знаёмства двух калектываў, якое доўжыцца па сённяшні дзень.

Пасля таго "Раніца" неаднойчы атрымлівала запрашэнні наведаць сталіцу Аўстрыі. Вось і хор з Вены зноў прыехаў у Мінск, выступіў з серыяй канцэртаў. Яны адбыліся ў Доме дружбы, у касцёле святых Сымона і Алены, у Камернай зале філармоніі. Слухачам прапаноўваліся дзве розныя музычныя праграмы.

У касцёле святых Сымона і Алены прагучалі духоўныя творы Ф. Шуберта, Г. Ф. Гендэля, Ф.Мендэльсона-Бартольдзі.

Канцэртная праграма, якая прагучала ў зале на Залатой Горцы, складалася з хораў з опер Д. Вердзі, свецкіх араторый Ф. Мендэльсона, Ё. Гайдна, твораў Ф. Шуберта. Асабліва яскравым было выкананне музыкі з аперэт Штраусаў — бацькі і сына. Танцавальныя рытмы полькі, чардаша, венскіх вальсаў, напаўнялі залу, стваралі святочны настрой і пераносілі слухачоў у чароўную музычную атмасферу далёкай аўстрыйскай сталіцы. Пры канцы праграмы прагучаў вельмі арыгінальны твор, які нават немагчыма назваць вакальным. "Геаграфічная фуга" — так называлася гэта неверагоднае стварэнне — уяўляла сабой пералік геаграфічных назваў (Тыбет, Ганалулу, Канада, Нагасакі і г. д.). Словы, прыстасаваныя да пэўных рытмічных формул, па чарзе прамаўляліся ў харавых партыях з адпаведнай хуткасцю і дынамікай.

Асабліва спадабаўся слухачам саліст "Маладой Вены" — студэнт Венскай кансерваторыі Міхаэль Хаўлічак. Акрамя сольных партый у харавых творах у яго выкананні прагучалі некалькі оперных арый. Бліскуча была выканана арыя Папагена з оперы В. А. Моцарта "Чарадзейная флейта". Прыгажосць тэмбру, свабоднае валоданне вакальнай тэхнікай і высокая якасць акцёрскага майстэрства заваявалі публіку. Захопленыя слухачы доўга не адпускалі калектыў са сцэны.

Халодным восеньскім вечарам юныя венцы дарылі Мінску музыку — часцінку свайго цудоўнага горада.

**Юля САЕВІЧ,**
**студэнтка Беларускай акадэміі музыкі**

1998гг. разам з Форумам культуры г. Райнэ. У 2000 г. у сумесным выставачным праекце фатаграфіі і відэамастацтва "Ілюзія адлегласцяў" працавалі побач прадстаўнікі Германіі, Беларусі і Францыі. Традыцыяй стаў працяг экспанавання выставаў, наладжаных з дапамогай Інстытута Гётэ, у Магілёўскім абласным мастацкім музеі імя П.Масленікава і Нацыянальным полацкім гісторыка-культурным музеі-запаведніку.

Большасць прадстаўленых на выставе работ — новыя, зробленыя спецыяльна для выставы. Мастакі працавалі незалежна адзін ад аднаго на зададзеную тэматыку. У праекце іх прывабіла магчымасць выставіцца сумесна, бо малавата мы маем у Мінску выставачных памяшканняў, дзе маладыя творцы маглі паказаць свае новыя творы. Але не варта выключаць тут і зацікаўленасць у самім праекце, тэма якога жорстка не абмяжоўвала, а наадварот прапаноўвала цэлы спектр асацыяцый. "Вокны" можна было падгледзець на вуліцах, на экранах тэлевізараў альбо на рэкламных шчытах, на фасадах будынкаў ці на маніторы камп'ютэра (бо "windows" — таксама перакладаецца як "вокны"). Нават сам Мінск "прапаноўвае" шэраг іранічных метафар. За шчытамі вулічных рэклам, фасадамі вялікіх будынкаў, за заўжды зачыненымі вокнамі не заўсёды заўважаеш бясконцы перформанс сапраўднага гарадскога жыцця. Нестандартнасць творчых рашэнняў для мастакоў была закладзена ад пачатку. Хоць усе яны — жыхары буйных гарадоў (Мінска, Мюнхена, Варшавы ці Гродна) — але мастацкія ўяўленні пра пададзеную сітуацыю ў мастакоў розных творчых прынцыпаў і культурных асяродкаў не маглі супасці.

Выстава атрымалася па-еўрапейску стрыманай па знешняй эфектнасці, але прафесійнай па графічнай дасканаласці і разнастайнасці творчых падыходаў. Беларуская графіка, не губляючы нацыянальнай адметнасці, натуральна і лёгка суіснуе ў экспазіцыі з творамі немцаў і палякаў. І нездарма. Беларуская школа графікі, закладзеная намаганнямі Васіля Шаранговіча, а пасля яго нямі вучнямі, ўжо не першае дзесяцігоддзе годна прэзентуецца на міжнародным узроўні.

**Н.Ш.**

*На здымку: на адкрыцці выставы. У цэнтры — аўтар ідэі М. БАРАЗНА.*

*Фота С. ЛУК'ЯНАВА*

---

вая кватэра, адсутнасць майстэрні (а муж таксама мастак і яго работы знаходзяцца ў гэтым жа пакоі) прымушаюць пакінуць горад і пераехаць у Чэрыкаў, бліжэй да прыроды, дзе лягчэй дыхаць, жыць і можна маляваць з раніцы да позняга вечара. Беларуская прырода захапіла яе. Тут на беразе Сожа і ў ваколіцах Чэрыкава, праводзіць яна ўвесь вольны ад хатніх клопатаў час. Тут яна піша зімовыя, восеньскія, летнія пейзажы, выступаючы як пасрэднік паміж рэальнасцю і прыкметамі будучага.

Яшчэ падчас заняткаў у вучылішчы Альгерд Малішэўскі заўважыў у юнай мастачкі талент і працаздольнасць, развіў жывапісныя навыкі, пазнаёміў з творчасцю імпрэсіяністаў. Але Тамару ў той час ужо цікавіў іканапіс. І вось у Чэрыкаве разам з мужам яна выконвае роспіс плафона для царквы, піша іконы для цэркваў Клічава і вёскі Краснапольскай. Здавалася б, нарэшце душа яе супакоілася і можна займацца любімай справай. Але не ўсё так адназначна. Мастачка лічыць, што яе натхняюць толькі падарожжы, наталяюць душу лірычным настроем, даюць другое дыханне "як у спорце". (Трэба адзначыць, што Тамара, колькі сябе памятае, сур'ёзна займаецца спортам. Лыжы, веласіпед, канькі — гэта ўсё было раней. Апошнім жа часам яе ёга цікавіць больш). З Геленджыка яна прывезла серыю марскіх пейзажаў, з Польшчы — цудоўныя краявіды ваколіц Варшавы. У 1998 г. на персанальнай выставе ў Палацы мастацтваў многія з яе непаўторных работ былі закуплены гасцямі з Амерыкі, Францыі, Польшчы, Расіі.

Тамара Мацвіенка-Батакова шмат працуе, шукае "нязменную сімволіку": кожнага колеру, аб'ядноўваючы музычны пачатак у рытміцы малюнка і кампазіцыі. Яна поўная сіл і энергіі, жадання стварыць, паэтызаваць прыроду ў карцінах і вершах. Таму здаецца мне, што самы цікавы яе твор яшчэ наперадзе.

**Галіна ФАТЫХАВА**

---

асабліва маладыя беларусы. А яшчэ барда нечувана ўзрадаваў факт выдання яго першага сольніка, названага па адным з самых папулярных яго публіцыстычных твораў — "Нефармальны беларус". Сапраўды, выданне архіўнага дыска — справа вельмі складаная. Трэба адшукаць запісы, якія падыходзілі б для стварэння альбома, па спецыяльнай камп'ютэрнай тэхналогіі апрацаваць іх, каб якасць задаволіла ўладальнікаў сучаснай гукаўзнаўляючай апаратуры...

Трэба адзначыць, што большасць трэкаў альбома "Нефармальны беларус" адпавядаюць самым высокім патрабаванням да запісаў бардаўскай песні. Хоць, зразумела, аніякія суперсучасныя "навароты" не заменяць душы і пачуццяў, якія ўкладвае бард у свае творы.

Кампакт-дыск "Нефармальны беларус" стаўся дасканалым творам выдавецка-фанаграфічнага мастацтва. Па-першае, таму, што на ім канцэптуальна сабраны 32 лепшыя песні С.Сокалава-Воюша, сярод якіх трэба адзначыць бардаўскі цыкл "Песні касінераў", лепшыя публіцыстычныя ды сатырычныя творы барда — "Аксамітны вечар" (на музыку В. Навіцкага), "Экалагічны гімн", "Крупнік", "Грунвальд" і шмат іншых песень. У "Сяброўскай скарбонцы" — бонус-трэкі з песнямі на словы З.Сідаровіча і А.Паўлёнка "Які ж я беларус?" і "Стары дом".

Укладыш у кампакт-дыск на 24 старонках змяшчае поўную дыскаграфію і спіс публікацый, прысвечаных творчасці Сержука Сокалава-Воюша, разгорнуты нарыс творчасці барда, а таксама, тэксты шматлікіх папулярных песень Сокалава-Воюша з акордамі, якімі можна карыстацца, калі слухач вырашыць развучыць іх самастойна. Гэтыя якасці новага выдання маглі заўважыць аматары творчасці барда ўжо на канцэрце, дзе быў арганізаваны пробны продаж навінкі. І такая аператыўнасць і вернасць свайму слову становіцца добрай традыцыяй беларускага лэйбла БМAgroup.

На прэзентацыі "Нефармальнага беларуса" Сяржук Сокалаў-Воюш увесь час вёў дыялог са сваімі прыхільнікамі, маладымі слухачамі, на іх замову выконваў песні, якія пакуль мала выдаваліся на афіцыйных ці аматарскіх рэлізах: "Стромкія вогнішчы", "Баладу пра князя", жартоўную "Песню пра паляванне на дзіка", якую Сяржук суправодзіў такім жа жартоўным успамінам-байкай са свайго няўдалага паляўнічага досведу.

Энтузіязм слухачоў выклікала паведамленне выканаўцы пра свае планы наведаць Беларусь, магчыма, ужо на Каляды. Ну, а завяршылася трохгадзінная сустрэча сяброў, у якую ператварылася прэзентацыя дыска "Нефармальны беларус", агульнымі спевамі лепшых твораў барда ў холе канцэртнай залы...

**Анатоль МЯЛЬГУЙ**

---

УРАЖАННЕ

# "Лодка" з песнямі

Выдавецтва "Чатыры чвэрці" выпусціла першы зборнік песень кампазітара Алены Атрашкевіч для дзяцей — "Лодка дзяцінства". Гэты нотадрук — вынік сумеснай творчай працы маладога таленавітага аўтара музыкі і розных беларускіх паэтаў, такіх, як В. Жуковіч, Т. Мушынская, Н. Танюкевіч ды іншых.

На мой погляд, новы зборнік удала дапоўніць сучасны рэпертуар дзіцячых музычных калектываў, магчыма, з эстрадным ухілам.

Дарэчы, "Лодка дзяцінства" — своеасаблівы нотны дадатак да аднайменнай (выпушчанай у 2000 годзе рэкламна-выдавецкай фірмай "Каўчэг") першай аўтарскай аўдыёкасеты А. Атрашкевіч.

Праблема дзіцячага песеннага рэпертуару заўсёды хвалявала кампазітара: і калі яна рыхтавала юных спевакоў да ўдзелу ў праграме конкурсу "Тэлебом" на Беларускім тэлебачанні, і пазней, калі пры Маладзечанскай музычнай вучэльні была створана эстрадная студыя, якой цяпер кіруе А. Атрашкевіч з дапамогай педагога па вакале П. Туронка. Яе ўдзельнікі — салісты Саша Салаўёў, Наста Жук, Віка Падвербная, Оля Клечан, Кацян Станкевіч і іншыя таленавітыя дзеці выступалі на розных музычных пляцоўках рэспубліканскіх або міжнародных конкурсаў, удзельнічалі ў фестывалі "Спяваем з аркестрам!", які ладкуецца пад кіраўніцтвам М. Фінберга. Іх натхнёныя, звонкія і пранікнёныя галасы гучаць і на аўдыёкасеце "Лодка дзяцінства".

Неўзабаве пасля прэзентацыі касеты і шэрагу справаздачных канцэртаў дзіцячай эстраднай студыі ў кампазітара з'явілася магчымасць надрукаваць свае творы. А неабходнасць гэтага наспела даўно, бо песні Алены Віктараўны ўжо знайшлі сваіх слухачоў і выканаўцаў. Да яе неаднойчы звярталіся кіраўнікі дзіцячых калектываў, настаўнікі музыкі агульнаадукацыйных школ і ДМШ з розных гарадоў краіны — у пошуках нот і фоназапісаў. І такім чынам песні А. Атрашкевіч перапісваліся, ксеракапіраваліся, разыходзіліся па руках. З-за адсутнасці нотнага выдання прыхільнікі творчасці кампазітара часта пачыналі падбіраць на слых або "здымаць" з аўдыёкасет і расшыфроўваць песні, дапускаючы прыкрыя для аўтарскай музыкі скажэнні і памылкі.

Урэшце, запатрабаванасць дзіцячага рэпертуару аднойчы проста прымусіла А. Атрашкевіч узяцца за пяро і нотную паперу, а потым заняцца і выданнем сваіх твораў. Але вядома, што калі аўтар жадае ўбачыць творы надрукаванымі, ён павінен уклясці ў гэта нямала сіл і ўласных сродкаў (або сродкаў спонсараў) у арганізацыю патрэбнай усім справы.

Дарэчы, зборнік "Лодка дзяцінства" быў выдадзены пры дапамозе гарадскога і раённага аддзелаў культуры, а таксама гарвыканкама горада Маладзечна, за што кампазітар шчыра ўдзячная. Свае паслугі Алене Атрашкевіч прапанавала вядомая сёння ў Беларусі выдавецкая фірма "Чатыры чвэрці", выявіўшы сапраўдную зацікаўленасць. Напрыклад, сур'ёзна вывучаўся рэйтынг папулярнасці маладога кампазітара сярод патэнцыяльных спажыўцоў будучага выдання. Аказалася, што яе імя ведаюць не толькі прафесійныя музыканты, але і многія аматары. А тыя песні, якія выдавецтва збіралася друкаваць, нават ужо выконваюцца рознымі салістамі і харавымі калектывамі. Таму і тыраж зборніка выглядае даволі вялікі: 2000 экземпляраў (магчыма, спатрэбіцца і перавыданне).

"Лодка дзяцінства" ад вокладкі (мастак А. Пушкар) да ўзроўню камп'ютэрнага набору і якасці паперы прываблівае сваёй эстэтычнасцю. А стваральнікі песень імкнуліся перадаць тонкасць унутранага свету дзяцей і падлеткаў, іх трывогі, турботы, пачуцці і перажыванні. Музычныя творы павінны спрыяць не толькі развіццю вакальных магчымасцяў, але і самавыяўленню юных спевакоў.

Песні, змешчаныя ў зборніку разлічаныя на выканаўцаў рознага ўзросту і здольнасцяў. Іх можна падабраць нават пад характар саліста.

Зухавата і з доляй жарту ўспрымаюцца "Песня пра Біллі", "Чыпаліна", "Гномікі". А рухавая песня "Кодак", напэўна, магла б зрабіцца музычным рэкламным ролікам аднайменнай фірмы. Летуценныя, задумённа-паволныя творы накшталт калыханкі "Музыка, мама і я", песень "Маці", "Мая зямля" і "Месячны зайчык" складаюць лірычныя старонкі зборніка. Асобнае месца займае тут "Лодка дзяцінства", якая



дала назву і зборніку, і аўдыёкасеце. Упрыгожаная блюзавымі гармоніямі мелодыя ў настальгічных фарбах увасабляе смутак лірычнага героя ў яго развітанні з дзяцінствам.

Разнажанравыя творы прызначаны раскрыць не толькі выканальніцкі, але і артыстычны талент юных спевакоў. Многія песні зборніка смела можна выконваць сола або ансамблем ці хорам. Рускамоўныя і беларускамоўныя варыянты тэкстаў шэрагу песень таксама даюць магчымасць выбару выканаўцам. А яркі вобразны змест песень прадугледжвае іх адпаведнае сцэнічнае ўвасабленне — магчыма нават выкарыстанне харэаграфічнай групы для "падтанцовак", што, дарэчы, неаднаразова практыкавалася ў дзіцячай эстраднай студыі пад кіраўніцтвам А. Атрашкевіч.

Увогуле, усе яе песні адрозніваюцца яркай меладычнасцю і вобразнасцю, адметнасцю гарманічнай мовы. Кампазітар арыентуецца на стыль сучаснай "лёгкай" музыкі, але не сыходзіць да ўзроўню "*папсы*". Некаторыя песні ўяўляюць сабой даволі складаныя ўзоры сучаснай эстраднай музыкі і вымагаюць пэўнага майстэрства ад выканаўцаў. Разам з тым, тэмы песень лёгка ўспрымаюцца на слых і запамінаюцца, а не кожнаму ж аўтару-песенніку ўласцівая такая даходлівасць музычнай мовы.

Алена Атрашкевіч надзвычай плодны кампазітар. Песень у яе — нават на некалькі такіх жа зборнікаў, як "Лодка дзяцінства". Але ёсць задума выдаць і зборнік інструментальных п'ес для выканаўцаў розных спецыяльнасцяў. Хаця пакуль не хапае ні часу, ні сродкаў, каб займацца гэтай справай.

**Ірына СЫРЫЦА**

---

ФЕСТЫВАЛІ

# Мадэрн-дэкада

16 лістапада пачаўся Міжнародны фестываль мастацтваў "Беларуская музычная восень". Да яго адкрыцця ў сталічнай філармоніі была падрыхтавана прэм'ера Сімфоніі-канцэрта А. Мдзівані *для скрыпкі з аркестрам (прагучала ў выкананні* Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам М.Казінца і саліста С.Белазерцава).

Творы беларускіх кампазітараў гэтым разам даволі багата прадстаўлены на фестывальных афішах. Прынамсі, яны суседнічаюць з узорамі мастацтва 20—21 стст. розных краін, уключанымі ў Дэкаду сучаснай музыкі, што пройдзе падчас "Восені". Арганізавала гэтую "мадэрн-дэкаду" Беларускае таварыства сучаснай музыкі пры падтрымцы кіраўніцтва сталічнай філармоніі. З 19 па 29 лістапада ў Мінску пройдуць лекцыі ды майстаркласы шведскага кампазітара Д. Файлера, яго румынскага калегі С. Лерэску і нідэрландскага — Т. Лувендзі, музыкантаў-перкусіяністаў М. Комста, Г. Гімена ды Л. Фернандзіса з Нідэрландаў. Адбудзецца некалькі камерных канцэртаў з удзелам беларускіх выканаўцаў ды іншаземных гасцей.

На афішах — імёны С. Бельцюкова, Г. Гарэлавай, У. Каральчука, Г. Кароткінай, В. Кузняцова, Д. Лыбіна, Д. Смольская, а таксама кампазітараў Італіі, Малдовы, Нідэрландаў, Польшчы, Расіі, Румыніі, Швецыі... Сярод выканаўцаў — маладзёжны аркестр з Варшавы, беларускі "Класік-Авангард", галандскі "Percussion Duo", нашы маладыя салісты-спевакі ды інструменталісты...

"Беларуская музычная восень", між тым, ахопіць усе рэгіёны краіны, але сэрцам фестывалю будзе, як заўсёды, Мінск.

**С.Б.**

---

# Чаму ж не гудзець?

Чаму ж ім не пець, чаму ж... Калі ўсё для гэтага ёсць: шчодры гасцінны прыём, вялікія залы, запоўненыя ўдзячнай публікай, увага тэлебачання і друку, цёплая кампанія, прыстойныя ганарары... Гаспадары знаходзяць грошы і на тое, каб стварыць атмасферу свята, і на тое, каб прэміяваць пераможцаў конкурсу, і на тое, каб узнагародзіць "непрадугледжанымі" доларамі "пазапланавых", "дадатковых" лаўрэатаў. Словам, песенны міжнародны фестываль у Магілёве — бліскучы, хаця і не золата.

Сёлета "Залаты шлягер" прайшоў сёмы раз, пакінуўшы ў сваёй стракатай гісторыі сустрэчы з "рэтра-зоркамі" (А. Баянава, Э. П'еха, І. Кабзон, Л. Лешчанка ды інш.), чарговую "Рамансіяду" ( з В. Нарэйкам, Б. Штокалавым ды інш.), канцэрт "Тата, мама і я — музычная сям'я", аўтарскую вечарыну В. Дабрыніна, традыцыйны конкурс маладых выканаўцаў...

Хаця фестывальны бюджэт быў нібыта на чвэрць, параўнальна з леташнім, скарочаны, гэта не паўплывала на жыццярадасны тон тэлетрансляцый і радыёрэпартажаў з Магілёва. Публіка шчаслівая ад сустрэчы з артыстамі, артысты шчаслівыя ад захаплення публікі — што яшчэ трэба для стварэння святочнай атмасферы!

Яшчэ, бадай, трэба... Разыграць конкурсныя прызы. Сёлета ў спаборніцтве маладых спевакоў удзельнічала 18 прадстаўнікоў краін СНД, Балгарыі, краін Балтыі, Польшчы, Румыніі, Югаславіі. Журы ўзначальваў народны артыст Беларусі М. Фінберг. Гран-пры і 2 тысячы долараў атрымала салістка Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі Таццяна Глазунова. Першая прэмія дасталася Аляксандру Панаётаву з Украіны, гэткай жа ўзнагародай адзначана Марварыд (Ларыса Маскалёва), спявачка з Узбекістана. Магілёвец Юрый Далькоў узнагароджаны прызам імя Віктара Вуячыча ды прызам глядацкіх сімпатый...

З інтэрв'ю кампетэнтных музыкантаў, дый з каляфестывальных размоў, вынікае, што лепшыя песні, на жаль, належаць ужо мінуламу часу, што вылучыць, назваць, запомніць яркі песенны ўзор нашых дзён з панарамы "Залатога шлягера" проста не ўдаецца. Амаль парадыйна гучаць у выкананні "эсэндэшных" спевакоў прыгожыя англамоўныя шлягеры з рэпертуару сусветна славутых зорак. А свае песні нібыта пайшлі на звод. І асабліва горка за беларускую песню, якая на "Залатым шлягеры", канечне, прысутнічае, ды выглядае нібыта нялюбая падчарка пры заможных самаўпэўненых гаспадарах... Не бядуй, Папялушка, на чужым балі. Будзе і тваё свята. У Маладзечне. Чакай ды спадзявайся.

**Я. КАРЛІМА**





## *У храме сваёй душы*

**У кожнага ў жыцці ёсць вызначальны перыяд, некалькі, а мо нават адзін дзень, што застанецца ў душы, будзе вярэдзіць ці спавядаць яе заўжды. І здарыцца гэтакае можа ў любым узросце. Такі дзень напаткаў і галоўную гераіню аповесці Міхася Зарэмбы шасцікласніцу Веру Ластаўку. Ды які — неспрыяльны ва ўсім дзень магнітнай буры. Менавіта гэтак і назваў пісьменнік твор, змешчаны ў кнізе "Рыжая ластаўка", якая выйшла ў выдавецтве "Юнацтва".**

**Вера — дзяўчынка вельмі ўражлівая, у яе на зайздрасць добрае сэрца, чулае да бяды, якая закранае блізкіх і чужых ёй людзей. Як моцна перажывае яна за бацьку-п'яніцу, што ніяк не можа адолець сваю хваробу, і за браціка Паўліка, якому "ужо чацвёрты год, а ён ніводнага слова правільна не можа вымавіць і хадзіць яшчэ не ўмее без падтрымкі". З любасцю і пяшчотаю кажа Вера і пра ўсё жывое ў навакольнай прыродзе. Аднойчы хадзілі яны з малодшым братам Сярожам збіраць суніцы. Хлопчык заўважыў у траве нешта падобнае на гадзюку і моцна напалохаўся. Ды выручыла сястра.**

**— Гэта ж мядзянка! — з палёгкай выгукнула Вера. — Не бойся, яна не ядавітая. Вунь дробныя плямкі і бурыя палоскі каля галавы.**

**— Мядзянка? — неяк жаласліва прашаптаў Сярожа. — Не кусаецца? Хто табе казаў?**

**— Я ў кнізе прачытала. Гэтая кніга Чырвонай завецца. У ёй напісана, што мядзянку трэба ахоўваць, яе ў нашых лясах вельмі мала засталося.**

**— Гадзюку... і ахоўваць?! — яшчэ больш здзівіўся Сярожа. — Прыдумаюць...**

**— Трэба, Сярожка, ахоўваць, трэба. І мядзянку, і ландышы, і птушак...**

**І нездарма з Вераю сябруе і ўвесь час суправаджае грак Карлуша, якога яна ўратавала. Гэта сімвалічна, бо ў рэальным жыцці ластаўкі з гракамі хутчэй за ўсё варагуюць. Гэтак птушка адказвае на дабрыню і спачуванне да сябе.**

**І вось такому кволаму, уражліваму сэрцу давялося вытрываць той самы дзень магнітнай буры, у які адбылася сутычка з вясковым прыдуркам ды нахабам Боўдзілам, і брат Сярожка недзе прапаў, і бацька ў чарговы раз нажлукціўся... Нарэшце, запалала, зашугала полымем родная хата, у якой застаўся ляжаць п'яны бацька. І ці магла адолець такое Верына душа? Гледзячы на пажар, які сімвалізуе ў аповесці знішчальны, жорсткі час, у які ёй давялося жыць і дзе шмат што можа пабрацца полымем, дзяўчынка траціць прытомнасць.**

**Наступную аповесць, "Рыжая ластаўка", немагчыма зразумець, не прачытаўшы першую.**

**Вера Ластаўка, якая трапіла ў бальніцу, тры дні знаходзіцца бы ў летаргічным сне, у час якога яна абярнулася ў птушку і трапіла на Планету ластавак. Там дзяўчынка сустракаецца з дзедам Рыгорам і бабай Любаю, якіх ужо даўно няма на свеце і якіх яна ніколі не бачыла. І гэтыя мудрыя, простыя вясковыя людзі сваёй разважлівасцю, любоўю да жыцця, вераю ў яго вяртаюць гэтую веру і дзяўчынцы (нездарма ж у яе такое імя). І яна пачынае разумець, што не ўсе людзі на свеце кепскія, што не ўсё ў жыцці страчана. На трэці дзень да Веры вяртаецца памяць, аповесць і заканчваецца гэтым эпізодам. Але ўсё ж застаецца адчуванне трывогі і неспакою за гэтую кволую і безабаронную душу, якой шмат яшчэ, мабыць. двядзецца перажыць.**

**У другой аповесці, падаецца мне, больш аўтарскай фантазіі і выдумкі, яна больш псіхалагічна выверная і ўнутрана напружаная.**

**Змешчана ў кнізе і аповесць "Здань у храме святой наіўнасці". Яна і тэматычна, і ўзроства адрозная ад папярэдніх. Галоўныя героі Віктар, малады журналіст, і Святлана, студэнтка інстытута замежных моў, сустракаюцца ўпершыню на танцавальным вечары. З яго і пачынаюцца іх узаемадачыненні, якія ўрэшце перарастаюць ва ўзаемнае каханне. Але на шляху да яго маладыя людзі прайшлі праз шмат якія сумнівы і душэўныя пакуты. Найперш гэта тычыцца Віктара, які мае больш жыццёвы вопыт, ведае прыклады падману, гульні ў каханне. Ды і асобе ягонай аўтар удзяляе значна больш увагі, відаць, як кажуць, "паставіў" на героя, менавіта яго характар імкнецца раскрыць як мага паўней. Бо чаго трэба было адпраўляць Віктара ў камандзіроўку і, як мне здаецца, залішне доўга распавядаць пра яе. Бо за гэты час чытач можа і пра Святлану забыцца, ды і ў дынамічнасці развіцця сюжэта аповесць страчвае. А ва ўсім астатнім Віктараў вобраз адметны для творчасці Міхася Зарэмбы. Гэта перш за ўсё чалавек душэўнага пошуку, бо шукае і знаходзіць менавіта ў храме сваёй душы.**

**У. МАРУК**

# НАЧНЫЯ ЎСПАМІНЫ

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

## Каго "падсасюрыць"?

У літаратуру я ўвайшоў лёгка. Узнёсся. Хутка стаў у першую шарэнгу яе. Сталінская прэмія ў той час, пры жыцці "правадыра ўсіх народаў", — ох як многа значыла! Кажуць, Сталін усё, што вылучалася на прэмію, чытаў. Верылі: геній! Хоць значна пазней, пасля смерці яго, мне расказваў Сяргей Міхалкоў, што, калі дайшла чарга да "Глыбокай плыні", Сталін спытаў у членаў камітэта: "Усе чыталі?" Усе! Хто мог прызнацца Сталіну, што не чытаў, будучы членам такога высокага камітэта? Фадзееў адважыўся дадаць: "Пра партызан ніхто яшчэ так не напісаў". Найвышэйшая ацэнка! Аляксандру Фадзееву Сталін верыў. А Фадзееў паверыў беларусам, нашаму ЦК – ён даў каманду вылучыць. Аднак пасля размовы з Міхалковым я пераканаўся, што чыталі не ўсе. Міхалкоў не прызнаўся за бяседным сталом ў Саюзе пісьменнікаў, што не чытаў, але адно маё пытанне пра раман прымусіла яго заглушыць размову са мной, хоць я і вёў застолле – першым сакратаром ужо быў, а Максім Танк не любіў старшыняваць, у большасці выпадкаў даручаў мне. Так, урэшце ўсё вырашаў ЦК, магчыма, Панамарэнка, яму, начальніку Цэнтральнага партызанскага штаба, раман не мог не спадабацца – гэта і яго слава.

Аднак не пра гэта мой начны ўспамін. Увайшоў сапраўды лёгка. І лёгка ішоў. У напружаны час вучобы ў партшколе напісаў "У добры час". Ніхто не дыктаваў, ніхто не падказваў. Праўда, крытыка Войніча (ён крытыкаваў "У добры час" за ачарненне калгаснай вёскі; цяпер з гэтага рагатаць хочацца) тузнула цуглі. Але, бадай, раней крытыкі адна выдатная літаратурная падзея дала зразумець: не разганяйся, хлопча! Увайсці можна лёгка ў яе, у літаратуру, але і вылецець з яе можаш куляй. І не ў настаўнікі на Гомельшчыну – у край далёкі. У глухіх кутках за добрай чаркай старэйшыя пісьменнікі расказалі пра сваіх калег, якіх скасіла перадваенная "касілка". Расказвалі па-рознаму, усе асцярожна, агляддіва, але мала хто лічыў Гартнага, Чарота, Мурашку, Таўбіна ворагамі. Я слухаў аповеды з цікавасцю, але больш верыў партыі; вайна, армія, партшкола выхавалі з мяне марксіста-ленінца, загартаванага. І я лічыў задачай свайго жыцця: ва ўсім і заўсёды праводзіць партыйную лінію. Аднак, відаць, мастак перамагаў: у той час я пачаў пісаць "Крыніцы" – раман, які амаль усіх калег маіх здзівіў смеласцю: вобразам Бародкі.

Не, да рамана "Крыніцы" яшчэ, які быў дапісаны і апублікаваны пасля смерці правадыра, адна гісторыя дала мне зразумець, што літаратура – справа цяжкая і небяспечная.

Было лета. Адпачывалі ў нашым маленькім і ўтульным доме творчасці "Каралішчавічы". Прывезлі газеты. Сенсацыя: у "Правде" вялікі артыкул аб літаратуры, украінскай, канкрэтна – пра верш Уладзіміра Сасюры "Любі Украіну". А чаму яе не любіць, пэўна, спытаў бы кожны, хто мае цвярозую галаву. Але так мы разважаем сёння. А тады... Пераканаўчы доказ, што верш адкрыта нацыяналістычны і – агульная выснова: нацыяналістычныя ідэі выяўляюцца не толькі на Украіне, але і ў літаратуры іншых рэспублік.

Прызнаюся: артыкул я прачытаў з цікавасцю, але асаблівага значэння яму не надаў; пра літаратуру ў той час пісалі многа ўсе газеты; у прыватнасці, у нас ніводзін значны твор не быў не заўважаны крытыкай і прэсай. Не злічыць артыкулаў пра "Глыбокую плынь", пра "Крыніцы".

У часе абеду, дзе былі жонкі і дзеці, калегі мае маўчалі пра артыкул. Але калі ішлі са сталоўкі мужчынскай групай, здаецца, Алесь Якімовіч сказаў:

— Гэта новыя "Звезда" і "Ленинград".

Меў на ўвазе пастанову ЦК пяцігадовай даўнасці, якая ўсё яшчэ была платформай літаратурнай палітыкі. Антон Бялевіч заспакоіў, што ў нас такіх вершаў няма. Спытаў у Вялюгіна, ёсць ці няма. Вялюгін ведаў усё – што друкавалася і што абмяркоўвалася ў самых высокіх інстанцыях. Пасля такая дасведчанасць мяне здзіўляла. Броўка не ведаў тых навін, якія часта прыносіў Анатоль.

Ёсць ці няма такія вершы – пра гэта трохі пагутарылі, але без эмоцый, спрэчкі, нехта нават запярэчыў Якімовічу: артыкул не пастанова. Асобны карэспандэнт можа напісаць што хочаш. Хіба ў нас мала было разносных артыкулаў? Палітыкі партыйнай з іх не рабілі, шмат якія аспрэчвалі на сваіх пасяджэннях.

Адпачываў у доме творчасці Кандрат Крапіва. Акадэмік, патрыярх. Але гарэлкі ён з намі ніколі не піў. Якуб Колас зрэдку прыязджаў і любіў пасядзець з маладымі, чарку ўзяць і анекдоты нашы паслухаць. Гумарыст і сатырык у кампаніі гэтыя не ўлазіў, думкі пра новыя творы не выказваў, хіба пра байку ў "Вожыку", дзе ён быў членам рэдкалегіі. Аднак пра "Любі Украіну" мы яго спыталі.

— Не чытаў я гэты верш.

— А ваша думка пра артыкул?

— Калі "Правда" дала, значыцца праўда.

— З'ядуць Сасюру, — сказаў нехта, ці не Піліп Пестрак.

Нічога асаблівага ніхто не сказаў, нязначныя рэплікі, але я чамусьці ўстрывожыўся. "Звезду" і "Ленинград" я не перажываў – настаўнічаў яшчэ і не меў з кім абмеркаваць пастанову ў газетах – не пра сельскую ж гаспадарку. Прачытаў – і забыўся, заняўся сваімі нялёгкімі абавязкамі: вучыў дзяцей, унікаў у справы ажно шасці калгасаў – сакратар жа партарганізацыі; завейнымі начамі пісаў раман, накінуўшы на плечы шынель – холадна было ў пакоі, малая Ліна і Маша спалі на печы, часам і я, адубелы, там мясціўся, але траім цесна было.

Кранула мяне другая кампанія (калі я ўжо быў у Мінску): барацьба з касмапалітамі. Я, безумоўна, быў супраць касмапалітаў – служкі капіталізму! – і ўхваляў палітыку партыі. Але балюча ўразіў мяне арышт паэта Хаіма Мальцінскага. Ён быў маім першым рэдактарам кніжкі дзіцячых апавяданняў, і я колькі разоў хадзіў да яго на кватэру – у маленькі пакойчык у драўляным доме па вуліцы Розы Люксембург. Натуральна, што пры такім кантакце мы расказвалі свае ваенныя біяграфіі. Ён быў камісарам батальёна, меў два баявыя ордэны, яго раніла ў нагу, яе ампутавалі, хадзіў на драўляным пратэзе. І ён трымаўся тых жа поглядаў, што і я, — партыйных. Дык за што ж яго арыштавалі? Гэтага я не мог зразумець, і мне было балюча. З ім арыштавалі Ісака Платнера, дабрэйшага чалавека, як я пераканаўся, калі, рэабілітаваны, ён вярнуўся да нас, а я ўжо быў намеснікам старшыні і стараўся, каб уладзіць і Мальцінскага, і Платнера з кватэрай, з выданнямі. Каб не было ў людзей крыўды на савецкую ўладу. Таго, хто вінаваты, пакаралі: аднаго, Сталіна, лёс, другога, Берыя, — суд. Але ўсё гэта адбылося пазней – пасля Сасюры.

Я сказаў Машы, што мяне раптам устрывожыў артыкул.

— А ты не лезь наперад! – амаль загадала мая мудрая жонка.

— Асадзі назад, так, па-твойму? Ты забываеш, хто я.

Мудры Ілья Гурскі на першым жа справаздачным сходзе перадаў партфель сакратара партарганізацыі мне, выпускніку партыйнай школы. Каму ж яшчэ: вывучаў не толькі марксізм-ленінізм, але і практыку партыйнага будаўніцтва ў пасляваенныя гады.

— Як жа я магу схавацца за спіну Броўкі? Ды і ніколі я не хаваўся за чужымі спінамі.

Маша не здавалася:

— Падумаеш – класік! Аўтар аднаго рамана. А тут – паэзія. Няхай паэты і разбіраюцца.

Паэты "разабраліся". Недарэмна пасля абеду мне не пісалася – расло трывожнае прадчуванне. У хуткім часе падкаціла "Победа". З яе вылезлі Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, Максім Танк. Куляшоў і Крапіва знаходзіліся тут, у Каралішчавічах. У такім складзе Броўка і сабраў нас: вядомыя паэты і я, адзіны, неапераны яшчэ празаік, амаль галыш. Мне б толькі дзюбку раскрываць: палажыце ў рот. Не! Не так вырашыў мудры Броўка. Ці адзін ён?

Сабраліся не ў доме, не ў сталоўцы – на лясной паляне, воддаль ад дома, як падпольшчыкі, партызаны. Азіраліся, ці не падслухоўвае хто з кустоў. Абурыцца маглі некаторыя: чаму такі келейны збор? Той жа Пестрак, член прэзідыума, змагар за дэмакратыю. Але ў Пятра Усцінавіча ўсё было ўжо вырашана. Не на паляне. У кабінеце на пятым паверсе. І дыскусіі не магло быць. З гэтага Броўка пачаў:

— Чыталі?

Куляшоў не паспеў прачытаць, яму Броўка коратка пераказаў змест артыкула. Аркадзь, гумарыст, востры на язык, — ні слова, зрабіўся змрочна-сур'ёзны.

— Я думаю, усе разумеюць значэнне артыкула. "Правда" дала! – заключыў Броўка і паказаў пальцам у неба. – Там ёсць думка: абмеркаваць артыкул на адкрытым партыйным сходзе. У бліжэйшы час. Па магчымасці на гэтым тыдні.

Не помню, які дзень быў – аўторак, серада, але помню, што Пятро Глебка ўсумніўся:

— Хто падрыхтуе даклад за такі час?

— А хто павінен рабіць яго, даклад? – спытаў Крапіва. – Трэба партыйнаму крытыку. Барысенку?

Броўка яшчэ на нейкі час як бы задумаўся, але глядзеў на мяне. Я палічыў, што ён чакае, каго назаву я, парторг. А каго я мог назваць? Крытыка? Каго? Я не ўсіх ведаў з тых, што пісалі пра мае раман, апавяданні.

Ды Броўка бухнуў мяне абухом па галаве:

— Даклад зробіць Іван Пятровіч.

Ледзь не самлеў я ад такой нечаканасці. Не выступаў я яшчэ перад пісьменнікамі са звычайным дакладам – аб нашай унутранай працы. А тут – палітычны даклад! На якім матэрыяле? Трэба нашы факты. А дзе яны ў мяне? Хто ў нас піша, як Сасюра? І я заенчыў:

— Пятро Усцінавіч! Ды не магу я! Які з мяне дакладчык? Паэзію я не ведаю... Не разбіраюся... Пра каго гаварыць?

— Іван Пятровіч! Думку такую падтрымалі там, — і зноў паказаў пальцам у неба.

— Паможам! – здалося мне, весела сказаў Пятро Глебка, закурваючы чарговую цыгарэту. – А факты... Яны заўсёды ёсць. Вось першы: Максім пераклаў "Любі Украіну"...

Я ў пачатку збору нашага звярнуў увагу: здзівіўся, што Максім Танк, весяльчак у любой кампаніі, рагатун, гумарыст, змрочна маўчаў, толькі кіўком галавы падтрымаў маю кандыдатуру на дакладчыка.

— Пераклаў, — вінавата прызнаўся Яўген Іванавіч і, як бы маючы нейкую надзею на будучага дакладчыка, падтрымаў Глебку: — Шамякіну трэба памагчы.

— Паможам! – бадай узрадаваўся старшыня саюза.

— Вось мае два вершы, — сказаў Пятро Глебка, выпускаючы пахучы дым, і назваў свае вершы. – Ніякай адзнакі часу. Такія вершы можна было напісаць у мінулым стагоддзі. У наш час такой лірыцы не месца. Крытыкуй мяне, Іване.

(Ён назваў свае вершы, але я не помню іх. На жаль, у маім хатнім архіве не засталося і рукапіснага варыянта даклада. Ці ёсць ён у іншых архівах, партыйным, дзяржаўным? Не ўпэўнены. Шукаць не маю сілы).

Пасля Глебкі назваў для даклада свой лірычны, пра каханне, верш Броўка. Як бы асмялелы Максім Танк (яго віна – пераклад) чамусьці раптам засмяяўся:

— Ты чаго? – насцярожыўся Пятро Усцінавіч.

— Якія мы самакрытычныя сталі!

— Самакрытыкавацца прыйдзецца табе. Што цябе пацягнула перакладаць гэты верш?

— Дружба.

— Дружба! Мала ў Сасюры іншых вершаў!

Крапіва хмыкаў як бы ад сваіх таемных думак. Ці ўстрывожаны, ці ўзрадаваны? Нагадаў:

— У мяне байкі. Яны маюць канкрэтны адрас.

— У цябе – байкі, — згадзіўся Броўка. – І ў іх мараль. А ў некаторых вершах, у нашых у тым ліку, маралі не хапае. Нашай, партыйнай.

Куляшоў маўчаў. Броўка, як я даведаўся пазней, не мог мінуць яго.

— А ты, Аркадзь, што маўчыш? А я табе скажу шчыра, апошнія твае вершы мне не спадабаліся. Гэтыя, якія Кучар назваў філасофскімі. "Зямля і неба". І як там яшчэ? Якая ў іх філасофія? Ленінская?

Аркадзь пазеляненеў.

— Ты мае вершы не чапай.

Броўка падскочыў.

— А чаму гэта твае не чапаць? Нашы можна, а твае нельга? Вунь Глебка сам назваў свае. І я. А ты?.. Ты яшчэ не Купала і не Колас!..

— Ты даўно шукаеш падставу ўтапіць мяне.

— Не я шукаю. А ты... ты са сваімі сябрамі...

— З якімі сябрамі? На каго ты ківаеш? На Кучара?

— Кучар тут ні пры чым! Кучар – партыйны крытык. Я не цалуюся з ім, але паважаю.

— Ведаю я, як ты нас паважаеш. І людзі ведаюць...

Дыялог гэты я помню амаль дакладна. Працягу яго не помню. Бо далей пачалася звычайная сварка. Такое да таго чуў хіба ў п'янай бяседзе, калі перапівалі такія задзіры, як Антон Бялевіч, Піліп Пестрак, Анатоль Вялюгін...

Развёў цвярозых пеўняў разважлівы, заўсёды мірны Пятро Глебка. Куляшоў пайшоў, за ім — Танк. Папрасіў прабачэння Крапіва.

Тэзісы даклада абмяркоўвалі мы ўтрох. Якое абмеркаванне! Гарачы Пятрусь неаднойчы вяртаўся да Куляшова, то запэўніваючы, што ён любіць яго як паэта, то закрэсліваючы некаторыя яго паэмы і вершы, падказваючы будучаму дакладчыку ўсё новыя прыклады, некаторыя ажно з даваеннай творчасці слыннага паэта. Але разважлівы Глебка стрымаў яго гарачы спрыт:

— Пятрусь! Давай даваенныя чапаць не будзем. Усе нашы грахі – у каго іх не было! – спісала вайна.

У той жа дзень, разам з Петракамі, я ці

паехаў у горад. У доме творчасці добра пісаўся раман, але для даклада трэба літаратура – кнігі, часопісы, газеты. А іх не было!

Як я працаваў у тыя дні! Я, малады, увогуле быў зацяты ў працы, да трох гадзін ночы пісаў. Але такой напружанасці я не помню. Па-першае, тэрмін, хоць Броўка, пэўна ж са згоды аддзела ці нават самога ідэалагічнага бога Цімоха Гарбунова, правіў літасць: даў мне ажно цэлы тыдзень! За год столькі не перачытваў: шукаў, каго "падсасюрыць". З нейчай дасціпнасці слова гэтае пайшло ў абыход. У газетах друкаваліся артыкулы крытыкаў. Прычым аб'ектам з'яўляўся няшчасны перакладчык. Ну, Максіма "падсасюрылі". Каго яшчэ?

Мне пазваніў на падпіццi Антон Бялевіч, не папрасіў – пагразіў:

— Янка! Глядзі ж, не ўздумай "падсасюрыць" мяне. У мяне ўся паэзія высокапатрыятычная.

А якраз ён ішоў другім пасля Танка.

Акрамя тэрміну, з'явілася нейкае дурное ап'яненне, азарт. Захацелася раптам паказаць, што я ўмею не толькі раман напісаць, але і даклад зрабіць не горшы за старых. Вырашылі спалохаць мяне? А дулю не хочаце? Даклад мой стане сенсацыяй.

Дзень я чытаў – у бібліятэках, рэдакцыях, а часцей – у Глебкі, у бібліятэцы якога меліся ўсе выданні, часопісы, падшыўкі "Літаратуры і мастацтва". А начамі пісаў, "гнаў" па дзесятку старонак.

Ды два чалавекі астудзілі мой запал. Жонка мая і Андрэй Макаёнак. Маша чытала напісанае ўначы да таго, як я прачынаўся, і заклапочана засцерагала:

— Навошта ты так? Добрыя ж вершы. (І да прозы дабраўся – да лірычных абразкоў, на якія пайшла мода). – З'ядуць цябе пісьменнікі за такія ацэнкі. Невядома, чым гэта ўсё кончыцца. Ты хоць ведаеш, што ўкраінцы пішуць? Як паводзіць сябе Сасюра?

Не, украінцаў я не чытаў. Чытаў маскоўскія выданні. Артыкулы былі бязлітасныя не толькі ў адносінах да выдатнага ўкраінскага паэта, але супраць нацыяналізму ў рэспубліках. Нас пакуль не чапалі. За Украінай пад удар трапілі Грузія, Азербайджан. Не помню, ці зачапілі прыбалтаў.

Андрэю я паказаў даклад тады, калі ён, на маю думку, быў гатовы і перадрукаваны машыністкай Саюза пісьменнікаў.

Андрэй нахмурыўся на трэцяй старонцы. Дастаў з кішэні аўтаручку чарнільную (шарыкавых яшчэ не было) і бязлітасна, амаль злосна выкрасліў два абзацы.

Я трохі не самлеў.

— Што ты робіш? Гатовы даклад!

— Ты называеш гатовым? Ды яшчэ дакладам? Іван! Перад кім ты выпендрываешся? Перад непісьменным Гарбуновым? Ці перад "украінцам" Кагановічам? Ты ж добра ведаеш, што гэта яго авантура, гэтага гомельскага шаўца. Дык чаму мы з табой павінны падтрымліваць такіх прахіндзеяў? І аплёўваць сваіх таварышаў, добрых паэтаў. Падумаеш, Танк зрабіў крамолу – пераклаў верш калегі свайго! Прэмію ты такім дакладам не заробіш! Гэта не "Глыбокая плынь".

— І я кажу яму гэта. Занясло яго, як на ўхабе. Пісаў – не спыніць. Усе ночы.

— Малайчына, Маша! Слухай жонку, Іван! Яна разумней за нас. У яе чуццё.

Многа траціць слоў ім не прыйшлося – Андрэю і Машы. Першыя ж бязлітасныя словы сябра, з думкай якога я заўсёды лічыўся, пераканалі мяне, што ён мае рацыю, што мяне, маладога пеўня, занесла на чужы плот.

Мы селі галава да галавы, Андрэй перадаў мне сваю ручку.

— Выкрэслівай уласнай рукой усё, што я табе скажу.

І я паслухмяна выкрэсліваў тое, што такой напружанай працай шукаў, што пісаў бяссоннымі начамі. Абзацы два-тры аспрэчыў, адстаяў. З трыццаці старонак засталося дваццаць. Перадрукаваць я даў чужой машыністцы – за плату, каб ніхто з нашых не бачыў выкрасленых імёнаў, твораў, ацэнак.

Але што здзівіла – даклад спадабаўся Броўку, якому я даў на цэнзуру перад сходам.

На сходзе я моцна хваляваўся — ажно горача было ў жываце, грукала кроў у скроні. Але сход прайшоў спакойна: ніводнага пратэстнага выгуку, хоць і апладысменты былі рэдзенькія пасля апошняй маёй фразы аб мудрасці партыі і Сталіна.

Але асабліва ашаламіла, што і прадстаўнік ЦК (помніцца, гэта быў Халіпаў) пахваліў даклад, малайцом мяне назваў. Дзіўна. Сам жа я разумеў, што даклад ніжэй сярэдняга, калі не сказаць, што зусім слабы.

І гэтую загадку мне растлумачыў Андрэй (у "кагал" мы пасля такога сходу не пайшлі – ціха адкалоліся ад калег і падаліся на Машыны прысмакі).

— А ты думаеш, камусь хочацца, каб ты даказваў, што ў нас расквітнеў нацыяналізм? У нас жа Патолічаў, а ён — не Кагановіч. Ён – казак.

# "Аліхесава пята" беларускага друку

Сутыкнуўшыся з двухмоўем дэ-юрэ, імкнучыся пакуль што да двухмоўя дэ-факта, да ўжывання беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага і культурнага жыцця, мы павінны руліцца пра высокую культуру мовы, узорную культуру нашага маўлення і друку. Зусім слушна ў "Стратэгіі развіцця беларускай мовы", распрацаванай ТБМ імя Ф. Скарыны, ёсць пункт пра неабходнасць падтрымкі іміджу беларускай мовы. Мінулі часы, калі друкаванае слова было ўзорам яго правапісу, цяпер жа навучэнцам без папярэдняй праўкі немагчыма даць для чытання цікавы тэкст, якіх багата зараз у нашым перыядычным друку. Трэба адзначыць, што практыка камп'ютэрнага набору суправаджаецца часта значнай колькасцю недапушчальных пераносаў, непатрэбнымі дэфісамі. Ёсць перастаноўкі і пропускі літар. Такія неахайнасці аналізу не патрабуюць, і не хацелася б звяртаць увагі на іх, але тым не менш чытача бянтэжыць, выклікае разгубленасць няведанне "расейскага кнігавыдаўца" Сыціка, "Аліхесавай пяты"... І як жа кніжку перавыдаць — "факсімальна" ці факсімільна? І Саюз "фіцэраў" не дасць рады гэтай бядзе, бо быць трэба не "знахарам", а знахаром.

У хуткім часе будзе прымацца новая рэдакцыя "Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" з дадаткам правілаў беларускай арфаэпіі. Таму, пэўна, не будзе лішнім прагляд некаторых выданняў з канкрэтнай мэтай: як рэалізуюцца нашы арфаграфічныя і граматычныя правілы на практыцы? Ці ёсць нейкая заканамернасць і паслядоўнасць у памылках? Некаторыя выпадкі памылковага напісання, відаць, можна разглядаць як вынік дзеяння фанетычнага прынцыпу пісьма, пашыранага за межы яго ўжывання. Адной з найбольш характэрных з'яў беларускай мовы (вымаўлення і правапісу) з'яўляецца аканне, пасля мяккіх зычных — яканне. Найбольшая колькасць памылак у напісанні **я** пры абазначэнні ненацікснога [э$^а$] пасля мяккіх зычных прыпадае на напісанне гэтай літары ў другім пераднаціскным складзе: *"бяручы, спадзяючыся, Сяржука, няўміручай"* (калі ў першым пераднаціскным складзе не **а**), *"няпаўторныя, каляндары, зняважальны, забяспячэнне, спявака, няблагі, глядачоў, вякавуха"*. Сустракаецца **я** на месцы **е** ў паслянаціскных складах *(полымям, восянскі, узгаднення)*, на месцы **і** *(гляняны, цвясці)*. Нярэдка пішуць **я** замест **е** ў запазычаных словах: *"Бярлінскі, лягенда, галярэя, плябей, суб'ектыўны, Вянерын"*. Урэшце, чым гэтыя словы менш беларускія ці пазней запазычаныя, чым *яфрэйтар, сяржант,* якія згодна з правілам пішуцца праз **я**?

Безумоўна, перш за ўсё напрошваецца вывад: карэктар не ведае правілаў або прапусціў памылку па няўважлівасці. Але ўсё ж чаму так пішуць аўтары? Ці не адлюстроўваецца тут асаблівасць беларускага вымаўлення ('э) у ненаціскных складах з вялікім набліжэннем да (а)? Таму пры вывучэнні правілаў якання, не нівелюючы ні ў якім разе гэтай адметнай маўленчай рысы беларусаў, імкнучыся захаваць яе, неабходна звяртаць увагу на разыходжанне вымаўлення і напісання, на адхіленні ад фанетычнага прынцыпу. Да памылак, звязаных з разыходжаннем напісання і вымаўлення, можа быць аднесена напісанне складаных слоў з **я** на месцы **е**: *"Вялікакняскі, Вялікакняжанне, радыябіялогія"*.

Вельмі прыкра чытаць няправільна напісаныя запазычаныя, але даўно ўжываныя, добра вядомыя словы: *"інтэлегентнасць, дэферэнцыяцыя, стэрыатып, лігітымнасць, апрыоры"* і г. д.

Чаму навучыліся беларусы, кіруючыся правіламі напісання мяккага знака? Ведаючы, што асіміляцыйная мяккасць на пісьме ў нас не перадаецца, пішуць: *"калісці, дзесці, штосці, людзмі, цмяны"*. Меншая колькасць памылак на напісанне "збыткоўнага" (паводле арфаграфіі) мяккага знака: *"кузьняй, дзьве, яцьвягі"*. Правіла, безумоўна, складанае, паколькі аднолькавае вымаўленне не патрабуе рознага напісання. Але калі мы ўжо адмовіліся ад адлюстравання на пісьме асіміляцыйнай мяккасці, то не трэба спрыяць няправільнаму (цвёрдаму, хай сабе і еўрапейскаму) вымаўленню, спадзеючыся, што ў хуткім часе мы зусім пазбавімся гэтай сваёй адметнасці. Трэба няспынна дбаць пра змякчанае вымаўленне гукаў (с', з', ц', дз') перад мяккімі зычнымі. Своеасаблівасці беларускага літаратурнага вымаўлення трэба падтрымліваць, акцэнтаваць на іх увагу, дамагацца прынятага ўнармаванага маўлення. Думаецца, не варта спасылацца на тое, што пэўная ўласцівасць характэрная не для ўсіх гаворак: большасць нашых дзетак (ды і дарослых) вучаць беларускую мову па друкаваным тэксце, дзе не заўсёды чытаецца так, як напісана.

Беспамылкова адлюстроўваецца на пісьме ў простых па структуры словах аканне. Адсутнасць усёахопнага правіла пра наяўнасць пабочнага націску ў складаных словах дае значную колькасць памылак у друку. Калі трэба пісаць *наваствораны, кожнадзённы, работадаўчы* і г. д, то пішуць па аналогіі *"народаволец, вольнадумцы, добрачынна, добрадзейны, рознапланавы, востраверхі"*. А правільнае напісанне слоў *н..вапалачанін ус..ведайка* могуць вызначыць, напэўна, толькі аўтары будучага Слоўніка беларускай мовы.

Амаль паўсюдна, і ў перыядычным друку, і ў мастацкай літаратуры, сустракаецца няправільнае напісанне дзеяслова *ісці* і яго спрагальных формаў пасля прыставак. Часцей за ўсё з прыстаўкамі на зычны пішуць і **ы** і **й**: *"адыйшлі, абыйсціся, падыйшоў, сыйшлі, надыйдзе"*, сустракаецца і *"прышоў"*.

Граматычныя формы, не ўласцівыя беларускай мове, таксама назіраюцца скрозь ва ўсіх выданнях. Зноў церпіць наша самабытнасць. Успомнім Якуба Коласа:

***Чорнагаловыя, ўдалыя,***
***Баравічкі мае любыя!***
***Якою слаўнаю сям'ёю***
***Вы ўстаяце перад мною!"***

***"Вы пуцінаю няроўнай***
***Бежыце ўдалечыню,***
***У бок Віліі чароўнай***
***І пад светлую Дзвіну".***

Менавіта такія дзеяслоўныя формы 2-ой асобы множнага ліку, калі ў 1-ай асобе множнага ліку канчатак націскны, уласцівыя і літаратурнай мове, і пераважнай большасці беларускіх гаворак. Чытаць жа даводзіцца "не даб'ецеся", "не абвядзеце", "зберажэце" замест *даб'яцеся, абвядзяце, зберажаце.*

Не ўсё добра ў друку з правапісам канчаткаў назоўнікаў у родным і месным склонах адзіночнага ліку. З канчаткам **–а** ў родным склоне можна сустрэць назоўнікі другога скланення з выразным адцягненым значэннем: *"сна", "паказа", "абавязка", "творчага шляха"*. Часам пішуць *"па ўсходу", "у гасцёўне", "аб аўтары"*. Усё гэта паступова вядзе да разбурэння моўнай сістэмы.

Даволі часта ігнаруецца правіла напісання слоў злітна або асобна: "нажаль", "усёроўна", "усяроўна", "неспадзеючыся", замест *на жаль, усё роўна, не спадзеючыся; "як раз, так сама, засталіся ў баку"* замест *якраз, таксама, ўбаку.*

Наша ленасць у пошуку адметных беларускіх адпаведнікаў рускім дзеепрыметнікам, неўласцівым беларускай мове, прыводзіць да ўжывання дзеепрыметнікаў на —ся, некадыфікаваных Беларускай граматыкай, і непажаданых формаў дзеепрыметнікаў з суфіксамі -ем-, -уч- (-юч-), -ач- (-яч-): "сабраўшыхся ў гэтай зале", "на пачаўшымся пад'ёме" і пад. варта прыгадаць, што атрыбутыўную функцыю паводле пэўных груп зваротных дзеясловаў, напрыклад, узаемна-зваротных, агульна-зваротных, уласна-зваротных, могуць выконваць прыметнікі ў форме дзеепрыметнікаў прошлага часу з суфіксамі -н- (-ен-, -ён-, -ан-), -т-: *зруканыя* — якія, зрукаліся, *неаплечаны* — які не аплечыўся, не ўзмужнеў, *знявераны* — які зняверыўся, *сперажываны* — які сперажываўся, *задаўнены* — які задаўніўся, *спакутаваны* — які спакутаваўся, *навяселены* — які навесяліўся, *стрыманы* — які стрымлівае сябе, які стрымліваецца, *распрануты* — які распрануўся, *незгінаны* — які не згінаецца, неспыняны — які не спыняецца"[1].

Можна прывесці прыклады прыметнікаў, якія маюць формы дзеепрыметнікаў залежнага стану прошлага часу, утвораных ад неперахадных дзеясловаў: *выпетраны (лісток), луснуты (гаршчок).* Як бачым, беларуская мова валодае вялікім словаўтваральным патэнцыялам.

І становіцца зусім крыўдна і прыкра, калі сустракаеш сінтаксічныя канструкцыі, механічна перанесеныя ў беларускі тэкст з рускай мовы. Прычым гэтыя памылкі звязаны з няведаннем або ігнараваннем азбучных ісцін: *"чатыры пятых, больш 30 год запар, над ім пачыналі кпіць, у 4 вярстах ад"* і г. д.

Мы наўмысна не пашпартызуем памылкі, бо мэта нашых нататак — звярнуць увагу на моўную культуру тэкстаў, падагульняючы колькасць памылак на пэўныя правілы, вызначыць верагоднасць тых або іншых некадыфікаваных ужыванняў.

**Галіна ВЕШТАРТ,**
**дацэнт кафедры беларускай мовы Інстытута мовазнаўства НАН Беларусі**

*[1]Усе прыклады прыметнікаў узяты з мастацкай прозы Г. Далідовіча і У. Арлова. Некаторыя з іх ёсць у слоўніках беларускай мовы.*

МЕРКАВАННЕ

# Збіралася пісаць рэцэнзію....

Зноў зазелянела ў Паставах "Рунь". Кволілася, кволілася цэлыя сем гадоў і ўсё ж акрыяла!

...А ў пачатку 90-х гадоў на літаратурнай выспе Пастаўшчыны выгналіся, закусціліся і надзейна пайшлі ў добры рост аж тры паэтычныя альманахі "Руні"! Выйшла некалькі асобных аўтарскіх паэтычных кніжак. Пачала выдавацца газета "Сумежжа"...

І вось сем гадоў такой зацятай няўроды. Укладальнік і рэдактар новага альманаха паэт Ігар Пракаповіч прычыну яе ў сваёй кароткай прадмове тлумачыць так: "Палітыка-эканамічныя варункі жыцця дзяржавы прымусілі прыпыніць выдавецкую дзейнасць літаратурнага аб'яднання "Світанак" і Таварыства беларускай мовы".

Сваю паэтычную "Рунь"-2001 Паставы здолелі ўсё ж выдаць. Накладам у... 100 (сто!) асобнікаў. Яшчэ каб хаця на адну сотню асобнікаў (каб у шапіках яна паказалася ці ў крамах, дзе кнігу цяпер трапляецца ўбачыць побач з красоўкамі ці джынсамі — каб у руках хоць патрымаў яе і той, хто чытае вершы) такой дапамогі-ахвяры ад "палітыка-эканамічных варункаў" не знайшлося!

Паэтычны альманах "Рунь"-2001 у Паставах "выдадзены ў рамках праекта захавання культурнай і гістарычнай спадчыны Паазер'я".

Дык няўжо ўвесь раённы фінансавы імпэт выдаткоўваецца штогод толькі на такія вабныя ў Паставах, калі яны звіняць, гармонік і цымбалы?

А — параўнаем — колькі "казны з'елі", пакуль яны валаводзіліся ў Віцебску (а Паставы таксама ж — Віцебшчына!) "планетарныя" славянскія базары!..

Тое толькі хіба і мелі за асаблівы гонар, што вытраслі дзяржаўную кішэню і самай праслаўленай расейскай прымадонне "заплатили невиданные для Белоруссии гонорары". ("Комсомольская правда" — 19-26 кастрычніка, № 193.)

...Альманах "Рунь"-2001 (паўтару: 100 асобнікаў) выдадзены сродкамі мясцовых "багацеяў" — грамадскіх арганізацый:

Пастаўскай раённай арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны;

грамадскага Аб'яднання культурна-асветніцкіх ініцыятыў "Усяслаў Чарадзей";

грамадскага аб'яднання "Фонд імя Л. Сапегі";

рэгіянальнай культурніцка-экалагічнай газеты "Шыпшына";

а таксама: Instytut na RZECZ Demokracji w Europie Wschodniej.

Вось ужо сапраўды: па нітцы з усяго свету!

...Трымаю ў руках самую першую "Рунь"-1991. 1500 (тысяча пяцьсот) асобнікаў. Выдатная папера. І з якой надзеяй усміхалася тады яе святочная вокладка з галінкай вясновых вярбовых коцікаў!

А сённяшняя...

Ах ты мая нябога, Беднабеларусь... Якім словам выказаць пра цябе ўсю Праўду?

Якім Словам пацешыцца табою?

...На такой ноце канчаецца гэта маё непрадбачанае "рэцэнзаванне". І ўсё ж імкнуся знайсці суцяшэнне: зазелянела ўсё ж зноў над Прыазер'ем "Рунь". Пабольшала лікам паэтычных галасоў. Памаладзела ўзростам. Значыць, ёсць жыццё! (А "палітыка-эканамічныя варункі" — няхай яны ідуць на пусты лес!..)

Збіралася пісаць рэцэнзію. Але пра Паставы і "Рунь" ранейшую я пісала ў "ЛіМе" ўжо двойчы... І, падхопленая светлым узрушэннем, тады яшчэ і чытачоў заклікала: "Паедзем у Паставы!"

**Алена ВАСІЛЕВІЧ**

## Мазырскі аўтар "ЖЗЛ"

**Рэдкаму кніжніку не вядомая серыя выдавецтва "Молодая гвардия" — "Жизнь замечательных людей". Прыходзяць да чытача кнігі гэтай серыі і зараз. Пачатак жа быў пакладзены Максімам Горкім. Так і напісана на контртытуле кожнай: "Серыя біяграфій заснавана ў 1933 годзе М. Горкім". На сённяшні дзень, відаць, кніг у "ЖЗЛ" выйшла каля тысячы. Ёсць і пра беларусаў — Францыска Скарыну і Янку Купалу. Аўтар — Алег Лойка. Але гэта не ўся беларуская частка біяграфій "ЖЗЛ". Сярод пісьменнікаў, якія пісалі ў розныя гады для "маладагвардзейскай" серыі, — і многія ўраджэнцы Беларусі. Тыя, хто працаваў і працуе ў рускай літаратуры, у журналістыцы. Адзін з такіх майстроў слова — Анатоль Левандоўскі.**

**З даўняга, 1987 года, каталога "ЖЗЛ" можна даведацца, што ў серыі пабачылі свет кнігі яго "Рабесп'ер" (двойчы — 1959, 1965), "Жанна д'Арк" (ізноў двойчы — 1962, 1982), "Дантон" (1964), "Сен-Сімон" (1973).**

**Усяго ж А. Левандоўскім напісана і выдадзена 15 арыгінальных кніг. Амаль усе (Анатоль Пятровіч скончыў Маскоўскі дзяржаўны універсітэт, кандыдат гістарычных навук, прафесар) перавыдадзены, перакладзены на многія мовы народаў былога СССР, іншых краін. "Рабесп'ер", акрамя як у "ЖЗЛ", выходзіў яшчэ і ў Растове-на-Доне. Перакладзена біяграфія і на балгарскую (два выданні — 1961 і 1962), венгерскую (1966), сербскую (1969), эстонскую (1969) і армянскую (1973) мовы.**

**"Жанна д'Арк" услед за рускім выданнем прыйшла да балгарскага чытача (1964). Пасля былі: венгерскае (1966), румынскае (1965), латышскае (1970), грузінскае (1973), татарскае (1975), малдаўскае (1983), кітайскае (1999). "Дантона" па-руску выдалі яшчэ і ў Растове-на-Доне (1997). Па-балгарску распавед пра аднаго з правадыроў якабінцаў загучаў у 1968 годзе.**

**"Сен-Сімон" (1973) — чацвёртая з арыгінальных кніг А. Левандоўскага. Французскага філосафа, сацыяліста-ўтапіста па біяграфіі, напісанай нашым земляком, адкрылі балгарскія (1977) і кітайскія (2000) чытачы.**

**У 1973 годзе пісьменнік выдае кнігу "Вялікія рамантыкі". А праз шэсць гадоў зборнік прыходзіць да чытача па-іспанску. Двойчы выдаецца ў Маскве "Сэрца майго Марата" (у 1975 і 1979 гадах). Кніга перакладзена — на балгарскую (1979), эстонскую (1979), армянскую (1982) і кітайскую (2000) мовы. А вось "Нашчадкі пана Чамберса" (1977), "Трыумвіры рэвалюцыі" (1980), "Першы сярод роўных" (1986), "У імя роўнасці" (1987), "Вязень Бастыліі" (1990), "Нашчадак Мікеланджэла" (1991) пабачылі свет толькі аднойчы, у Маскве. "Кавалер Сен-Жуст" выйшаў у свет яшчэ па-французску (1988) і па-балгарску (1989).**

**У 1995 і 1999 гадах да чытача прыйшла біяграфія "Карл Вялікі". А. Левандоўскі, нягледзячы на сталы ўзрост, працягвае супрацоўнічаць з любімым выдавецтвам. Займаецца навуковым рэдагаваннем перакладаў, піша прадмовы, каментарыі.**

**...А што ж Беларусь? А. Левандоўскі нарадзіўся 8 чэрвеня 1920 года ў Мазыры. У доме свайго дзеда па матчынай лініі — патомнага юрыста Андрэя Трафімавіча Шпака. Там, у дзедавай хаце, у Мазыры, хлопчык разам з маці правёў чатыры з паловай гады. Бацька — Пётр Пятровіч Левандоўскі — па прафесіі вайсковец, у якасці камбрыга Чырвонай Арміі ў 1920-я гады змагаўся з інтэрвентамі (у Польшчы і на Каўказе). Маці — выпускніца Вышэйшых Бястужаўскіх курсаў у Пецярбургу, працавала настаўніцай.**

**Што памятае пра Беларусь, Анатоль Пятровіч? "...З мазырскіх гадоў майго жыцця захаваліся ясныя ўспаміны пра дом, вуліцу, на каторай мы жылі, пра частыя прагулкі па Тракце. Ксяндзоўцы, пра купанне на Прыпяці і інш. Апошні ўспамін — вельмі яркі — ад'езд у Маскву, куды пасля заканчэння вайны, у 1924 годзе быў прызначаны бацька. Памятаю холад цёмнай ночы, рэдкія агеньчыкі фанароў і цокат конскіх капытоў — дзед праважаў нас з мамай на цягнік, на станцыю Калінкавічы..."**

**Болей А. Левандоўскі ніколі не быў у Беларусі. Але заўсёды трымаў і трымае ў памяці сваю радзіму. Таму, відавочна, і сведчыць: "...Я прыроджаны беларус і па месцы нараджэння, і па прывязанасці, і так заўсёды вызначаў маю нацыянальнасць у савецкім пашпарце".**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

УГОДКІ

# Кветкі ранняй вясны

### 100 гадоў з дня нараджэння Міхася ЗАРЭЦКАГА

Міхась Зарэцкі (сапраўднае прозвішча Касянкоў, псеўданім узяты ад назвы вёскі Зарэча, што пад Шкловам, дзе прайшло яго маленства, а нарадзіўся ў сяле Высокі Гарадзец — цяпер Талачынскі раён) уваходзіў у літаратуру, як і дзесяткі іншых таленавітых прадстаўнікоў народа, на хвалях рэвалюцыйнага абуджэння і абнаўлення грамадства. І гэтаксама, як і яны, вітаў новае жыццё, аб чым, у прыватнасці, сведчыць яго навела-імпрэсія "Пела вясна":

*"Шумам шырокім шугала ў абшары. Песню ліла непазбыўна-жывучую, смелую, гордую песню.*

*Пела вясна...*

*У шоламе гучным раз'юшаных павадак гімнам расла, расцвітала магутная свежая сіла.*

*Расла, расцвітала. Гарнула цудоўным размахам пудліва-слухмянае сэрца, імкнула ў прасторы, віхурыла ўзлётам шалёным.*

*Парываннем дзівосным хмяліла душу, крамяніла волю сталёвым запалам.*

*Пела вясна...*

*Так смела і горда. Так радасна, шчыра.*

*Пералівала песню ў дражліва-гарэзлівы рогат. Смяялася звонка, задорна.*

*Над старым, струхнелым смяялася.*

*Над тым, што гарбаціцца, курчыцца, курчыцца.*

*Над тым, што гнілой дзеразой засцілае асліглую глебу.*

*Над тым, што баіцца зірнуць у агністы прасцяг, што сонца баіцца гарачага, палкага.*

*Над тым, што нязграбна карожыцца ў брудзе бруснелым..."*

І не толькі вітаў гэтае жыццё, а прымаў самы чынны ўдзел у ім. Спяшаўся вызначыцца, знайсці сваё месца. І адкараскацца ад таго, што звязвала з мінулым. А мінулае — гэта і выхаванне ў сям'і дзяка (кажуць, бацька М. Зарэцкага меў наравісты характар, не ўмеў ужывацца з людзьмі, асабліва з начальствам), і вучоба ў Аршанскім духоўным вучылішчы. У якім апынуўся ў дзесяцігадовым узросце. А таксама — Магілёўская духоўная семінарыя. Праўда, тут яго сумленне чыстае: пакінуў сцены яе, ледзь пачалася рэвалюцыя. Адразу адчуў сябе вольным, быццам тая маладая птушка, якой гэтак хочацца свабоды, жадаецца прасторы і высокага лёту.

Пачалося для М. Касянкова новае жыццё — праца перапісчыкам у паўвайсковай часці, настаўнічанне, загадванне валасным аддзелам народнай адукацыі. Амаль сем гадоў аддаў службе ў Чырвонай Арміі, з'яўляючыся камісарам. Адначасова вучыўся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Ужо не столькі М. Касянковым быў, колькі М. Зарэцкім, бо стаў актыўным аўтарам газеты "Савецкая Беларусь", як празаік на старонках якой дэбютаваў з лютага 1922 года апавяданнем "Спатканне".

Узрадаваны, што ў рэдакцыі падтрымалі, друкаваўся шмат. Бадай, стараўся апраўдаць аванс, "выдадзены" яму гэтай публікацыяй, бо, па праўдзе кажучы, сумняваўся, што напаткае поспех. У аўтабіяграфіі прызнаваўся: "Першае апавяданне сваё напісаў зімой у канцы 1921 года... Справа пачыналася з таго, што я аднойчы ўбачыў яркі і незвычайны сон. Уражанне ад якога не пакідала мяне на працягу цэлага месяца. Мне захацелася занатаваць гэтае ўражанне, і я стаў пісаць. Пісаў я доўга і вельмі старанна, абдумваючы кожную фразу, кожнае слова, закрэсліваючы, перакрэсліваючы і г.д. Працэс пісання мяне дужа хваляваў і ў той жа час падтрымліваў свежасць уражання, якое штурхала мяне на гэту працу. Скончылася тым, што старанна перапісанае апавяданне я паслаў у рэдакцыю газеты "Савецкая Беларусь", аднак без усякай сур'ёзнай надзеі на яго надрукаванне".

Апавяданняў хутка набралася на дзве кнігі. Абедзве — "У віры жыцця" і "Пела вясна" — выйшлі ў 1925 годзе. Затым з'явіліся наступныя — "Пад сонцам" і "42 дакументы і Двое Жвіроўскіх" (выйшлі ў 1926 годзе), "На чыгунцы" (1928), "Ракавыя жаронцы" (1930), у якую ўключаны не толькі апавяданні, а і п'есы "Віхор на балоце" і "Белая ружа". Да ўсяго паспеў у 1926 годзе выдаць аповесць "Голы звер", у 1928-м — раман "Сцежкі-дарожкі". Спяшаўся, нібы прадчуваючы, што творчы шлях будзе нядоўгім. Як спяшаліся і іншыя паэты, празаікі, якія амаль адначасова ўваходзілі з ім у літаратуру. Яны сапраўды былі абуджаны вясной, а вясна — росквіт, свежыя сілы, шмат задумак і іх паспяховае ажыццяўленне.

Безумоўна, не ўсё ўдавалася ў аднолькавай ступені. І М. Зарэцкі — не выключэнне. Патрабавальна паставіўшыся да напісанага ім, няцяжка заўважыць, што з-пад яго пяра з'яўляліся і творы, якія нельга аднесці да набыткаў. Прычына і ў маладосці аўтара, адсутнасці належнага мастакоўскага вопыту, а калі глядзець з вышыні нашага сённяшняга стаўлення да тагачасных падзей, дык і ў той атмасферы, што панавала ў грамадстве, калі нават таленавітыя літаратары (а ў таленце М. Зарэцкаму не адмовіш) вымушаны былі ў многім прыстасоўвацца да ўмоў, пісаць і тое, што адпавядала задачам часу, з'яўлялася ўсяго толькі аператыўным водгукам на падзеі. З другога боку, сёння ёсць магчымасць, па-новаму зірнуўшы на спадчыну М. Зарэцкага, убачыць і тое, што раней знаходзілася па-за ўвагай даследчыкаў.

У адным няма сумнення: М. Зарэцкі — адзін з найбольш яркіх прадстаўнікоў беларускай літаратуры 20—30-х гадоў. Важкія яго набыткі і ў галіне апавядання, але нельга адмаўляць і таго ўкладу, які ўнёс у развіццё жанру рамана. А гэта не толькі "Сцежкі-дарожкі", а і "Вязьмо". Калі ў першым пісьменнік звярнуўся да падзей, што адбываліся, пачынаючы ад Лютаўскай рэвалюцыі і завяршаючы 1920 годам, дык у "Вязьме" адлюстраваны паслярэвалюцыйны перыяд, калектывізацыя. Апошні аспект надае твору асаблівую значнасць, бо аўтар здолеў адысці ад шаблоннага раскрыцця яе. Гэта дакладна прыкмеціў адзін з першых даследчыкаў творчасці М. Зарэцкага А. Майсеенка (ён, а таксама М. Мушынскі напісалі пра яго манаграфіі): "У рамане... няма класавых стэрэатыпаў, адсутнічае "класавая барацьба". Тут мы не знойдзем шаблонных вобразаў кулакоў, якіх было нямала ў савецкай літаратуры... Ён вылучаецца з многіх тагачасных твораў, у якіх адчуваецца недахоп агульначалавечага падыходу".



М. Зарэцкі пісаў яшчэ адзін маштабны твор — "Крывічы". Па сённяшні дзень невядома, ці паспеў аўтар завяршыць яго. Да чытача прыйшла толькі першая частка, апублікаваная ў чацвёртым нумары часопіса "Полымя" за 1929 год. І хоць у канцы значылася, што "працяг будзе", у наступным нумары ён адсутнічаў, тым часам новыя раздзелы ў друкарні набіраліся.

Прычына ў тым, што М, Зарэцкі паспеў трапіць у поле зроку "фіксальных" органаў. Штуршком для гэтага стаў і выпадак, што адбыўся ў 1928 годзе, калі студэнты БДУ Андрэй Александровіч, Алесь Дудар і Міхась Зарэцкі падалі на імя рэктара заяву аб спыненні вучобы. Да ўсяго выступілі з "адкрытым лістом", у якім абураліся, што ў галоўнай вышэйшай навучальнай установе Беларусі знаходзяцца людзі, якія пагардліва ставяцца да беларускай культуры, смяюцца са студэнтаў і выкладчыкаў, калі і яны размаўляюць па-беларуску. М. Зарэцкі, акрамя таго, у "Савецкай Беларусі" выступіў з артыкулам, прысвечаным праблемам нацыянальнага рэпертуару ў кіно. Не адмаўляючы значэння рускай і іншых куль-

# "Я з мовай сеяў і касіў..."

### Да 85-годдзя з дня нараджэння Алеся СУЧКА

Яго не стала раптоўна, хоць нічым не хварэў і не скардзіўся на здароўе. Жыць бы ды жыць...

27 жніўня 1993 года, калі Пятро Дабрыян (Алесь Сучок — літаратурны псеўданім) ляжаў на аперацыйным стале ў Слонімскай бальніцы пасля таго, як упаў і стукнуўся галавой, пра яго ўпершыню паказвалі перадачу, якую зняў Юрка Голуб на Гродзенскім тэлебачанні.

Цудоўная перадача, шчырая і светлая, якім быў і сам Пятро Навумавіч. Ён паспеў папярэдзіць усіх сваякоў, сяброў, аднавяскоўцаў аб гэтым, але больш за ўсё чакаў перадачы сам. Чакаў, але, на жаль, так і не ўбачыў сябе на тэлеэкране. У той жа дзень паэта Алеся Сучка з вёскі Азярніца Слонімскага раёна не стала.

Апусцела, асірацела хата ў роднай вёсцы, дзе шмат гадоў жыў гэты энергічны, рухавы, вясёлы і добры чалавек. Пры жыцці меў вялікую гаспадарку, трымаў кароўку, парсючка, курэй, даглядаў агарод, сад і пасеку. Больш за ўсё любіў частаваць людзей мёдам... Цяпер у гэтым доме жывуць іншыя людзі.

Нарадзіўся Пятро Дабрыян 7 кастрычніка 1916 года ў бежанстве. А калі бацькі вярнуліся дамоў, паступіў у першы клас польскай школы ў вёсцы Мялькнавічы. Вясной 1932 года ўступіў у нелегальную піянерскую арганізацыю. У жніўні 1933 года яго выбралі сакратаром Слонімскага падпольнага райкама піянераў. Аднойчы пасля вечарынкі ў вёсцы Мялькнавічы папрасіў сваіх юных сяброў застацца ў хаце.

—Нам патрэбна навучанне на беларускай мове. Трэба падрыхтаваць забастоўку вучняў, каб адкрыць такую школу.

Юныя падпольшчыкі за некалькі тыдняў размножылі на шапірографе больш за дзвесце пракламацый. А ў сярэдзіне студзеня 1934 года дзеці прыйшлі ў школу і заявілі дырэктару Вішнеўскаму, што жадаюць вучыцца на роднай мове. Для таго гэта быў гром сярод яснага неба. Ачомаўшыся ад нечаканасці, ён са злосцю кінуў:

—Ніколі гэтага не будзе!

Тады школьнікі выйшлі на вуліцу і разгарнулі транспарант са словамі: "Патрабуем школы на роднай мове!" Дзвесце вучняў прайшлі па вуліцах Мялькнавіч, раскідваючы лістоўкі з такім жа зместам.

Праз некаторы час П. Дабрыяна арыштавала паліцыя, а ў верасні 1935 года польскі акруговы суд прысудзіў яго да чатырох гадоў зняволення.

Вершы пачаў пісаць, як сам успамінаў, "яшчэ будучы ў слонімскай турме. Паперы і алоўка мець у камеры адміністрацыя не дазваляла. Але я ўхітрыўся... Пісаў алюмініевай лыжкай на сцяне...". Калі выйшаў на волю, паціху адсылаў вершы ў Вільню. Каб схавацца ад пераследу, падпісваўся — Алесь Сучок.

У 1938 годзе віленскі часопіс "Шлях моладзі" упершыню змясціў яго верш "Я бачыў":

*Я бачыў — усходзіла сонца,*
*З-за горкі зіхцела яно.*
*І яснае, пекла бясконца*
*Свяціла й свяціла ў акно.*

*І песцілі душу праменні,*
*У сэрца мне сілы лілі,*
*У думках ўставалі імкненні —*
*За сонцам плылі і плылі...*

Праз год той жа часопіс друкуе новыя вершы Алеся Сучка "Зіта", "Мне ахвота", "Вясна, вясна, прыйдзі хутчэй". У простай і нязмушанай форме, выкарыстоўваючы традыцыйныя вобразы вясны, сонца, вольнай птушкі, паэт услаўляе свабоду. Пісаў пра жыццё сялянскага хлопца-бунтара, які сядзіць у турме. Герой твораў вясковага паэта быў моцны і рашучы чалавек, які верыў у сілы народа:

*Мы здабудзем перамогу,*
*Бо за намі ўвесь народ.*
*Падымайма ўжо трывогу,*
*Смела пойдзем у паход.*

Сёння творы Алеся Сучка, напісаныя ў трыццатыя гады, маюць, перш за ўсё, літаратурна-гістарычную цікавасць. Гэта, найперш, вершы-заклікі, вершы-лозунгі. Паэт-змагар вучыўся майстэрству ў Валянціна Таўлая, Міхася Васілька, Максіма Танка і ў іншых паэтаў Заходняй Беларусі. Уладзімір Калеснік у кнізе "Сцягі і паходні" (1965 г.) адзначаў, што "мастацкая вартасць неяк паблекла ў смузе часу, але для гісторыі літаратуры такія рэчы, як, напрыклад, вершы Алеся Сучка, маюць сваё значэнне, іх нельга выкінуць, як слова з песні".

Ён быў вельмі актыўным чалавекам. Паспяваў усюды: на пасяджэнне раённага літаб'яднання, на сустрэчы з вучнямі і настаўнікамі, да

тур, іх плённага ўплыву на беларускую літаратуру, мастацтва, тэатр і кіно, не заплюшчваў вочы і на тое, што “мы часта падбіраем усё, што валяецца ў іх на задворках, ад чаго яны самі адмаўляюцца, мы падбіраем замест шэдэўраў бруднае пустое зелле”. Акрамя таго, вульгарызатарская крытыка сустрэла ў штыкі аповесць “Голы звер”. Нарабіў шуму і нарыс у “Савецкай Беларусі” “Падарожжа на новую зямлю”, у якім аўтар як быццам паэтызаваў аднаасобныя сялянскія гаспадаркі.

У “Крывічах” жа М. Зарэцкі хацеў паяднаць гісторыю Беларусі з сучасным яму днём, закранаў працэсы нацыянальнага адраджэння. Стары рэвалюцыянер-народнік Андрэй Беразоўскі, адыходзячы з жыцця, завяшчаў сваёй дачцэ Зене і яе аднадумцам рукапісную кнігу “Пра бацькаўшчыну”. Гэта і не спадабалася тым, хто ў сваёй звышрэвалюцыйнай пільнасці прытрымліваўся класавых прынцыпаў. У 11—12 нумарах “Полымя” за 1929 год з’явіўся артыкул С. Будзінскага “Вораг у доме”. Абвінавачванні былі больш чым сур’ёзныя: “Тое, што надрукавана і што аўтар прапанаваў да друку, заключае ў сабе бессаромную ідэалізацыю нацыянал-дэмакратызму і нацыянал-фашызму. Мы маем паклёп на камуністычную партыю”.

М. Зарэцкі мужна пераносіў гэты і іншыя наскокі. А тыя, хто працягваў рабіць у дачыненні да яго сваю брудную справу, пачалі нагадваць, каб публічна пакаяўся ў дапушчаных памылках, адмовіўся ад рамана “Крывічы”. Калі ж у атаку пайшоў Л. Бэндэ, М. Зарэцкі зразумеў, што неабходна пайсці насустрач гэтым “добразычліўцам”. “Полымю” прапанаваў урывак з рамана “Смерць Андрэя Беразоўскага” пад назвай “Рубеж” (1931, № 2). Збіраўся “развеяць туман рамантычнай ідэалізацыі, у які атулены персанажы “Крывічоў”, і паказаць іх у іхняй праўдзівай сутнасці”.

Гэта дазволіла хоць некаторы час папрацаваць больш-менш спакойна. А арыштавалі М. Зарэцкага 3 лістапада 1936 года. Аб’явілі кіраўніком контррэвалюцыйнай арганізацыі. Трымаўся мужна, нічога не далі і бесперапынныя допыты, што працягваліся чатыры дні, з 20 па 23 мая 1937 года.

Зямны шлях М. Зарэцкага скончыўся 29 кастрычніка 1937-га. Расстралялі хутчэй за ўсё ў Курапатах. Рэабілітавалі яшчэ 7 снежня 1957 года.

Нядоўгай была яго жыццёвая дарога, а творчая тым больш — у літаратуры працаваў усяго нейкіх чатырнаццаць гадоў. Але, на шчасце, паспеў здзейсніць многае. У гэтым упэўніваешся, калі знаёмішся са Зборам твораў у чатырох тамах, які выдавецтва “Мастацкая літаратура” ажыццявіла ў 1990—1991 гадах. А яшчэ М. Зарэцкі пераклаў на беларускую мову раман Ф. Гладкова “Цэмент”, першую частку рамана Я. Гашака “Прыгоды ўдалага ваякі Швейка”, якія, вядома, у Збор не ўвайшлі. Не трапілі туды і асобныя апавяданні, не кажучы пра газетныя матэрыялы. Усё гэта кветкі ранняй вясны, што рэдка калі бывае без замаразкаў, вытрымаць якія так няпроста.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

---

сяброў у госці, адгукнуцца на радасць і дапамагчы ў бядзе. Прымаў актыўны ўдзел у рабоце Слонімскага раённага хору ветэранаў вайны і працы. Спяваў “Зорку Венеру” Максіма Багдановіча, “Цячэ ды стогне Днепр шырокі”, беларускія і рускія народныя песні. Умеў чытаць свае вершы і рабіў гэта як сапраўдны артыст. Ён жыў паэзіяй, у вершах была яго біяграфія, яго хваляванні, яго радасць і трывога:

*Прайшоў я з мовай праз пакуты,*
*Праз дзікі здзек былых паноў.*
*Не раз кайданамі быў скуты,*
*Не раз цярпеў боль бізуноў.*
*Але ад мовы не адрокся:*
*Я з ёю сеяў і касіў...*
*Сваю любоў да роднай мовы*
*Заўжды ў сэрцы я насіў.*

Алесь Сучок ніколі не меціў у вялікія паэты і не думаў пра гэта. Жывучы ў вёсцы, ён дасылаў свае творы ў рэспубліканскія часопісы і газеты. Лепшыя з іх друкаваліся, але ўласнай кнігі так і не дачакаўся. Падборкі вершаў былі надрукаваныя ў калектыўных зборніках “Сцягі і паходні” (1965), “Ростані волі” (1990), “Золак над Шчарай” (1994) і іншых. Бясхітрасныя радкі напоўнены шчырасцю, адкрытасцю і даверам:

*Як жаўрука пачую спеў,*
*У захапленні стану:*
*Так прывітацца б з ім хацеў —*
*Рукою не дастану.*

...Калі мне бывала сумна  і надакучала гарадская мітусня, я ехаў у Азярніцу да Алеся Сучка. Ён радаваўся сустрэчам, любіў людзей, любіў жыць. Такім мне Пётр Навумавіч і запомніўся.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

---

СПАДЧЫНА

Максім
ЛУЖАНІН



# Не забаўлюся, я прыйду...

●

*Скончыўся век, адгуляліся блазны.*
*Час бы падумаць сівой галавой*
*Пра ўсё, з кім быў і за што адказваў,*
*Ці сагрэў чыю душу сваёю душой.*

●

*Вы мне, хлопцы, мацней званіце,*
*Калаціце ва ўсе званы,*
*Не дам голасу, — памяніце*
*Пад мачанку і пад бліны.*

●

*Дзевяць дзесяткаў пройдзена,*
*А не знайшлося ордэна,*
*Нават кавалак славы*
*Не выслужыў у дзяржавы.*

*У веры я не хістаюся,*
*На гэтым і развітаемся.*

●

*Ноччу падзеі ўзрушыць*
*“Хуткая дапамога”.*
*Я, мітусню зачуўшы,*
*Выдыхну з-за парога:*
*— Не трэба мне анічога,*
*Ніхто мне не дапаможа.*
*Я адыходжу...*
*Божа!*
*Прымі мяне, калі можаш.*

●

*Крыху смешнавата, калі жадаюць*
*Мне доўгіх год...*
*А што паробіш, калі трывае*
*Юнацкі завод?*

*Завод трываласці, цвёрдай веры*
*У праўды час,*
*Што зараз-зараз пастукае ў дзверы,*
*Прыйдзе да нас.*

*Траціць надзеі, мінаць падзеі*
*Я не магу,*
*Быццам мядзведзі, спаць безудзельна*
*У берлагу.*

*Многа хадзіў, трапляў і за краты...*
*Як адсядзеў,*
*Багата ўбачыў, жыў небагата,*
*Як у людзей.*

## Амаль партрэт

*Шырокі быў у плячах,*
*Віхры страчаў ён стоячы,*
*Пра болі свае маўчаў*
*Цярплівы той хлебзвадоечнік.*

*Божа!*
*Грахі прымі.*
*Ён цяпер не стыдаецца*
*Перад сваімі людзьмі*
*Чыста адспавядаецца.*

*Доўга мераў шляхі свае,*
*Часта ў бакі пахіствала.*

*Шмат не сустрэта дзіў,*
*Добрае меў за дрэннае,*
*Не адкідаў дарэмнага,*
*Ды без агню хадзіў —*
*Лёсу не збыў ярэмнага.*

*Марна за марамі бег,*
*Не залучыў ніводнае.*
*Сэрца ў ногі табе*
*Паклаў ён, краіна родная.*

●

*Дзяўчынка, мая аднакласніца.*
*Бярэцік пуховы, шаль*
*Гора маё натойчаснае,*
*Першы хлапечы жаль.*

*Як мы з табой спаткаліся —*
*Цяпер хіба ўспамянеш!*
*Можа, пацалаваліся,*
*Але хутчэй што — не.*

*Як мы пазней сустрэліся*
*І гаварыць сумеліся?*
*Як тады развіталіся?*
*Не разумеў у сталасці,*
*Не разумею ў старасці.*

*Мусіць, як брат з сястрою.*
*Ты памахала рукою*
*Услед майму цягніку...*
*Цалую тую руку.*

## Малатарня

*Мова пойдзе аб малатарні,*
*Самай першай з усіх машын,*
*Што пабачыў.*
*А коней пару*
*Паганяў.*
*Малацьбы зачын:*
*Роўна дышаль цягаюць коні,*
*Кола чорнае, ўсё ў зубцах,*
*Паварочваецца і ў разгоне*
*Абуджае рух на таках.*

*Малатарня ў гумне стаяла —*
*Круглы, з пашчаю барабан,*
*Туды кідаў сноп — падавала,*
*Ён, казалі, ў цапы даваў.*

*З году ў год адлятала зерне*
*У краі, дзе засек пусты*
*Адлятала...*
*Назад не вернеш,*
*Хоць нягуста ў саміх тарпы.*

*Мы не лічым свае ахвяры.*
*Век слязамі іх акрапіў.*
*І бязлітасна малатарня*
*Час людзей падае ў цапы.*

●

*Косця Саннікаў,*
*Пашка Малчанаў!*
*Як майму сэрцу вас не стае,*
*Каб вы пачулі, як мне пагана,*
*Вы б паднялі галасы свае*
*На падтрыманне мяне, старога,*
*Вам знаёмага...*
*Крыкнулі б строга:*
*“Эй, Зямля!*
*Што вы там, дактары!*
*Не выпраўляйце яго без пары,*
*Не ўкарачайце ягоны шлях,*
*Мы ўжо дома, а вы ў гасцях”.*

*Не забаўлюся, я прыйду,*
*Толькі ўпраўлюся — верш складу.*

●

*Май удаўся халодны.*
*Гляджу на людзей галодны.*
*Але жыве надзея —*
*Можа, ў нас пацяплее.*

*І з хмарнаватай раніцы*
*Ясны дзень разгуляецца.*

●

*Паламі ты ліміты*
*на радасць і смутак.*
*Станеш вольным,*
*адразу папраўдзе раскутым,*
*І табе,*
*хоць і снег запушыў валасы,*
*Разаднеецца ранак*
*вясновай красы.*

## Трыпутнік

*У доме жыве трыпутнік,*
*Расце на акне ў вазоне,*
*Мусіць, хваробаў смуткі*
*Больш мяне не дагоняць.*

*Днюе ў нас і начуе,*
*Ратуе ад розных боляў,*
*А хто ж нацярпеўся болей*
*За гэту траву малую?*

*Рвуць яго ўсе кабеты,*
*Топчацца ўсё жывое,*
*З падзякай усім за гэта*
*Раны трыпутнік гоіць.*

## Дзівак

*Калі нехта, схадзіўшы ў войска,*
*Смешнай важнасцю набрыняў,*
*Дзівака абзывала вёска:*
*“Гэта Янка з Камарына!”*

*Так даўней казалі дый зараз*
*Кпіны строіць наўкол народ:*
*Хтосьці боцік спусціў на Нарач,*
*Абвясціў жа, што мае флот.*

*Сам сябе выхваляць не хворы,*
*Ён не ўчуе хвалы ад нас,*
*Нарачанцы услед гавораць:*
*“Гэта Янка з Камарына”.*

## Людзі

I

*Злосны інфаркт — і ў нябыт вароты...*
*А ён папатупаў бы па зямлі,*
*Сышоў у яе не сваёй ахвотай,*
*Добрыя людзі дапамаглі.*

*Ворагі? Гэтак сказаць — замнога,*
*Проста розных спраў махляры,*
*Што не пільнуюць свайго парога,*
*Маюць смак у чужым двары.*

*А той, хто раптам пайшоў на водшыб?*
*Не, гэта быў чалавек другі;*
*Калі што думаў, кідаў у вочы,*
*Мог падзяліць кілішак тугі.*

*Працу, вядома, вёў не дармова,*
*А калі трэба, рабіў за трох...*
*Нахіл меў гаварыць прамовы,*
*Гэта яму хай даруе бог.*

*Праўды не ўмеў замыкаць у спраты,*
*Веры свае не даваў на здзек.*
*Жыў не багата, а быў багаты*
*Той —*
*Надзейнай душы чалавек.*

2

*Не злодзей, не пустабрэх,*
*Жыў-быў хлапец звычайны.*
*Ён не любіў прарэх,*
*Што наўкол учашчалі.*

*Ён не мог уявіць,*
*Як абяцаць няўдачу,*
*Як можна нешта зглуміць,*
*Дрэнна зрабіць, спартачыць.*

*Мусіць, трымаўся б так,*
*Каб раптам не сеў за краты.*
*Угаварылі — дзівак*
*Выпіў, згуляў у карты.*

*Прарэзаў, дык аддавай.*
*Дзе ўзяць? Ізноў падказалі.*
*І ён пайшоў рабаваць*
*За гэта і тэрмін далі.*

*Зняволены небарак*
*Лезе ў абдымкі з блатам,*
*Б’ецца, трызвоніць матам.*
*Бывае на свеце ўсяк.*
*Пачатак быў ніштаваты.*

## Равесніку

*Ты многа перажыў і многіх перажыў.*
*Пара знайсці для адпачынку месца.*
*Ці ж многа мар тваіх па свеце прабяжыць,*
*Цябе пераживе і ў людзях адгукнецца.*

●

*Босыя.*
*Па ядзернаму сметніку,*
*Без дажджынкі, нават без расы,*
*Рушымся, нібыта ў апраметную, —*
*Зазываюць продкаў галасы.*
*Усё роўна і пад гэтым крыжам*
*Мы, насуперак лёсу, выжывем.*

## Гавораць пенсіянеры

**Першы:**
*— Хораша цяпер у нас на летніцы,*
*Ступіш з ганку, поруч луг і поле,*
*Лётаюць зайцы, як безбілетнікі,*
*Крок зачуўшы строгага кантролю.*

**Другі:**
*— Ну, і ў нас таксама вельмі хораша,*
*Я амаль што не лічу гадоў.*
*З вудай цэлы  дзень сядзім на Морачы,*
*Галаўнёў цягаем, акунёў.*

**Трэці:**
*— Я скажу, калі да слова змусілі,*
*Дарагоўля скрозь — і ў нас, і ў вас.*
*Што ж датычыць мовы беларускае,*
*Дык яе нідзе ўжо не чуваць.*

Публікацыя
**Тамары МАЛЮЧЭНКІ**

---

ПАМЯЦЬ

Васіль ЖУКОВІЧ

# У вянок Адольфу Варановічу

**Шлях калдобісты, лёд у трэшчынах**
**клаў пад ногі суровы лёс.**
**Ды агмень мастака ТЫ, няпешчаны,**
**па зямлі, па жыцці шчыра нёс.**

**Адзінокі, любіў жа кампанію.**
**І спяваў: “Домик — окнами в сад...”**

**Не ў Германіі і не ў Іспаніі**
**чаравала й натхняла краса.**

**Свет адорваў пейзажамі вабнымі,**
**па людской дабрыні сумаваў.**
**Не цаніўся людзьмі неспагаднымі,**
**беспрытульным свой век дажываў.**

**Бунтаваў супраць фальшы параднае,**
**спатыкаўся, ды праўдзе служыў, —**
**сэрцам жыў.**

**І парой лістападнаю**
**ад жыццёвых нягодаў спачыў.**

**P. S.**
*Ты вярнуўся ў старонку азёрную,*
*дзе найболей любілі цябе.*
*Родны край, тваім словам азораны,*
*сёння вельмі ў глыбокай журбе.*
*24.10.2001*

Ілля ШАХРАЙ

# Абсурдзінкі

## УПУШЧАНЫ ПЭНДЗАЛЬ

Вялікі мастак Адраджэння Ван Дэйк працаваў над партрэтам аднаго тагачаснага караля і ўпусціў пэндзаль. Каранаваная асоба палічыла за гонар падняцца і падаць той пэндзаль паважанаму майстру.

Гэтую гісторыю ведаў аўтар знакамітай карціны "Тры асілкі" Васняцоў.

Магчыма, не ўсе ведаюць, што ў якасці правобраза сярэдняга волата — Іллі Мурамца — жывапісец выбраў самога імператара Аляксандра III.

І вось у час сеанса Васняцоў знарок упускае пэндзаль на падлогу. Двухметровы цар, крэкчучы, нагінаецца і падае пэндзаль славутаму падданаму.

— Вялікі дзякуй, — сказаў Васняцоў.

А трэба заўважыць, Аляксандр III любіў выпіць.

— "Дзякуй" у чарку не нальеш, — адгукнуўся ён.

Васняцоў не разгубіўся і адмераў Яго Вялікасці разбаўкі для фарбаў...

З таго часу на Вялікай Русі пачалі піць розную дрэнь...

## ДОБРАЯ СЛАВА КАШЧЭЯ

Дон Кіхот сканаў...

А Санча Панса неяк Кашчэя Бессмяротнага сустрэў. З асла злез, укленчыў:

— Кашчэйчык, даражэнькі, ты штукар вядомы. Сыграй Дон Кіхота — добрай славы набудзеш.

А яе якраз у пляскатага, як патэфонная кружэлка, Кашчэя і не хапала.

І пачаў ён іграць. Іграў-іграў, аж пакуль іголка не зламалася...

Шкада Санча Панса...

## "СКОН ЛЕБЕДЗЯ"

Геніяльны кампазітар Рыхард Вагнер неяк папікнуў проста кампазітара Сен-Санса:

— У вас не хапіла б таленту нават атруціць Сальеры...

Сен-Санс засумаваў, стварыў геніяльную рэч "Скон лебедзя" і — атруціўся...

## АДНАФАМІЛЬЦЫ

У пачатку дваццатага стагоддзя славутаму мільянеру Ракфелеру рабілі ўстаўную сківіцу. І трэба ж, акурат у гэты момант сусветна вядомы аўкцыён "Соўтбі" выставіў на продаж рэліквію — зуб мудрасці Сакрата. Не вытрываў багацей і купіў за вялікія грошы гэны зуб для сваёй штучнай "хлебарэзкі".

А ці трэба нагадваць, што вялікі філосаф старажытнай Грэцыі быў бедны, сціплы і добры выпівака? Пэўна, таму, карыстаючыся сваёй музейнай сківіцай, мільянер кінуўся ў дзівацтвы. Амаль на ўвесь свой капітал заснаваў дабрачынны фонд свайго імя. Крыху пакінуў сабе — на таннае віно. А потым наогул знік.

"Фонд Ракфелера" існуе і зараз і пры ім — сям'я Ракфелераў. Але гэта — аднафамільцы.

## НАСТУПНЫ

Іосіф Вісарыёнавіч Сталін выклікаў Лазара Майсеевіча Кагановіча.

— Нешта ты вышэйшы за ўсіх у Палітбюро, — сказаў незадаволена правадыр.

— Не, я проста за ўсіх даўжэйшы, — не разгубіўся Лазар.

Прыкладна гэтак адказаў калісьці генерал Ажэро Напалеону.

Але Сталін не адчапіўся:

— Троцкі, Каменеў, Зіноўеў — ворагі, але дзеля рэвалюцыі свае яўрэйскія прозвішчы памянялі на падпольныя псеўданімы. А ты?

— Я таксама памяняў.

— Кінь ты свае яўрэйскія жарцікі!

— Памыляецеся, таварыш Сталін, — пачаў тлумачыць ледзь жывы Кагановіч, — я рускі, але моцна падобны на іудзея, і прозвішча маё было Кабановіч. Я "б" на "г" змяніў.

Сталін амаль разгублена вымавіў:

— А імя і імя па бацьку?

— Дык яны ж, як і ў вас, біблейскія.

Расчараваны, Сталін памаўчаў, потым кіўнуў:

— Ідзі. Скажы там, каб наступны заходзіў.

## І ПАКЛІКАЛІ МАРТЫНАВА...

Пасля няўдалай пушкінскай дуэлі Лермантаў адгукнуўся.

Тут жа яго выклікалі да імператара.

— Мясцовым Байранам мусіш чыніцца? — з'едліва спытала Ягоная Вялікасць.

Прапаршчык Лермантаў не разгубіўся і склаў умомант:

— Не, я не Байран, я другі...

— Па-гусарску зрабіў, з налёту, — задаволена вымавіў цар і працягваў: — За Пушкіна дапішаш "Яўгенія Анегіна!"

— Паэт паэту — воўк, — адказаў Лермантаў.

— Але ж за Моцарта ягоны сябра "Рэквіем" дарабіў, — ужо няўпэўнена прабурчэў імператар.

— Я сам выдумаю свайго "лішняга чалавека"! — усклікнуў паэт.

— Свайго Яўгенія?! Дзе табе, не здолееш! — усклікнуў цар.

— Здолею!

— На заклад, — імператар працягнуў далоню, што нагадвала карту Расійскай імперыі з Чачнёй унізе, — паўцарства аддам!

Каб разняць рукі, паклікалі Мартынава.

— На Каўказ, — загадаў Мікалай I.

Але вось з'явілася аповесць "Герой нашага часу". Вернападданым спадабаўся Пячорын. Мікалаю I трэба было развітацца з паўцарствам...

І тады зноў паклікалі Мартынава.

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"



ПАРОДЫІ

Павел САКОВІЧ

## Каханне з кавай па-турэцку

Стамбул. Атэль "Сантраль".
Нас у пакоі — двое.
Усё наўкол — чужое.
Чужыя й мы амаль...
Той наш раман, на жаль,
Не зможа паўтарыцца.

**Анатоль ЗЭКАЎ**

***Аднойчы я патрапіў у "Сантраль".***
***І ў гэтую шчаслівую хвіліну***
***У нумар падсялілі мне дзяўчыну,***
***Ды незнаёмую зусім, на жаль.***

***Яна маўчыць і я пакуль маўчу...***
***А можа, думаю, яна — турчанка***
***І хтось пільнуе нас ужо на ганку?***
***Ды я ўсё роўна з ёю быць хачу!***

***Кульнуў я чарку і пайшло ўсё лепш...***
***Навошта мне распачынаць гаворку?***
***Зашморгнуў на акне рашуча шторку...***
***Што ж на душы, нібы ад кавы, горка?***
***Раман не атрымаўся.***
***Выйшаў — верш.***

## Паэты, станьце чытачамі!

"Кніга ёсць. Ды бракуе паперы.
О, каб баксаў было да халеры,
Кнігу гладкую выдалі б мігам".
Пяць гадоў я пісаў сваю кнігу.
Сем гадоў нечытанай ляжыць.

**Юрась СВІРКА**

***Паперы некалі было навалам,***
***І лёгка так пісалася раней...***
***Адно — паэтаў часам бракавала,***
***Хоць кніжкі выдаваліся хутчэй.***

***Цяпер паэты ёсць ва ўсіх пасёлках.***
***Ну і настырныя ж яны, браткі:***
***Чытаць і то яшчэ не ўмеюць толкам,***
***А пішуць, не рыфмуючы, радкі.***

***Паэтаў шмат, ды чытачоў замала...***
***Мне думка-роздум галаву дзяўбе:***
***Адразу б чытачоў паболей стала,***
***Каб прачыталі мы саміх сябе!***

## Зорны сейбіт

Няўжо ні разу голас мой і зрок
Не пакідаў адмеціны ў сусвеце,
І помстай будзе мой апошні крок:
"Бывай, жыццё, —
цябе я не прыкмеціў..."?..

**Васіль ЗУЁНАК,**
**"Зорнае зерне".**
**Падборка вершаў**

***Не ў мікраскопы — ў тэлескопы ўсе***
***Глядзіце, крытыкі мае, зайздросце:***
***На Млечны Шлях я выйшаў пакрысе,***
***Бо на Зямлі мне цеснавата штосьці.***

***За мной віецца шлейфам зорны пыл,***
***Зямлю разгледзець толкам замінае.***
***Там людзі ўсе — як на адзін капыл,***
***І месца для адмецін не хапае.***

***А тут касмічны ўсё ж такі размах.***
***Мяне ў Сусвеце за свайго прымаюць:***
***Венера з Дзевай, кажуць, па начах***
***Мой томік лірыкі цішком чытаюць.***

***Мне першымі ківаюць галавой***
***Пры стрэчах зорныя браты-Блізняты...***
***Жыццё ж зямное з вышыні такой***
***Здаецца непрыкметным, драбнаватым.***






Марцін КОЎЗКІ

## Доля праўды

Працуе ў газетным кіёску акадэміі. Прадстаўляецца хлапчук: "Мікола з акадэміі навук".

●

Здаровы смех, што ён можа? Сагрэць, ачысціць, усхваляваць, устрывожыць. Незвычайныя гэта якасці — зацікаўленасць і неабыякавасць.

●

Адно што працаўнік не прыдуркаваты, а то ўзровень гульні ў хакей у нас можна было б узняць далейшым пашырэннем Лядовага палаца. Затрымацца пакуль на ганаровым шостым ці пятым (вышэй нам усё адно не ўдасца), а там відаць будзе, куды, на якое перадавое месца падацца.

●

"Малая зямля" Леаніда Брэжнева і "Новая зямля" Якуба Коласа. Розныя "Землі" — розныя гарызонты. У адной агульны тыраж мільёны экземпляраў, у другой — сотні тысяч. А ўсё рашаецца не колькасцю. У скверы Янкі Купалы ў Мінску кнігі Брэжнева цяпер мяняюць па вазе здадзенай макулатуры на кнігі беларускіх аўтараў, кнізе ж Якуба Коласа — энцыклапедыі беларускага жыцця — заставацца ў вяках.

●

Баімся нападу адзін на аднаго. Па дамове, ніхто не можа напасці першым на другога. Хто будзе першым, хто другім — пра гэта ў дамове ні слова. На тым і трымаецца дамова.





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ,**
**Алесь ГАЎРОН** — *адказны сакратар,*
**Мікола ГІЛЬ,**
**Уладзімір МАРУК** — *намеснік галоўнага рэдактара,*
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Яўген РАГІН,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП** — *першы намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**



**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**
**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**
**паэзіі і прозы — 284-7985**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-8462**
**фота-карэспандэнт — 284-8462**
**бухгалтэрыя — 284-8462**
**Тэл./факс — 284-7965**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2556

Нумар падпісаны ў друк 22.11.2001 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 6874

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12